

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686



У нумары:

**Ён заўсёды любіў Беларусь**

*Эсэ Уладзіміра Саламахі пра Янку Сіпакова*



4-5

**Народ і інтэлігенцыя**

*1920-я: Колас-настаўнік і Колас-публіцыст*



6

**Ва ўмовах вялікай канкурэнцыі**

*Ці пабачаць свет электронныя падручнікі "Вышэйшай школы"?*

9

**Як нараджалася гісторыя…**

*Падарожжа ў часе па Слуцку*

16

**«I, CULTURE» ад Польшчы**

*Якія з 400 падзей міжнароднай культурнай праграмы пройдуць у Мінску?*

18


# Як знічка на небе

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Сяброўства — вялікая сіла. Тым больш калі вытокі свае яно бярэ з гадоў юнацтва. З тых гадоў, калі хочацца адшукаць сапраўдныя ідэалы і гэткіх жа сапраўдных сяброў. Імі для народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова сталі Змітрок Астапенка і Юлій Таўбін. Таксама паэты. Аднак калі талент Аркадзя Аляксандравіча змог раскрыцца ва ўсёй сваёй паўнаце, а лёс наканаваў яму немалое жыццё, то ягоныя сябры пайшлі з жыцця яшчэ ў маладым узросце. Пра гэта згадкі ў паэме-споведзі А. Куляшова "Маналог", моцнай сваім асабістым пачаткам і глыбокім роздумам пра тых, хто, кажучы радкамі ўжо рускага паэта Мікалая Маёрава, "ушли не долюбив, не докурив последней папиросы".**

У гэтым "Маналогу" А. Куляшоў прызнаваўся:

*Я — ваша памяць,*
*вы — маё сумленне,*
*Я — дрэўка,*
*вы — трывалы сцяг на ім.*

Падобная думка пра паяднанасць ягонага лёсу і лёсаў З. Астапенкі і Ю. Таўбіна гучыць і ў іншых месцах "Маналога": "Адзіным дрэвам дружбы мы раслі. // З трох два сукі сякера смерці ссекла"; "Адна ў нас засталася на траіх мая дамоўка". Думкамі з сябрамі юнацтва Аркадзь Аляксандравіч быў і тады, калі пісаў паэму "Далёка да акіяна":

*А не знойдзеш, дзе сябры,*
*Дзе іх пахаванне —*
*Ты ў сваё іх забяры,*
*Калі час настане.*
*Побач з прозвішчам сваім,*
*На адным граніце,*
*Ты пакінь і месца ім...*
*Толькі*
*так*
*дружыце!*

Юлій Таўбін з гэтай сябрыны па ўзросце быў сярэднім, але з жыцця пайшоў самым маладым — усяго ў дваццаць шэсць гадоў, калі куля абарвала ягонае юнае і такое таленавітае жыццё. Дзе гэта адбылося, дакладна сказаць немагчыма. Магчыма, і ў Мінску. Калі вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута, яго ў 1933 годзе выслалі на два гады ў Цюмень. Да расстрэлу ж прыгаварылі 29 кастрычніка 1937 года, хутчэй за ўсё па вяртанні ў Мінск. Назаўтра паэта не стала.

Нарадзіўся Ю. Таўбін 15 верасня 1911 года ў горадзе Астрагожску Варонежскай вобласці (Расія), але ў дзесяцігадовым узросце з бацькамі пераехаў у Мсціслаў, дзе скончыў сямігодку, а потым мясцовы педтэхнікум.

Талент Ю. Таўбіна праявіўся рана. Ужо ў 1926 годзе яго першыя вершы былі апублікаваныя ў часопісе "Маладняк Калініншчыны", а таксама ў газеце "Чырвоная змена". Праз чатыры гады выйшла першая кніга — "Агні". У 1931 годзе з'віліся яшчэ дзве — "Каб жыць, спяваць і не старэць..." і "Тры паэмы". Гэты год для Ю. Таўбіна стаў знамянальным і тым, што ён паступіў у педагагічны інстытут. Плённым быў і 1932 год, пазначаны для яго зноў жа двума выданнямі: зборнікамі "Мая другая кніга" і паэмай "Таўрыда".



У творчасці маладога паэта вызначальным з'яўляўся матыў сяброўства. Як і тыя, хто разам з ім уваходзіў у гэты час у літаратуру (калі пералічыць усіх, атрымаецца больш як дзясятак імёнаў), ён ухваляў савецкую рэчаіснасць, верыў у шчаслівую будучыню — і сваю ды ўсёй краіны. Прынамсі, у вершы "Падсумак" пісаў: "Мы молады, каб згарэць, // Жыць нам трэба... // І жыць мы станем". Яшчэ ў адным вершы — "Смерць" — паняцці "жыць", "жыццё" канкрэтызуюцца, набываючы сваё рэальнае ўвасабленне:

*Будзем жыць, жыць!*
*Жыццё патрэбна ўсім нам, —*
*Паміраць няма ніякай рацыі.*
*Будзем жыць,*
*жыць жыццём уздымным —*
*Хопіць кожнаму з нас працы.*

Юлій Таўбін вітаў змены, што адбываліся на ягоных вачах: "У бурах і ў штурмах, у новай красе // Ўстае перад намі // Аблічча планеты". Безумоўна, у падобных выказваннях яшчэ няшмат свайго. Гэтыя дый некаторыя іншыя творы не выходзяць за межы таго, пра што актыўна пісалі іншыя паэты. Але было і тое, што вылучала Ю. Таўбіна сярод творцаў-аднагодкаў. Ён належаў да тых, хто вучыўся на лепшых узорах літаратуры. Яго асабліва прываблівалі Аляксандр Пушкін, Максім Багдановіч. Апроч таго, Ю. Таўбін старанна вывучаў англійскую літаратуру, каб перакладаць з арыгінала. Дарэчы, частка яго перакладаў увайшла ў "Анталогію новай англійскай паэзіі", выдадзенай у 1937 годзе ў Ленінградзе.

Гэта не значыць, што падобныя ягоныя памкненні прымаліся на "ўра". Наадварот, Ю. Таўбіна абвінавачвалі ў тым, што ён, быццам, стаў рабом буржуазнай літаратуры, знаходзіцца ў палоне ідэалістычнага эстэцтва. Калі ж у пачатку 1927 года праходзіла перарэгістрацыя тых, хто ўваходзіў у "Маладняк", яго выключылі з гэтай літаратурнай арганізацыі. Разам са Змітраком Астапенкам, з Петрусём Броўкам і будучым драматургам Кастусём Губарэвічам, які на той час пісаў вершы і апавяданні.

Толькі Ю. Таўбін быў з тых, хто падобныя наскокі ўспрымае дробязнымі, не вартымі ўвагі. Ён не толькі вершы пісаў і перакладамі займаўся (і не з адной англійскай мовы, па-беларуску пераўвасобіў некаторыя творы Генрыха Гейнэ, Уладзіміра Маякоўскага і іншых), а і старанна абжываў жанр паэмы: "Свеаборг", "Гарадок", "Таўрыда".

Яму, хто востра рэагаваў на тое, што адбывалася ў краіне і свеце (у 1936 годзе ўсесаюзны часопіс "Огонёк", у прыватнасці, апублікаваў ягоны верш "Тэддзі", прысвечаны Эрнсту Тэльману), не чужой была і лірыка. Задумваўся і пра ролю паэзіі і паэта, пра што сведчыць цудоўны верш "Сірано Дэ Бержэрак", у якім Ю. Таўбін вяртае знакамітага француза з вечнасці ў сучаснасць. Той расчараваны:

*Я ўбачыў — паэты цяпер ужо*
*Не чуюць гармоніі слоў...*
*Яны хаваюцца ад даждоў*
*За тарчай пісьмовых*
*сталоў...*

*Шмат свет наш ведаў*
*ганебных плям,*
*Але мы паэты былі,*
*А тут паэт укладае план*
*Сваіх празаічных былін.*

Сам Ю. Таўбін не збіраўся "ўкладаць план сваіх празаічных былін". Канечне, ён не мог вырвацца з часу, у якім жыў. Як і не мог не пісаць пра тое ж, пра што пісалі многія. Ужо хоць бы таму не мог, што шчыра радаваўся світальным ранкам жыцця, таму і вітаў іх: "Гэта нам спявае гімны // Буйны вецер у лісці, — // Мы, адважныя, не згінем, // Пераможам у жыцці". Але ён не мог і "не чуць гармоніі слоў". Тады ўсё гэта вылівалася ў тое, што і патрапляе пад вызначэнне сапраўднай паэзіі. Як у гэтым безыменным вершы:

*Мой махнаты Дунай*
*б'е хвастом ля парога,*
*На прыганку завіўся*
*пукаты гарох...*
*За парканам удаль*
*пралягае дарога,*
*А за даллю ёсць многа*
*прыгожых дарог.*

Жыццё Ю. Таўбіна прамільгнула, як знічка на небе. Напісалася няшмат, але лепшае са створанага заслугоўвае ўвагі. Той, хто пажадае, можа ўпэўніцца ў гэтым, звярнуўшыся да ягонага томіка "Вершы", які ў 1969 годзе выйшаў у "Бібліятэцы беларускай паэзіі".

***Здымак з Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.***

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеямі народных артыстаў Расійскай Федэрацыі Ганну Нетрэбку, Міхаіла Какшэнава і Сяргея Арцыбашава. Адзначыўшы вялікі ўнёсак артыстаў у сусветную культуру, Кіраўнік дзяржавы пажадаў юбілярам здароўя, натхнення, новых поспехаў.

У восьмы раз у Беларусі стартавалі Тыдні Германії. Цэнтральнай тэмай іх у гэтым годзе з'яўляецца асэнсаванне творчай спадчыны паэта Генрыха фон Кляйста, 200-годдзе якога адзначаецца сёлета. Выстаўка, прысвечаная Кляйсту, праводзіцца ў Інстытуце імя Гётэ. Адбудуцца таксама сцэнічныя чытанні яго твораў з удзелам беларускіх артыстаў і паказ дакументальнага фільма "Die Akte Kleist".

Музей фатаграфіі з'явіцца ў Гомелі ў наступным годзе. У ім будзе прадстаўлена гісторыя развіцця фотамайстэрства, якое стала актыўна развівацца ў гэтым рэгіёне ў пачатку XX стагоддзя. Экспазіцыю ўпрыгожаць рэдкія фотаздымкі, калекцыя старых фотаапаратаў і фотаабсталявання. Пры музеі плануецца арганізавацьстудыю, дзе наведвальніку прапануюць зрабіць здымак ў стылі рэтра для сямейнага альбома.

Інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя з'явіўся ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Ён стаў 354-й падобнай навучальнай установай, адкрытай пры садзейнічанні Дзяржаўнай канцылярыі КНР па міжнародным распаўсюджанні кітайскай мовы ў розных краінах свету. І другой у Беларусі пасля Інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ.

Міжнародны музычны фестываль "Залаты Шлягер-2011" пройдзе ў Магілёўскай вобласці 3—9 кастрычніка. Сярод асаблівасцей сёлетняга свята — адсутнасць конкурсу вакальна-інструментальных ансамбляў. Плануецца адрадзіць конкурс маладых эстрадных спевакоў з абавязковым выкананнем рэтрашлягераў.

Выстаўка работ французскай мастачкі Франсуазы Лімузі "Вада і скала" адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску. Тут прадстаўлена каля 70 работ, выкананых тушшу і акрылам на палатне і паперы. Матывы іх навеяны вандроўкамі па свеце.

Завяршаецца рэстаўрацыя фасадаў унікальнага сядзібнага дома ў вёсцы Красны Бераг у Жлобінскім раёне. Сядзібны дом XIX стагоддзя спалучае архітэктурныя прыёмы дзесяці розных стыляў: ракако, маньерызм, ампір, французскі класіцызм. Тут былі гатычныя, рэнесансныя, рамантычныя залы і нават памяшканні ў арабскім стылі. Рэстаўрацыя аб'екта ідзе за кошт рэспубліканскага і абласнога бюджэту. У гэтым годзе на яе затрачана каля 2,5 мільярдаў рублёў.

Тры бронзавыя ўзнагароды прывезлі з V Міжнароднай алімпіяды навук пра Зямлю, якая прайшла ў італьянскім горадзе Мадэна, беларускія школьнікі Аляксей Кірыковіч (Ганцавічы), Дзмітрый Арашкевіч (Наваполацк) і Максім Гуцакі (Бабруйск). Напярэдзе ў прызёраў Мадэны — міжнародная алімпіяда ў нямецкім Кёльне, якая пройдзе ў жніўні наступнага года.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Непераможнае абаянне кнігі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Адбылося ўзнагароджанне новых лаўрэатаў літаратурных прэмій Мінскай вобласці. Імі сталі восем аўтараў у чатырох намінацыях.**



Фота Кастуся Дробава

Члены Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі сабраліся ва ўтульнай гасцёўні Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна за столікамі з гарбатай, кавай і цукеркамі. Цырымонія абвяшчэння пераможцаў абласнога літаратурнага конкурсу нагадвала любімы некалі нашай публікай тэлевізійны "Блакітны агеньчык". Тым больш цёпла і шчыра віталі калегі лаўрэатаў.

У намінацыі "Проза" прысуджалася прэмія імя Кандрата Крапівы. Яе атрымалі сёлета Наталля Голубева за гістарычны раман "На скрыжаванні дзвюх дарог" і Зіновій Прыгодзіч за дакументальную аповесць "Шлях поўні". У намінацыі "Паэзія" прэмія імя Максіма Багдановіча была прысуджана Валянціне Гіруць-Русакевіч за зборнік вершаў "Мовай сэрца" і Уладзіміру Ласенку за кнігу "Шчыра кажучы…" У намінацыі "Крытыка і літаратуразнаўства" прэмія імя Паўлюка Труса была ўручана Дзмітрыю Вінаградаву за кнігу "Хойнікшчына: легенды, падзеі, людзі" і Барысу Далгатовічу за яго працу-дослед "Кузніца кадраў". У намінацыі "Дзіцячая і юнацкая літаратура" лаўрэатамі сталі Генадзь Аўласенка за кнігу "Дзівосныя прыгоды маленькага Вятрыскі з вентылятара" і Вольга Савасцюк за зборнік дзіцячых вершаў, апавяданняў і казак "Палахлівы матылёк".

Пераможцы атрымалі дыпломы з рук намесніка старшыні Мінскага аблвыканкама Віктара Шэдзькі, які запэўніў літаратараў, што кіраўніцтва Мінскай вобласці надавала і надае вялікае значэнне духоўнай і выхаваўчай дзейнасці пісьменнікаў. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец падзякаваў Мінскаму абласному выканаўчаму камітэту за паважлівае стаўленне да пісьменніцкай працы і пажадаў прысутным новых творчых задум і натхнення. Пасля прафесійных літаратараў віншавалі школьнікі-пераможцы конкурсу "Юныя таленты Міншчыны" — яркая пісьменніцкая змена.

***На здымку: вось яны, нашы пераможцы.***

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**Уладзімір Аляксеевіч ЛАЗАР**
**празаік**

Нарадзіўся 5 кастрычніка 1951 года ў в. Цешэўля Баранавіцкага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працуе ў ЗАТ "Белнасоспром". Аўтар кніг "Игра без правил" (1996 год), раманаў "Оглянись на Лилит" і "Преуспеть на Тверской" (абедзве — 2009 г.).



**Віктар Фёдаравіч РАШКЕВІЧ**
**празаік**

Нарадзіўся 14 ліпеня 1946 года ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Друкуецца ў часопісах для дзяцей ("Качели", "Рюкзачок"), выдаў тры кнігі прозы для дзяцей: "Про лисёнка Фоку и его друзей" (2007), "Новые приключения лисёнка Фоки и его друзей" (2009) і "Путешествие лисёнка Фоки и его друзей в дальние страны" (2011).



**Яніна Георгіеўна ЖАБКО**
**празаік, паэтэса**

Нарадзілася 14 кастрычніка 1936 года ў с. Валяцічы Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Маскоўскі вочна-завочны ўніверсітэт мастацтва (па класе баяна). Трыццаць гадоў адпрацавала музычным кіраўніком у дзіцячай дашкольнай установе. Выдала 12 кніг.

## За падзеяй



# Нашае багацце

Кацярына ДЗЕМЯНЧУК,
фота Кастуся Дробава

**15 верасня Беларусь адзначыла Дзень бібліятэк. Традыцыйна гэтае свята адкрываюць на плошчы перад будынкам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У імпрэзе ўзялі ўдзел прадстаўнікі ўлады ў сферы культуры, а таксама бібліятэчная грамадскасць з розных рэгіёнаў краіны.**

Святочныя мерапрыемствы пачаліся каля помніка Францыску Скарыне. Уладары мільёнаў кніжных паліц прыйшлі падзякаваць і пакласці кветкі чалавеку, які даў беларусам кнігу і прынёс асвету. Віншаванні ў адрас бібліятэкараў прагучалі ад намесніка міністра культуры Т. Стружэцкага, дырэктара НББ Р. Матульскага. Адбылася таксама і святочная цырымонія прыняцця ў рады бібліятэкараў Беларусі маладых спецыялістаў.

У прафесійнае свята адбылося і адкрыццё выстаўкі "Сам сабе мастак" — сумеснага праекта Беларускай Бібліятэчнай Асацыяцыі і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Выстаўка падрыхтавана па выніках конкурсу, што праводзіўся сярод супрацоўнікаў бібліятэк. У экспазіцыю ўвайшло каля 70 работ, выкананых таленавітымі і крэатыўнымі бібліятэкарамі краіны ў розных відах мастацтва — жывапісу, скульптуры, ткацтве, саломцы, вышыўцы, дызайне адзення. Журы адабрала лепшыя працы ў некалькіх намінацыях, пераможцы якіх атрымалі ўзнагароды.

## Конкурсы

# Пішам, малюем, фантазіруем!

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ

"Энергія нашай будучыні" — такі творчы конкурс у рамках інфармацыйна-адукацыйнай акцыі "Свет — у тваіх руках!" праводзіць Інфармацыйны цэнтр развіцця атамнай энергетыкі (РАТЭН) Дома прэсы ў 2011—2012 навучальным годзе. І дапамагаюць яму ў гэтым рэдакцыі часопісаў "Бярозка", "Маладосць" і газеты "Зорька".

Энергазберажэнне і экалогія, развіццё ядзернай энергетыкі і новых перспектыўных відаў энергіі, будаўніцтва АЭС у Беларусі — тэматычная прастора конкурсу. Намінацыі мерапрыемства — апавяданне (казка, гумарэска), верш, эсэ, малюнак (комікс, карыкатура). Кожны аўтар можа паўдзельнічаць адразу ў некалькіх!

Лепшыя творы на беларускай мове будуць надрукаваныя ў "Бярозцы" і "Маладосці". Аўтарам, якія пішуць па-руску, дапаможа быць пачутымі газета "Зорька".

Аўтары павінны ўказваць сваё імя, прозвішча, узрост, месца вучобы, хатні адрас і кантактны тэлефон. Для налічэння аўтарскага ганарару за апублікаваныя творы неабходна прадаставіць пашпартныя звесткі (серыя, нумар, дзе, калі, кім выдадзены пашпарт, асабісты нумар). Творы прадстаўляюцца ў электронным альбо папяровым выглядзе. Тэксты на беларускай мове дасылайце на адрас часопіса "Бярозка", на рускай — у газету "Зорька". Ну а малюнкі чакае Інфармацыйны цэнтр РАТЭН РУП "Дом прэсы".

Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў будзе прымеркавана да Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі" (май 2012 г.). Па выніках конкурсу будзе выдадзена кніга найлепшых твораў.

Літабсягі

# Старонкі прыгожага пісьменства

Святлана ШЧАРБАКОВА

**У бібліятэцы-філіяле № 11 г. Мінска прайшла прэзентацыя кніг серыі “Залатое пяро” выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Прэзентацыя адбывалася ў межах акцыі “Разгортваем кнігу — адкрываем свет”.**



“Золата ў золаце” — так можна пададць гэтую серыю. Знакамітыя імёны, варты ўвагі змест, шыкоўнае афармленне — любое выданне можна смела назваць з’явай у беларускай літаратуры і шэдэўрам паліграфічнага мастацтва. І зусім не выпадкова ў бібліятэку ў гэты дзень завіталі пісьменнікі Віктар Шніп і Раіса Баравікова. Гасцей сустракалі не толькі супрацоўнікі бібліятэкі, але і старшакласнікі СШ № 43, 143, 117 г. Мінска, іх настаўнікі і школьныя бібліятэкары.

Сустрэча прайшла ў выглядзе вечара пытанняў і адказаў. Пачаў яе галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” Віктар Шніп. Серыя “Залатое пяро” — яго задума. У ёй выйшаў уласны зборнік Віктара Анатольевіча “Страла кахання — любові крыж”. Кніга з’яўляецца своеасаблівым сплавам дзённікавых запісаў, вершаў і прозы. У 2008 годзе яна адзначана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Раіса Баравікова цікава распавядала пра сваё жыццё і творчасць. Абаяльная жанчына, таленавітая паэтэса... Яна сама вельмі падобная да сваіх лірычных герaінь: такая ж шчырая і ранімая. Менавіта такіх жанчын мужчынам хочацца кахаць і берагчы. У серыі “Залатое пяро” выйшаў зборнік яе вершаў “Дрэва для райскай птушкі”.

У кожнага з нас у душы ёсць своеасаблівая скарбонка, куды мы “складваем” сустрэчы з надзвычайнымі людзьмі. І Раісе Баравіковай, і Віктару Шніпу наканавана пры жыцці быць узорам для кожнага з нас. Акрамя таго, гэтыя людзі не цураюцца беларускай мовы. Для іх яна — і штодзённасць, і праца, і захапленне. Наогул, трэба адзначыць, што Дзень бібліятэк у нашай краіне даўно перастаў мець вузкаспецыфічнае значэнне прафесійнага свята. Ён выкарыстоўваецца руплівымі бібліятэкарамі ў якасці яшчэ адной цудоўнай нагоды для прапаганды кнігі і кніжнага слова, узняцця іміджу пісьменнікаў і пісьменства, залучэння ў храм ведаў — бібліятэку — новых чытачоў.

***На здымку: аўтографы на памяць удзячным чытачам ад Раісы Баравіковай і Віктара Шніпа.***

Артлінія

# Над Мінскам крочыць Шагал

Марына ВЕСЯЛУХА, фота Кастуся Дробава

**Звычайна асоба слыннага мастака Марка Шагала суадносіцца не са сталіцай Беларусі, а з Віцебскам. Але ў дадзеным выпадку больш лагічна гаварыць пра Мінск, бо менавіта тут, у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, дзякуючы мецэнацкай дапамозе замежнага прыватнага прадпрыемства “Брытыш-Амерыкан Табакка Трэйдынг Компані”, з’явіўся новы экспанат. Гэта скульптура Святланы Гарбуновай “Мастак і горад. Марк Шагал”.**

Сама аўтарка скульптуры падчас урачыстай цырымоніі перадачы экспаната Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі распавяла, што ідэя гэтай работы прыйшла да яе далёка ад радзімы, калі Святлана Рыгораўна знаходзілася ў ЗША. Працу над праектам яна скончыла ў 1994 годзе. І ўвесь гэты час — 17 год — скульптура знаходзілася ў прыватнай калекцыі майстра. “Шагал пакінуў Беларусь у дастаткова маладым узросце, — зазначыла Святлана Гарбунова, — але праз усё жыццё і творчасць, працуючы ў Парыжы, Нью-Ёрку, пранёс кавалачак радзімы. Для нашай краіны гэта сімвалічна. Сімвалічна і для творцы. Марк Шагал пражыў досыць доўгае жыццё, але мне ён заўсёды ўяўляўся маладым, такім, якім быў у Віцебску. Мастак і родны горад — непарыўна звязаныя. Шагал над ім узвышаецца і чэрпае з яго новыя сілы і творчае натхненне. Гэтая ідэя легла ў аснову скульптуры”.



Рыгор Сітніца, намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў, падкрэсліў, што акцыя перадачы гэтай каштоўнай для нашай культуры работы яшчэ раз сцвярджае аксіёму: бараніі свае, і будзеш ушанаваны сусветнай супольнасцю. Менавіта Шагал, як ніхто іншы, ушанаваўшы родныя традыцыі, свой родны горад, уславіў і нашу зямлю, зрабіў Віцебск прыкметным і паважаным у свеце.

Многія замежныя мастакі, якія хочуць свае творы прэзентаваць у Беларусі, імкнуцца ў Віцебск, бо яны ведаюць, што там — Шагал, Малевіч, Пэн і шмат цікавых асоб. Для моладзі гэта самы пераканаўчы прыклад. Славу прынясе не тое, што за светам, а тое, што побач, трэба толькі шанаваць яго і любіць. Яно адплоціць тым самым.

Ужо на наступны дзень пасля прэзентацыі новая скульптура заняла сваё месца ў экспазіцыі сучаснага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. “У нас ужо ёсць партрэт Шагала, выкананы яго настаўнікам Юдалем Пэнам, — заўважыў дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, — тэматычную лінію прадоўжыць скульптура Святланы Гарбуновай. Гэтая падзея падаецца асабліва сімвалічнай напярэдадні 125-гадовага юбілею мастака, які мы будзем адзначаць у наступным годзе”.

***На здымку: удзельнікі цырымоніі ўрачыстай перадачы скульптуры “Мастак і горад. Марк Шагал”.***

Повязі

# Дні культуры Кітая ў Беларусі

Вераніка ЛАЗОЎСКАЯ

**17—20 верасня паспяхова прайшоў візіт афіцыйнай дэлегацыі КНР на чале са старшынёй Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў У Банго ў Рэспубліку Беларусь. Падчас візіту былі дасягнуты пагадненні ў палітычнай, інвестыцыйна-фінансавай галінах, у сферы адукацыі. Вельмі хутка беларусаў чакае сустрэча з іншым кітайскім вопытам — культурным. З 25 верасня па 2 кастрычніка ў Беларусі пройдуць Дні культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі. Акцыя ладзіцца ў адказ на Дні культуры Беларусі ў КНР, якія адбыліся ў кастрычніку 2010 г.**

25 верасня Дні культуры афіцыйна адкрые канцэрт Аркестра майстроў кітайскай нацыянальнай музыкі на Вялікай сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Таксама ў межах праграмы будзе прэзентаваны шэраг выстаў: “Кераміка і фарфор Кітая”, “Сучаснае мастацтва валакна Кітая” і іншыя.

Упрыгожваннем Дзён культуры Кітая ў Беларусі можна смела назваць прыезд дэлегацыі прадстаўнікоў медыясферы і кітайскіх мастакоў: Бі Фуцзяня, Яо Шаохуа, Хо Чуньяна, Хуан Яня, Лі Бісяя, Цуэй Юна, Ма Сяоцына, Дун Кэчэна, Лю Гуанціна, Чэнь Шупіна, Мэн Цінсуна і Ян Цзюньцзюня. Дэлегацыю ўзначальвае Бі Фуцзянь — знакаміты вядучы і рэжысёр Цэнтральнага кітайскага тэлебачання.

Паводле інфармацыі Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, якая дапамагае ў арганізацыі візіту, запланавана шмат мерапрыемстваў з удзелам кітайскіх мастакоў і журналістаў. Так, адбудуцца сустрэчы з намеснікам прэм’ер-міністра Анатолем Тозікам, міністрам культуры Паўлам Латушкам, кіраўніцтвам Беларускага саюза мастакоў і “Белтэлерадыёкампаніі”.

27 верасня ў Палацы Мастацтваў адкрыецца выстаўка кітайскіх мастакоў. Асаблівую ўвагу наведвальнікаў, безумоўна, прыцягнуць імёны Яо Шаохуа і Хо Чуньян.

Яо Шаохуа называюць “каралём тыграў”, бо гэтая жывёла часта з’яўляецца на яго палотнах. Карціны вядомага мастака ўпрыгожваюць Дом Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў, Маўзалей Мао Цзэдуна, урадавую рэзідэнцыю Чжуннаньхай. Творы Яо Шаохуа шмат разоў экспанаваліся ў ЗША, Канадзе, Сінгапуры і г.д.

Яшчэ адна знакавая фігура ў складзе дэлегацыі — мастак Хо Чуньян. Ён працуе ў межах манеры гохуа — сучаснага кітайскага жывапісу вадзянымі фарбамі на шаўковых і папяровых скрутках. Асноўная тэматыка яго прац — кветкі і птушкі.



***На здымку: карціна “караля тыграў” Яо Шаохуа.***

З-пад пяра

Творчы вечар пісьменніка Віктара Арцем’ева прайшоў у кіназале Магілёўскага абласнога палаца культуры. Сустрэцца з літаратарам прыйшло нямала аматараў чытання. Юныя артысты народнага тэатра Палаца культуры чыталі ўрыўкі з яго кніг і вершы паэта Аляксея Пысіна, сяброўства якога з Віктарам Арцем’евым доўжылася амаль тры дзесяцігоддзі. Страціўшы сябра, Віктар Іванавіч стаў руплівым даследчыкам яго жыцця і творчасці, склаў зборнік “Вянок Аляксею Пысіну”, выдаў успаміны “Паэт вузел завязаў” і фотаальбом “Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў”. На вечарыне Віктару Арцем’еву была ўручана Ганаровая грамата Упраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта.

**Леанід ІСКРАЎ**

Грамадскасць Пінска выказала жаданне назваць адну з вуліц горада імем кардынала Казіміра Свёнтэка. Гарадская і абласныя ўлады падтрымалі ініцыятыву. Вуліцай кардынала Свёнтэка стане ўчастак вуліцы Веры Харужай ад вуліцы Леніна да вуліцы Дняпроўскай ваеннай флатыліі. Менавіта тут знаходзіцца каталіцкая семінарыя, а пад алтаром касцёла спачывае кардынал.

**Леанід СЛАВІН**

Выстаўка фотамастака Вячаслава Алешкі “Прыроды цудныя імгненні” адбылася ў Брэсце ў межах IX Рэспубліканскага экалагічнага форуму, прысвечанага Году лясоў. Наведвальнікі выстаўкі атрымалі магчымасць пазнаёміцца з лепшымі працамі фотамастака, на якіх застылі ў сваёй прыгажосці і непаўторнасці расліны і жывёлы з розных куткоў Беларусі (Бярэзінскі біясферны запаведнік, Налібоцкая пушча, Прыпяцкае Палессе), Расіі (Запаляр’е, Сібір, Далёкі Усход) і нават Афрыкі.

**Уладзімір БАРЫСЮК**

Парты з нахілам, лічыльныя палачкі, падручнікі, сшыткі, алоўкі, піянерская форма, дзённік, пахвальныя лісты ды іншыя школьныя рэчы савецкіх часоў прадстаўлены ў экспазіцыі выстаўкі “Вялікі перапынак” у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. На выстаўцы, якая ствараляся з дапамогай гараджан, прадстаўлена больш як 600 экспанатаў. Пасля яны зноў вернуцца ў сямейныя калекцыі. Падтрымалі ідэю калег і супрацоўнікі Нацыянальнага гістарычнага музея, Нацыянальнага мастацкага музея, Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея. Дзякуючы агульным намаганням на выстаўцы можна пабачыць рэчы з розных часоў. У тым ліку і тых школьнікаў, якія сталі знакамітымі.

**Дар’я ШОЦІК**

Паэтычны канцэрт “МУЗЫКАСЛОВЫ”, прысвечаны Міжнароднаму дню музыкі, адбудзецца 1 кастрычніка ў музеі Янкі Купалы. Станецца ён працягам, ці чарговым мерапрыемствам, распачатага вясной мінулага года адметнага праекта, імпрэзы якога стваращца на памежжы сучаснай музычнай і вершаванай творчасці. Усіх, хто завітае ў музей а 16-й гадзіне, чакаюць неардынарныя музычныя і паэтычныя прэзентацыі, сустрэчы з маладымі крэатыўнымі аўтарамі.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае шчырае спачуванне намесніку начальніка Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ірыне Уладзіміраўне Дрызе ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю БАЦЬКІ.

# Ён заўсёды любіў

**Янка Сіпакоў… Незабыўны Іван Данілавіч… Светлы чалавек. Спагадлівы… А спагада ягоная была такая, з якой, як кажуць людзі, зыходзіць усё лепшае, чым чалавек можа адарыць іншага, не патрабуючы нічога ўзамен. І была яна вядомая ўсім тым, хто знаўся, сябраваў, проста таварышаваў з Іванам Данілавічам або толькі аднойчы сустракаўся з ім на якой жыццёвай сцяжыне — ці то светлай, ці то сумнай…**

**Уладзімір САЛАМАХА,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі**
**Рэспублікі Беларусь**

І калі я вазьму на сябе смеласць сказаць, што гэтая ягоная чалавечая якасць па сённяшнім часе, здаецца, не такая ўжо і частая з'ява ў якім-небудзь асяродку, у тым ліку і творчым, ці калятворчым, дык гэта так. І як бы са мной ні пагаджаліся тыя або іншыя прадстаўнікі згаданых асяродкаў, тым больш тых, што найперш "па асабістых інтарэсах і памкненнях", нічога не зменіцца: "имеет место быть" жыццёвая з'ява — адарванасць і адмежаванасць ад людзей любога з нас непазбежна вядзе да гэтага.

Але разам з тым, а можа, найперш, наогул такая спагада — адна з тых жыццядайных асноў, што дазваляюць чалавеку заставацца чалавекам у любых, нават самых неспрыяльных для яго абставінах… (Пра гэта сведчаць само жыццё і літаратура, у прыватнасці, і многія творы Янкі Сіпакова.)

Узгадваючы Івана Данілавіча, ведаючы яго біяграфію, чытаючы творы паэзіі, прозы, нарысістыкі, эсэ гэтага слыннага майстра роднага слова, адзначаеш для сябе, вядома ж, услед за тымі, хто пісаў пра яго, што сіпакоўскія спагада і дабрыня былі дадзеныя яму ад нараджэння. Гэта, як заўважаў адзін наш класік, увасабляецца ў тым, калі чужы боль становіцца тваім болем.

Зрэшты, такое асэнсаванне або паняцце спагады, на жаль, не заўсёды і не ўсімі, нават творцамі, успрымаецца як належнае, і сёння яно шмат дзе не ў пашане: баліць толькі сваё… А калі, здараецца, і ўспрымаецца, то, як заўважана тым жа Іванам Данілавічам у яго кнізе "Наталенне смагі", яно не заўсёды выклікае дзеянне: сталася так, што ў грамадстве нібыта нявыгадна быць шчырым і спагадлівым; маўляў, трэба дбаць толькі пра сябе. (Для Сіпакова такое было непрымальным.)

І яшчэ, у сувязі са згаданым, скажу наступнае: творы Янкі Сіпакова, гэтаксама як і творы многіх нашых сапраўдных пісьменнікаў (толькі пералік паэтаў і празаікаў яго пакалення тут заняў бы шмат месца — у прыватнасці, многія з іх названы мною ў кнізе "Сусвет дабрыні", у матэрыяле, прысвечаным гэтаму пакаленню), яскрава сведчаць вось пра што… Але абдзеленасць такімі якасцямі любога чалавека робіць, ператварае ў чалавечыка, і тут ніякія нашы пасады і званні не выратоўваюць. Са школы ведаем, ды і літаратура вучыць, што быць чалавекам наогул вельмі і вельмі няпроста… Таксама — адна з суровых і горкіх адзнак жыцця, і пра яе Іван Данілавіч пісаў шмат.

Пакаленні, калі ўжо размова зайшла пра іх, — Караткевіча, Сіпакова, Стральцова, Жука, Гардзея, часткова Рубанава і Казлова (вядома, мяжа ўмоўная), як бы сёння каму не хацелася прызнаваць гэта, асабліва графаманам, былі і застаюцца самымі творча (і не толькі творча) адукаванымі. Многія творы найбольш здольных літаратараў гэтых пакаленняў у свой час годна папаўнялі тую беларускую літаратуру, якой мы па праве ганарыліся і ганарымся. (І як тут не пагадзіцца з тымі, хто "в сердцах" кажа, што будучае літаратуры — яе мінулае!)

Яны — паэты, празаікі, крытыкі, літаратуразнаўцы, драматургі тых пакаленняў — вучыліся ў класікаў. Класікі стварылі паняцце кнігі як такой (з усім, што яна нясе і павінна несці). Яны, пакаленні гэтых нашых сучаснікаў, ведалі і ведаюць жыццё. Яны ішлі ў жыццё, каб у сваіх творах сцвярджаць яго. Яны таксама ўмацавалі ў грамадстве (і Сіпакоў, вядома ж) разуменне кнігі, калі браць літаратуру, як жыватворнай крыніцы ведаў, пісьменнасці, мастацкасці, чалавечага духу... Сёння ж толькі абыякавы да ўсяго не бачыць, што нямала хто з маладых і, што асабліва крыўдна, таленавітых выведзены з сапраўднай літаратуры (аналізуйце, нязгодныя, чаму і кім) і творчасць



многіх з іх скіравана, як казаў класік (рускі) "мимо жизни", скіравана пад крывадушныя фанфары і гідлівыя апладысменты і г.д.

І калі мы чуем "дайце твор", дык павінныя над гэтым задумацца: ці даём хаця б нешта падобнае на твор (з усім, што і вызначае яго), або проста гуляем у "клясікаў" і "классиков", цешачы сваё дробненькае самалюбства.

Усё гэта, між іншым, вельмі хвалявала Янку Сіпакова як пісьменніка і як надзвычай адукаванага чалавека. Ён кепскае бачыў, адчуваў, разумеў і адносіўся да ўсяго як да нашай агульнай бяды.

І яшчэ: Іван Данілавіч амаль два дзесяцігоддзі ў пісьменніцкім Саюзе адказваў за работу з маладымі, тады непасрэдна пры яго ўдзеле і клопаце былі адкрытыя дзясяткі імёнаў таленавітых літаратараў. Але пасля нямала хто з іх, стаўшы аўтарамі адной-двух кніг, найчасцей у знакамітай "Бібліятэцы часопіса "Маладосць", адышоў ад літаратурнага працэсу (прычын шмат і розныя, а бяда ад гэтага, паўтаруся, наша агульная). Вось — адна з умоў, якая дазволіла графаманіі, часта ваяўнічай, упэўненай у сваім "величии" або "велічы", "красавацца" там, дзе павінна быць сапраўдная літаратура. (Мабыць, недарэмна графаманію параўноўваюць з пранікаючай радыяцыяй.)

"Якая літаратура?" — можа спытаць хто з чытачоў. Адкажу так: мастацкая. Зноў жа, падкрэслю, сапраўдная літаратура, а не тая падробка пад яе, што запаланіла ўсё і ўся, літаратура з усімі тымі паняццямі, якія яе вызначаюць. Канечне ж, не так званая самапальная. І не "пиповская" — тэрмін расійскага пісьменніка Юрыя Палякова, дзе "пип" расшыфроўваецца як "персонифицированный издательский проект", калі на вокладку выносіцца нейкі вобраз, імя, якое ствараюць "літрабы". (У нас іх таксама хапае.) І таксама не тая, з дазволу сказаць, "літаратура", якая нясе ў грамадства, да чытача "дремучую" пісьменнасць, усё іншае, патыхаючае гнілым словам (у Бібліі пра яго, слова такое, сказана), але па якой часта нібыта пісьменніцкія здольнасці аўтара вызначаюцца не мастацкімі вартасцямі напісанага, а колькасцю выдадзенага.

Так, літаратура — сапраўдная (яе вызначэнне задоўга да нас давалі класікі), гэта ведае кожны старшакласнік, але, як паказвае рэчаіснасць, ведаюць далёка не ўсе такія "пісьменнікі". (Прыкладаў таму шмат.)

Часта яны не тое што не ведаюць самага простага, напрыклад, як правільна пабудаваць сказ, а нават (не жартую!) колькі літар у алфавіце і якія яны, тым больш законаў мовы, ды чым адзін жанр адрозніваецца ад другога!..

> *"Калі мы чуем "дайце твор", дык павінныя над гэтым задумацца: ці даём хаця б нешта падобнае на твор (з усім, што і вызначае яго), або проста гуляем у "клясікаў" і "классиков", цешачы сваё дробненькае самалюбства.*

Да ўсяго, карыстаючыся тым, што розныя абставіны "вывелі" з творчага працэсу некаторых слынных майстроў слова і проста добрых літаратараў, сапраўдную літаратуру імкнецца падмяніць сабой і журналістыка, прычым не лепшая. (Хаця, як ведаем, у свой час у літаратуру з журналістыкі прыйшло нямала аўтараў, але ўжо як здольных, адукаваных пісьменнікаў. Ды і Янка Сіпакоў, па сутнасці, прыйшоў у вялікую літаратуру з журналістыкі, папрацаваўшы ў раёнцы, затым — са студэнцкіх гадоў — у часопісе "Вожык".)

Так, Янка Сіпакоў у беларускай літаратуры займаў далёка не апошняе і нават не "сярэдняе" месца, займае і будзе займаць незалежна ад таго, будуць яго ведаць або ігнараваць тыя, хто разбурае сваімі як быццам кнігамі літаратуру. Яго творы перакладзеныя на многія мовы свету — няма патрэбы іх называць, аматарам літаратуры яны вядомыя — і праз створанае Сіпаковым таксама, як праз напісанае іншымі нашымі творцамі той пары любая яму Беларусь увайшла ў еўрапейскі, ды і іншы, літаратурны кантэкст. І не дзіўна, што Янка Сіпакоў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч культуры. Пры гэтым адзначу, надзвычай сціплы і адказны перад людзьмі і сабой чалавек, для якога (я гэта добра ведаю) архіважным было: "Што пра мяне падумаюць людзі, калі нешта зраблю, скажу не так…"

Мабыць, такое стаўленне Івана Данілавіча да людзей і дало яму права аднойчы, сутыкнуўшыся з чарговай несправядлівасцю да сябе як да чалавека і літаратара (хадзі, прыніжайся, выпрошвай, каб выдалі) сказаў: "Каб хто спытаў, якое з усіх чалавечых пачуццяў у мяне большае за ўсё, я б не задумваючыся адказаў: пачуццё справядлівасці! Быццам бы ганаруся гэтым. А яно ж такое звычайнае для кожнага нармальнага чалавека пачуццё! Аднак дзякуючы яму я не пакрыўдзіў, не абразіў ніводнага чалавека за ўсё жыццё". (Ці многія з нас, калі ўжо так, могуць такое сказаць пра сябе?)

Але менавіта так аднойчы сказаў пра сябе Іван Данілавіч. Сказаў, усё сваё свядомае жыццё памятаючы тую горыч несправядлівасці, якую некалі ў раннім дзяцінстве ён, першакласнік, сірата, адчуў ад чалавека, да якога цягнуўся ўсім сэрцам... Бацькоў яго закатавалі фашысты (гадавала цётка). А было так: настаўніца неяк выправіла Іванку і яго аднакласніка выразаць дубчык, каб паказаць на ім, што такое метр. І дзеці паўсюль старанна шукалі прамы пруцік, ды захапіліся так, што прыйшлі са знаходкай у клас позна. Настаўніца ж замест таго, каб пахваліць (так стараліся!), паставіла іх у кут… "…Вось тая дзіцячая крыўда ад несправядлівасці не прайшла, не забылася і сёння — яна ўсплывае з памяці, калі нехта беспадстаўна крыўдзіць мяне дарослага…"

Гэта цытаты з кнігі Я. Сіпакова "Наталенне смагі", якую ён пазначыў як "дзённік настрою". Яна выйшла ў 2007 годзе ў выдавецтве "Чатыры чвэрці". Гранічна даверлівая да чытача — у ёй пісьменнік адкрывае многія вельмі далікатныя грані сваёй душы — з першай да апошняй старонкі прасякнутая святой верай у чалавека, які яе будзе чытаць.

У той жа кнізе з пэўнай доляй гаркаты і самоты Іван Данілавіч, які вельмі і вельмі шмат пабачыў і перажыў у сваім жыцці скажа і такое, горкае: "Справядлівасць — лішняя на сённяшні час катэгорыя. Пачуццё справядлівасці ў нашу скрушную пару толькі замінае чалавеку жыць". І тут, крыху падумаўшы, адкажа і сам сабе, і чытачу. "А калі яно не замінала?" Ды прыгадвае свайго земляка, аршанскага старосту Філона Кміта-Чарнабыльскага, які пра сваё шаснаццатае стагоддзе пісаў: "Хто каго не пекне цераз нагу". І далей Іван Данілавіч вельмі трапна расстаўляў акцэнты, засяроджваючы ўвагу вось на чым: "І ўсё ж прага справядлівасці засланяе часта вочы, абурае, б'е ў скроні, затуманьвае розум і змушае гнеўна хваляваацца сэрца".

У Івана Данілавіча гнеўна?.. Можа, у сэрцы так, але ж ён ніколі не паказваў гэта, насіў у сабе, мабыць, баючыся, не дай Божа, каго пакрыўдзіць. І калі яго крыўдзілі (было, і неаднойчы, — ведаю, бачыў), не азлабляўся: "Хай…", ды сыходзіў… Так, што "гнеўна", дык калі б мне было дазволена самім Іванам Данілавічам (а можа, і дазволіў бы?), дык я ў адносінах гэтага вызначэння да яго самога не згадзіўся б: чалавек і пісьменнік Янка Сіпакоў ад крыўды і несправядлівасці, якія нярэдка адчуваў і ў жыцці, і ў творчасці, ніколі не азлабляўся, і розум яго не затуманьваўся.

Кажу гэта з поўнай перакананасцю таму, што меў гонар і шчасце працаваць побач з ім амаль два дзясяткі гадоў, бачыў, як ён ставіцца і да аўтараў, і калег, і наогул да людзей. І потым, не трацячы з ягонай ласкі калі не таварыскіх, дык проста звычайных чалавечых адносін, не раз бачыў, што ён не разумеў, чаму і навошта яго крыўдзяць, асабліва як літаратара.

Адна з такіх надта цяжкіх, невытлумачальных для Івана Данілавіча крыўд была тая, што тычылася лёсу яго незвычайнай кнігі эсэ "Зялёны лісток на планеце Зямля", гэтага своеасаблівага, ім створанага партрэта любай яму Беларусі… Але адно з выдавецтваў нібыта далікатна адмовілася выдаваць кнігу. Цытую яго словы: "Сказалі, што вельмі патрыятычная". Пасля асабіста мне, на той час галоўнаму рэдактару "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі", гэтыя словы пацвердзілі супрацоўнікі таго выдавецтва: я ў іх не пытаўся, проста патэлефанавалі, даведаўшыся, што мы будзем друкаваць кнігу, парадавацца за слыннага пісьменніка.

Ну што ж, тое, што сярод нас, нават пісьменнікаў, заўсёды былі "патрыёты" на пасадах, ведаем. Яны ёсць і будуць (прыстасаванства — з'ява неўміручая, зноў жа тыя ж класікі сцвярджалі…)

Так, ёсць патрыёты па пасадах. Ёсць тыя, што жывуць па законе — і "тым", і "гэтым", ці, як людзі кажуць, і "нашым" і "вашым". Дзеля сваіх выгод яны цынічна выкарыстоўваюць шмат што, у тым ліку і найвышэйшае і найсвяцейшае чалавечае пачуццё — любоў да Радзімы. (Са сціплай годнасцю чалавека і мастака Іван Данілавіч грэбаваў удзельнічаць ва ўсялякіх групоўках, тым больш у тых, дзе высвятлялася, хто больш любіць радзіму.)

Ён з тых, у каго любоў і патрыятызм да радзімы — генетычныя. Такія ніколі нават не дадумаюцца, напрыклад, вось да такога, што неяк сказаў мне адзін паэт, калі я спытаў у яго, чаму ён і "нашым", і "вашым": "Трэба пачакаць, хто пераможа". І дачакаўся, нават займеў пасадку — стаў патрыётам па пасадзе….

Дык вось, тады Іван Данілавіч прынёс да нас у выдавецтва электронны варыянт (без афармлення) кнігі "Зялёны лісток на планеце Зямля". Расказаўшы, чаму яе не выдалі там, недаўменна спытаў нібыта сам у сябе: "Няўжо патрыятызм — гэта загана?"

Я адказаў, як мог, што заўсёды, ва ўсе часы былі людзі, якія па розных прычынах спрабавалі "прыватызаваць" патрыятызм, нібыта любоў да радзімы, вымяраючы яго і яе з асабістых выгод. (Гэта ён, канечне ж, ведаў лепш за мяне.) Прывёў факты з літаратуры, калі, напрыклад, які крытык ці крытыкеса ў сваіх рэцэнзіях фактычна адмаўляе права таго ці іншага аўтара пісаць патрыятычныя творы, маўляў, да вас пісалі ўжо… Ды ці мала што…

# Ва ўмовах вялікай канкурэнцыі

**У сучасным свеце ўсё імкліва змяняецца. Гэтыя змены асабліва ўплываюць на сродкі атрымання і перадачы інфармацыі. У гэтай галіне, здаецца, не засталося нічога, што не было б звязана з інфармацыйна-камунікатыўнымі тэхналогіямі. Камп'ютар устойліва ўвайшоў у жыццё: праз Інтэрнэт даведваемся пра навіны, тут шукаем патрэбную інфармацыю, а ў апошні час нават пачалі знаёміцца з новымі кніжнымі выданнямі і далучацца да віртуальнага чытання. Як гэтыя змены адаб'юцца на культуры чытача? Ці заменіць электронная кніга звычайную? Якія змены ў гэтым сэнсе адбудуцца ў навуцы і адукацыі? Напрыклад, Міністэрства адукацыі краіны плануе правесці эксперымент — выпусціць для некаторых школ электронныя падручнікі. Добра гэта ці дрэнна? Вось галоўныя пытанні, якія мы абмяркоўвалі з дырэктарам выдавецтва "Вышэйшая школа" Аляксандрам Нячаем.**

Кацярына БЯДУЛІНА,
фота Кастуся Дробава

### Цяжкасці распаўсюджвання

— Сёння выдавецтва "Вышэйшая школа" — адно з буйнейшых у Беларусі. Больш як 50 гадоў на айчынным кніжным рынку, гандаль на тэрыторыі дзяржаў-удзельніц СНД. Калі параўноўваць з пачаткам 2000-х гадоў, выдавецтва не змагло адысці ад сусветных тэндэнцый: колькасць назваў павялічваецца, а сярэдні тыраж выданняў змяншаецца. Гэта звязана з пытаннямі распаўсюджвання прадукцыі ў замежных краінах. У прыватнасці, гэта Расійская Федэрацыя. Тут адбыліся досыць сур'ёзныя ваганні ў заказах. Калі, напрыклад, у канцы 1990-х гадоў мы выдавалі занадта вялікія тыражы кніг, асабліва вучэбных дапаможнікаў для вышэйшых навучальных устаноў, то пастаўлялі іх у Расію. Цяпер тэндэнцыя істотна змянілася ў сувязі з тым, што ў кожнай з краін былога Савецкага Саюза ёсць свае заканадаўчыя акты, якія патрабуюць правядзення кантролю зместу вучэбнай літаратуры, выканання санітарна-гігіенічных правіл і норм. Гэта натуральна, але таксама з'яўляецца перашкодай: пастаўкі кніг у Расію і іншыя краіны СНД значна скараціліся.

### Што выдаём?

— Выдавецтва "Вышэйшая школа" выпускае літаратуру для навучальных устаноў рэспублікі. Тыпы нашых выданняў па мэтавым прызначэнні: навучальныя, даведачныя, вытворча-практычныя, навуковыя, навукова-папулярныя, кнігі для вольнага часу. Асаблівай увагі заслугоўвае серыя выданняў для абітурыентаў. Вучэбныя дапаможнікі гэтага тыпу ахопліваюць як тэарэтычную аснову розных дысцыплін, так і практычны аспект прадмета. Штогод выпускаем і даведнікі для абітурыентаў, якія змяшчаюць поўную інфармацыю пра ўсе навучальныя ўстановы Беларусі.

Адной з найбольш важных спецыялізацый выдавецтва з'яўляецца падрыхтоўка і выпуск кніг на замежных мовах — англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай, кітайскай. Працуем над выданнем дапаможнікаў для ВНУ, у ліку якіх асаблівай папулярнасцю карыстаюцца кнігі па медыцыне і прыродазнаўчых навуках. Больш за тое, "Вышэйшая школа" актыўна супрацоўнічае з Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэтам і выдае літаратуру медыцынскага профілю.

У параўнанні з савецкім і постсавецкім перыядамі цяпер не даводзіцца казаць пра тое, што літаратуры не стае. Калі сёння зайсці ў любую кнігарню, на паліцах можна ўбачыць адзін і той жа вучэбны дапаможнік, але падрыхтаваны ў розных выдавецтвах. Даводзіцца працаваць ва ўмовах вялікай канкурэнцыі. Таму мы друкуем тое, што можа прынесці камерцыйны поспех на рынку — напрыклад, дапаможнікі для вучняў і настаўнікаў сярэдніх школ, дадаткі да нашых падручнікаў па замежных мовах.

### Найноўшыя камунікатыўныя тэхналогіі

— Электронныя рэсурсы даюць магчымасць досыць хутка атрымаць інфармацыю з розных крыніц. "Вышэйшая школа" становіча ставіцца да таго, каб нашы выданні ў Інтэрнэце маглі быць даступнымі для чытачоў. Але, натуральна, гаворка ідзе не пра вольны доступ, бо мы, камерцыйная арганізацыя, затрачваем шмат часу, сіл і сродкаў на падрыхтоўку выданняў. Для нас такая новая магчымасць працаваць з кнігай, натуральна, — прарыў. Так робяць цяпер ва ўсім свеце — атрымаць прыбытак не толькі праз выданне папяровых кніг, але і ад продажу магчымасцей карыстання электроннай прадукцыяй.

### Электронная кніга ці звычайная?

— Калі можна выкарыстоўваць электронную версію, то чаму не. Гэта такая тэндэнцыя. Гэта зручна. Можна бачыць тэкст на экране манітора камп'ютара, айпода і г.д. Значна больш часу траціцца на тое, каб выдаць звычайную кнігу: пошук паперы, сама пастаўка кніг на кніжны рынак і г.д. Але… Абмежавальным фактарам з'яўляецца нераспрацаванасць нарматыўна-прававой базы, якая павінная рэгламентаваць умовы карыстання і распаўсюджвання электроннай літаратуры выдавецтва. Тут ёсць праблема: калі друкаваныя выданні знаходзяцца пад кантролем і існуюць пэўныя санітарна-гігіенічныя нормы, то з электроннымі значна складаней, уся сістэма пакуль не адпрацаваная.

### Бліжэйшыя планы

— У хуткім часе "Вышэйшая школа" плануе адкрыць электронную краму, праз якую можна будзе не толькі заказаць і набыць звычайную кнігу, але і пазнаёміцца і "спампаваць" электронны варыянт выданняў. Спадзяёмся, гэта дапаможа пашырыць кола чытачоў і заказчыкаў. Наша прафесійная правіла: "Заўсёды рухацца наперад з патрабаваннямі часу!"

*__Прэзентацыі__*

# Паміж зямлёй і небам

Лявон ЦЕЛЕШ

**Імя Любові Карповіч добра вядома на Маладзечаншчыне. Доўгі час яна працавала ў раённай газеце і на раённым радыё. Напісала кнігу "Дарога даўжынёй у 100 год", прысвечаную 100-годдзю лакаматыўнага дэпо Маладзечна. Любоў Карповіч з'яўляецца таксама ўкладальніцай гісторыка-дакументальнай хронікі Маладзечна і Маладзечанскага раёна "Памяць".**




Нядаўна Маладзечанская друкарня "Перамога" выдала яе новую кнігу "Ад зямнога — да нябеснага", прысвечаную гісторыі многіх праваслаўных храмаў рэгіёна. У кнізе прадстаўлена гісторыя храмаў, якія былі пабудаваныя як у далёкіх XVI—XVII стагоддзях, так і зусім нядаўна.

Матэрыял для выдання падрыхтаваны па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Прадмову напісаў галоўны рэдактар "Маладзечанскай газеты" Алесь Лазоўскі. Выданне аздоблена шматлікімі фотаздымкамі.

*__У падтрымку чытання__*

Кацярына ДЗЕМЯНЧУК

## Вольга Акуліч, вакалістка рок-гурта і аўтар песень:

# Пра складанае — проста

— Апошнім часам чытаю няшмат. І не столькі з-за недахопу часу, колькі з-за таго, што свядома абмяжоўваю сябе. Не ганюся за навінкамі і моднымі творамі і абсалютна не камплексую з-за таго, што не прачытала той або іншы нашумелы раман. Калі сябры-знаёмыя дораць мне свае любімыя кнігі, то абавязкова іх чытаю. З апошніх прачытаных — "Ціхі цэнтр" Тамары Ліціцкай, "Вяровіца" Алеся Камоцкага. Увогуле, у плане літаратуры я "ўсяядная": як нельга харчавацца толькі ікрой, трэба і бульбачкі пад'есці, так і на адным "высокім мастацтве" хутка заробіш язву. Люблю навукова-папулярную літаратуру, прыгодніцкія раманы, фантастыку. Але ж у кожным жанры ёсць літаратура, а ёсць макулатура.



Адну асаблівую Кнігу выдзеліць не магу. У розныя часы і ў розных сітуацыях гэта былі самыя розныя творы. Каратковіч! Уплыў аказала шмат што. Ад "Эканомікса" Самуэльсена (падручнік, які чытаецца як раман) да "Дыктатара" Сяргея Снегава (сацыяльная фантастыка), ад "Цяжка быць Богам" братоў Стругацкіх да "Суполкі ля вогнішча" Леры Сом (аповесць гэтая так і не выйшла асобнай кнігай, толькі ў часопісе, і я рада, што была яе першым чытачом, то бок "друкачом"), ад "Філасофскіх казак" Мікалая Казлова (яго кнігі варта чытаць, каб павучыцца проста гаварыць пра складанае) да альбома, прысвечанага беларускаму народнаму касцюму. У хвіліну смутку магу перачытваць Хайнлайна "Пятніца, якая забівае" (і гэта гарантавана паляпшае настрой).

На паліцы

# Первые советские словари

Вячеслав АФАНАСЬЕВ

Октябрьская революция, опрокидывая и разрушая в своём быстром движении все представления и понятия, вызвала потребность в новом, совершенно отличном от прежних изданий, научном политическом словаре, который бы мог удовлетворить потребности нового читателя. С этой целью правительство создало несколько издательств: в Москве — "Прометей", в Ленинграде — "Прибой". Организованные в них редакции приступили к выполнению поставленных задач. Сначала работники просмотрели свыше 500 номеров пяти популярных московских и петербургских газет и выписали на карточки все слова, которые потенциально вызвали сомнение в правильном их понимании. Таким образом, редакции имели в виду в основном практические требования обыденной жизни и вносили в словарь только то, что считали необходимым для среднего читателя: рабочего, красноармейца, учителя, студента, слушателя совпартшколы. Причём в словарях общее всегда предпочиталось специальному, а из специального бралось только то, что было в обиходе и общей печати.

Первые словари появились уже в 1922 году в огромном количестве — несколько тысяч экземпляров. Несмотря на это, в следующем году вышло второе издание, правда, со значительными исправлениями. Затем словари переиздавались каждые два года.

В моём книжном собрании имеется несколько таких словарей. Вот, например, "Политический словарь. Краткое научно-популярное толкование слов". Вышел он в 1927 году в "Прибое" под общей редакцией Б. Эльцина. В предисловии к IV изданию редакция пишет: "Современная политическая жизнь быстро движется вперёд. За последние годы в политической (особенно в международной) обстановке произошёл ряд изменений. Политсловарь в своих изданиях должен не отставать от жизни, а отличать все изменения, всё новое и существенное, происшедшее за это время. При таком быстром поступательном ходе событий политсловарю угрожает опасность перестать быть кратким популярным словарём. Чтобы не дать ему разбухнуть, пришлось наряду с дополнением материала сократить и частью отказаться от объяснений несуществующих слов, устаревших или имеющих к политсловарю лишь косвенное отношение".

Чрезвычайный интерес для нас представляет справка о нашей республике: "**Белорусская ССР** — входит в состав СССР на правах союзной республики. Впервые была провозглашена после германской революции и ухода немцев в начале 1919 года, но пала через несколько месяцев под напором польских панов. 11 июля 1920 года Минск был освобождён от поляков, и Белоруссия стала снова советской, хотя значительная часть её на Западе по Рижскому договору отошла к Польше. Территория ок. 52 т. кв. км. Центр — Минск. Население — ок. 2 миллионов, преобладают белорусы; имеются поляки, евреи, русские. Главное занятие — земледелие".

Несколько шире представлена наша страна в "Настольном энциклопедическом словаре-справочнике", выпущенном в том же 1927 году московским издательством "Прометей": "Белорусская советская социалистическая республика — образована в 1919 году. Составная часть СССР. По соглашению с РСФСР с 1924 года в состав её отошли дополнительно части Витебской и Смоленской губерний. Площадь — 89194 кв. км. Население ок. 4.000.000 человек, преимущественно белорусы (сельское) и евреи (городское). Главный город — Минск. Основное занятие населения — земледелие. Крупной промышленности нет. Широко развиты кустарная промышленность и ремёсла. Много винокуренных, крахмальных, мыловаренных, кожевенных заводов. Развита лесная промышленность и спичечное производство".

Конечно, в наше время пользоваться подобными словарями нет смысла. Если они и представляют какой-то интерес, то только исторический.

# Праўда пра дыяспару

Эмануіл ІОФЕ, прафесар БДПУ імя М. Танка, доктар гістарычных навук

**Чытачы чакалі гэтай кнігі даўно — як толькі ўтварылася незалежная беларуская дзяржава. Менавіта тады ў шырокіх колах грамадскасці ўзрасла цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі, да нашых суайчыннікаў за мяжой, якіх сёння, паводле розных звестак, налічваецца ад трох да трох з паловай мільёнаў чалавек.**

Як кажуць, ісціна пазнаецца ў параўнанні. Людзі старэйшага ўзросту памятаюць дзве пазіцыі кіраўніцтва БССР у адносінах да беларускай дыяспары на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Гэтую тэму або імкнуліся замаўчаць, або ў пераважнай большасці выпадкаў яе ацэньвалі негатыўна.

Памятаю, калі я ў пачатку 1970-х гадоў, будучы аспірантам Інстытута гісторыі АН БССР, пісаў кандыдацкую дысертацыю пра навуковую дзейнасць У. Пічэты, то пасля месяца працы над даследаваннямі беларускіх гісторыкаў у Англіі загадчык спецсховішча Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР імя Я. Коласа сказаў мне: "Я раю вам не спасылацца на іх даследаванні, бо гэта будзе для іх занадта высокая пашана". Калі ацэньваць сітуацыю пасля 1991 года, то становіцца відавочным, што ў жыхароў нашай рэспублікі рэзка вырасла цікавасць да гісторыі і культуры беларускай дыяспары.

І адразу варта вызначыцца, што мы маем на ўвазе, калі кажам "беларуская дыяспара". Тэрмін "дыяспара" паходзіць ад грэчаскага слова "diaspora" ("рассейванне"), так, гэта слова доўгатэрміновае ці часовае пражыванне значнай часткі народа (этнічнай супольнасці) па-за межамі дзяржавы (гістарычнай тэрыторыі) свайго паходжання.

У апошнія 20 год у Беларусі і за яе межамі пабачылі свет дзясяткі кніг і сотні артыкулаў па гісторыі і культуры беларускай дыяспары. Чым жа істотна адрозніваецца ад іх выданне "Беларускае замежжа. Белорусское зарубежье", якое выйшла ў канцы 2010 года ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" і складальнікам якога з'яўляецца дасведчаны знаўца беларускай дыяспары кандыдат гістарычных навук Н. Голубева?



Гэта сапраўды ўнікальнае ў нашай краіне і ва ўсім свеце выданне, якое разглядае рассяленне выхадцаў з беларускіх зямель, культурныя каштоўнасці беларусаў замежжа, уклад ураджэнцаў Беларусі ў развіццё цывілізацыі, адносіны дзяржавы і прадстаўнікоў беларускага замежжа. У кнізе выкарыстана істотна большая колькасць разнастайных крыніц, чым у ранейшых працах, прысвечаных гэтай тэме.

У "Беларускім замежжы…", як нідзе дагэтуль, падрабязна раскрываецца тэма "Беларусы ў краінах СНД", а калі больш дакладна, то ў Расіі (акрамя таго, асобна — у Маскве і Санкт-Пецярбургу), ва Украіне, у Латвіі, Літве, Эстоніі, Малдове, Казахстане. На вельмі высокім узроўні разглядаюцца тэмы пра беларусаў у Вялікабрытаніі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі, нямала карысных звестак для сябе знойдзе чытач у артыкулах "Беларусы ў Польшчы", "Беларусы ў Аргенціне".

У выданні спалучаецца навуковасць і папулярнасць. Кніга двухмоўная: левая палова старонкі — на беларускай мове, правая — на рускай. "Беларускае замежжа" выйшла на высокім узроўні паліграфічнага выканання: датнай паперы і вельмі багата ілюстравана цікавымі і каштоўнымі дакументамі, многія з якіх сапраўды ўнікальныя. Можна толькі павіншаваць выдавецтва з рэалізацыяй такога праекта.

Адным з самых каштоўных і з'яўляецца пяты раздзел, дзе прыведзены тэматычны агляд дакументаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь па гісторыі беларускай эміграцыі (І. Дарагуш), агляд дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі па гісторыі міграцыйных працэсаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай XV—XVIII стст. (Г. Брэгер, Л. Іванова), па палітычнай эміграцыі і перасяленчым руху ў Беларусі пры канцы XVIII—XIX стагоддзяў, эміграцыі і перасяленчым руху ў Беларусі ў XIX — пачатку XX стагоддзя (паводле дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі — А. Галубовіч, Д. Лісейчыкаў, Д. Яцкевіч). Т. Афанасьева прадставіла вельмі змястоўны агляд дакументаў па гісторыі беларускай дыяспары ў Дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі ў горадзе Гродна. Пісьменнікам, крытыкам, літаратуразнаўцам, гісторыкам, дзеячам культуры і мастацтва будзе вельмі карысна азнаёміцца з тэматычным аглядам дакументаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва па гісторыі беларускай эміграцыі, які падрыхтавала Т. Кекелева.

Нягледзячы на шматлікія вартасці выдання, на жаль, яно не пазбаўлена шэрагу недахопаў. Маю на ўвазе і артыкул "Выхадцы з Беларусі ў Ізраілі". Па сутнасці, гэта кароткі пераказ біяграфічнага даведніка "Беларускія яўрэі ў Ізраіле", аўтарам якога з'яўляецца аўтар гэтых радкоў і які выйшаў у Мінску ў выдавецтве "Ковчег" у 2000 годзе (аднак у публікацыі не даецца ніводнай спасылкі на яго). Акрамя таго, шэраг фактычных памылак прысутнічае ў згаданым артыкуле

Так, на старонцы 292 ураджэнец Бабруйска, адзін з актыўных удзельнікаў стварэння яўрэйскай дзяржавы, кіраўнік і ідэолаг рабочага руху ў Эрэц-Ісраэль Б. Кацнельсон названы Б. Канцэльсонам. Гэтая ж памылка паўтараецца і на рускай мове. Ураджэнец горада Ваўкавыска Зерах Варгафціг 14 мая 1948 года падпісаў Дэкларацыю аб незалежнасці Ізраіля. Але аўтар артыкула памылкова называе яго З. Вархавігам (стар. 292). Сапраўднае прозвішча дзявятага прэзідэнта Ізраіля, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Шымана Пераса — Перскі, а не Персні, як памылкова пазначыла аўтар Г. Левіна на 295-й старонцы.

Фактычныя недакладнасці маюцца і ў іншых артыкулах.

У артыкуле "Беларусы ў Казахстане" на старонцы 248-й адзначана, што сярод рэпрэсаваных на тэрыторыі Казахстана адбываў высылку акадэмік Акадэміі навук БССР гісторык Е. Раўлін. На самай справе гаворка ідзе пра дзяржаўнага і партыйнага дзеяча БССР, загадчыка сектара навукі і культуры ЦК Кампартыі Беларусі, члена Прэзідыума АН БССР Езекііла Ісаакавіча Рыўліне, а не Раўліна.

Адначасова трэба адзначыць, што такія выданні, як "Беларускае замежжа…", даюць магчымасць зрабіць больш поўнай гісторыю беларускай нацыі, яе культуры і мастацтва, садзейнічаюць павышэнню прэстыжу нашай краіны ва ўсім свеце.

Азбука Морзэ

Марына НАРЧУК, Чэслава ПАЛУЯН

● У Львове адбылася падзея года для тых, хто чытае кнігі, выдае, прадае, піша ці проста любіць іх гартаць. Прайшла найбуйнейшая імпрэза Украіны, прысвечаная літаратуры, — "Форум выдаўцоў у Львове".

"Форум" — гэта цэлы комплекс літаратурных і культурных акцый. На працягу 5 дзён іх праходзіла столькі, што паўдзельнічаць ва ўсіх было амаль нерэальным. Цудоўна, што ўдзел у "Форуме" мог рыняць кожны, пляцоўкамі для імпрэз сталі як установы адукацыі, так і кафэ і кнігарні горада.

Аснову імпрэзы склалі 5 галоўных падзей: XVIII Львоўскі міжнародны кніжны кірмаш; Усеўкраінскі конкурс "Найлепшая кніга Форуму"; VI Львоўскі міжнародны літаратурны фестываль; IV Львоўскі міжнародны выдавецкі кніжны бізнес-форум; II бібліятэчны форум. Асабліва цікавымі для гасцей-беларусаў сталіся Літфэст і бібліяфорум.

У фестывалі прынялі ўдзел больш як 250 гасцей з 20 краін. Ганаровы госць сёлетняга фэсту — Швейцарыя.

Што да бібліяфоруму, яго ініцыятарам стала Украінская бібліятэчная асацыяцыя (УБА). Прайшоў ён у самай буйной бібліятэцы горада — Навуковай бібліятэцы Львоўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Івана Франко. На сустрэчу былі запрошаныя супрацоўнікі ўсіх бібліятэк Украіны, выдаўцы, пісьменнікі, палітыкі, а таксама прадстаўнікі замежных бібліятэк і бібліятэчных асацыяцый.

Загадчык аддзела культурна-асветніцкай працы Навуковай бібліятэкі Раман Лаўрэнцій зазначыў, што, на жаль, культурныя сувязі з іншымі краінамі абмежаваныя, кніжны абмен з часоў распаду СССР амаль спынены, таму "Форум выдаўцоў" — цудоўная магчымасць наладзіць супрацоўніцтва з айчыннымі і замежнымі выдавецтвамі. "Іншаземная літаратура трапляе да нас менавіта праз іх, — сцвярджае Раман. — Форум з'яўляецца грамадскай арганізацыяй і працуе з выдаўцамі ўвесь год, а не толькі ў межах мерапрыемстваў".

Насамрэч, "Форум выдаўцоў у Львове" — гэта цудоўная падзея, дзякуючы якой і ў беларусаў з'явілася магчымасць наладзіць стасункі з украінскім кніжным рынкам.

▬ Калектыў Дома кнігі "Светач" ААТ "Белкніга" ўзнагароджаны граматай за вялікі ўклад у развіццё міжнароднага кнігаабмену ў межах Садружнасці незалежных дзяржаў. Рашэнне прынята праўленнем Асацыяцыі кнігараспаўсюджвальнікаў СНД сумесна з Міждзяржаўным саветам па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі. Урачыстая цырымонія ўзнагароджання адбылася ў Маскве, падчас XXIV Маскоўскай кніжнай выставы-кірмашу.

● Паштовая служба ЗША выпускае ў зварот серыю з дзесяці марак, прысвечаных выдатным паэтам XX стагоддзя. Сярод іх будзе і марка з выявай Іосіфа Бродскага. Пры яе стварэнні быў выкарыстаны фотаздымак паэта, зроблены вядомым нью-ёркскім фатографам Нэнсі Кромптан. Акрамя таго, у серыю "Паэты XX стагоддзя" ўвойдуць маркі ў гонар Элізабэт Бішап, Гвэндалін Брукс, Э. Э. Камінгса, Роберта Хейдэна, Дэніз Левертаў, Сільвіі Плат, Тэадора Рэтке, Уолеса Стывенса і Ульяма Карласа Уільямса.

▬ Англійская газета *The Guardian* распачала акцыю *Book Swap* (абмяняйся кнігамі), у ходзе якой жыхары Вялікабрытаніі могуць знайсці кнігі ў самых розных месцах. На працягу шасці тыдняў 15 тысяч выданняў будуць раскладзены ў грамадскіх месцах па ўсёй краіне: на чыгуначных станцыях, у парках, кавярнях і музеях. У брытанцаў ёсць шанс знайсці кнігі любых жанраў: ад раманаў і дзіцячай літаратуры да дапаможнікаў па дызайне і навуковых даведнікаў. У ходзе акцыі ўсе ўдзельнікі могуць самі пакінуць дзе-небудзь кнігу з паведамленнем для таго, хто яе знойдзе.




**Казалось бы, время тотального увлечения музыкой культовой группы из Ливерпуля *The Beatles* прошло. Группа распалась ещё в 1970-м, музыкальные пристрастия новых поколений слушателей либо сместились в сторону жёсткого рока, либо стали "попсовыми", гламурными… Но не тут-то было. Хоть и не встретить сегодня на улицах парней с причёсками а-ля Ринго Старр, хоть и отличаются современные мелодии от "битловых", *The Beatles* присутствуют в современной культуре. В чём это выражено? Их музыка жива (хотя бы потому, что *"Close your eyes, and I'll kiss you…"* сейчас звучит у меня в наушниках), о битлах помнят старые поклонники, да и молодое поколение к их песням относится не как к мёртвому памятнику культуры, но как к живому организму. Именно поэтому многочисленные трибьюты *The Beatles* (концерты, на которых отечественные исполнители играют песни культовых групп), международный Beatles-фест "Ob-la-ki, Ob-la-ka" (этим летом он прошёл в Витебске) неизменно собирают полные залы слушателей, да и групп, желающих принять в них непосредственное участие, всегда хватает. Не обошлось и без влияния *The Beatles* на литературу. Биографиями группы, альбомами, воспоминаниями, энциклопедиями, антологиями "без купюр" можно заполнить не одну книжную полку. Сегодня мы представляем читателям "Кніжнага свету" новое издание с этой "полки" — "The Beatles. Иллюстрированная биография", которое увидело свет при участии ООО "Харвест".**

# Диагноз: битломания

Марина ВЕСЕЛУХА

Но сперва немного поговорим об общем контексте изданий о *The Beatles*, которые вышли в этом году и доступны белорусскому читателю в наших книжных магазинах. Это прежде всего произведения самого Джона Леннона. И хоть непосредственно о группе они не рассказывают, но помогут понять натуру Джона, его иронический стиль в литературе. Это издания: Джон Леннон. "Пишу как пишется" / John Lennon. *In His Own Write*; Джон Леннон. "Испалец в колесе" / John Lennon. *A Spaniard in the Works* (оба вышли в московском издательстве "Манн, Иванов и Фербер", 2011). Нет, я не ошиблась. Леннон был не только музыкантом, но и писателем. Его книги, между прочим, оформленные графическими работами самого автора, сразу же после выхода становились бестселлерами, завоёвывали сердца поклонников (тут, понятно, музыкальная карьера сказывалась) и критиков, более непредвзятых читателей. Леннон даже присутствовал в качестве почётного гостя на литературном ланче *Foyles* весной 1964 года, ради этого события он ушёл со съёмочной площадки фильма о группе *A Hard Day's Night*. Поэтому в некоторых сценах картины Джона нет. В новых русских изданиях книг Леннона текст подаётся в двух вариантах — на английском и русском языках. Иначе нельзя. Потому что, как называли его критики в своё время, "писателя, который обожает слово "игра", бросается цитатами, не обладает чувством стиля, но при этом с отличным чувством юмора", невозможно перевести правильно и точно.

Ещё одним изданием, которое, несомненно, привлечёт внимание белорусского битломана, является книга Юрия Пелюшонка "Струны для битл-баса" (Минск, Белпринт, 2011). Книга вышла совсем недавно, её тираж составил всего 30 экземпляров (на всех точно не хватит). Она рассказывает о том, как музыка *The Beatles* пришла в СССР, как влияла на молодое поколение, как снималась передача "30 минут с Битлз", первая из тех, что увидели советские телезрители.

И, наконец, — яркий альбом "The Beatles. Иллюстрированная биография / Тим Хилл, Алисон Гонтлетт, Гарет Томас, Джейн Бенн" (Москва, АСТ, Астрель, 2011). Это русская версия оригинального издания *The Beatles. The Illustrated Biography*, впервые выпущенного лондонским издательством Amber Books Ltd. в 2011 году.

Для того, чтобы прочесть книгу, вам понадобится часа полтора. Но для того, чтобы внимательно посмотреть все снимки (а их в альбоме почти 230[!], причём некоторые показывают одно и то же событие с нескольких ракурсов), на "волне" ностальгии послушать песни, посмотреть фильмы, соотнести новую информацию с уже имеющимися знаниями биографии *The Beatles* — а проверять биографов все любят, — и длинного осеннего вечера окажется мало. Как такового текста в книге нет. Есть только снимки, снимки… и подписи к ним. Но в этих коротких текстовках — история группы, взаимоотношений между ребятами, рассказы об их подругах, жёнах, детях. Но, самое главное — неизвестные подробности, яркие факты. К примеру, однажды, присоединяясь к группе во время гастролей, Ринго Старр уже на таможне обнаружил, что забыл паспорт дома. Но… его пропустили без паспорта! Или о том, что песня *Lucy in the Sky with Diamonds* была написана по рисунку сына Джона Леннона Джулиана, но запрещена из-за сокращения LSD. Или о том, что у Леннона иногда возникали трудности с придумыванием ярких названий для песен, книг, но его и, по сути, всю группу всегда в этом деле выручал Ринго. Таких фактов, уже известных ранее, но забытых, или совершенно новых, в книге найдётся множество. Возможно, для кого-то она станет настоящим открытием, подтолкнёт к знакомству с песнями *The Beatles*. И тогда, уверена, вас ждут такие же впечатления от первого прослушивания, как и главного героя романа известного шведского автора Микаэля Ниеми "Популярная музыка из Виттулы". Но в любом случае издание действительно стоит потраченного на него вечера. Мне своего ничуть не жалко!

И, кстати, специальные новости для битломанов. В октябре 2012 года выйдет сборник писем Джона Леннона под названием «Искренне Ваш, Джон» (*Sincerely Yours, John*). А пока — ждём, слушаем *The Beatles* и листаем альбом.





***Снимки из альбома "The Beatles. Иллюстрированная биография": Джордж Харрисон, Ринго Старр, Пол Маккартни, Джон Леннон, 1963 г; Джон Леннон в качестве почётного гостя на литературном ланче Foyles, апрель, 1964.***

> *"Винил стал тихонько похрустывать.*
> *Трах! Грянул гром. Рванула бочка с порохом, комната встала на дыбы. Воздух улетучился, нас шандарахнуло о стену, расплющило, а изба завертелась юлой. Мы были впечатаны в стену как почтовые марки; кровь вся вобралась в сердце, образовав кишечно-алый сгусток, а потом разом схлынула обратно, прянула по рукам и ногам, острые алые струйки брызнули по всему телу; мы как две беспомощные рыбы хватали воздух ртом.*
> *Прошла вечность, прежде чем пластинка остановилась. В замочной скважине засвистело — это возвращался воздух; мы шмякнулись на пол двумя мокрыми лепешками.*
> *Рок-н-ролл мьюзик.*
> *«Битлз».*
> *Ничего подобного мы в жизни не слышали.*
> *На некоторое время мы потеряли дар речи. Просто валялись, истекая кровью, опустошённые и счастливые посреди звенящей пустоты. Потом я встал и завел по новой.*
> ***Микаэль Ниеми. Популярная музыка из Виттулы***




Данила АРТИМОВИЧ

## От брит-попа до хэви-метал

**Александр Алексеев. Кто есть кто в российской рок-музыке: энциклопедия. — Москва: АСТ, Астрель, 2009.**

Любая сфера жизни, будь то политика, культура или экономика, является самостоятельным миром, развивающимся по собственным законам. Зачастую, чтобы ориентироваться в нём, мало собственных отрывочных знаний. А информацию об Александре Градском или Земфире, "Машине времени" или Гарике Сукачёве хочется рассматривать в контексте развития всего направления. Именно поэтому читателям несомненно требуется квалифицированная помощь профессионала. В российской музыкальной сфере в его роли выступает рок-энциклопедия "**Кто есть кто в российской рок-музыке**", автором-составителем которой стал Александр Алексеев.

Первое издание энциклопедии вышло ещё в 1991 году и стало одним из главных источников знаний о советской рок-музыке, а рассматриваемое нами — четвёртое по счёту. Оно освещает всю историю российского рока: от зарождения, которое обычно связывается с приходом Александра Градского в ансамбль польского землячества МГУ, вплоть до весны 2009 года.

Иллюстрированная энциклопедия охватывает все стилевые направления современной музыки (андеграунд, арт-рок, хард-рок, хэви-метал, грандж, брит-поп, панк-рок и др.), за исключением джаза, поп-музыки и бардовской песни, поскольку те заслуживают отдельного исследования. Как это принято в музыкальных энциклопедиях, основная информационная часть каждой статьи включает исходный состав группы, год и место её создания, значительные события творческой биографии (премьеры, конкурсы, фестивали, работа в кино и т.д.). Кроме того, книга рассказывает о судьбе, житейских историях, важных и занятных эпизодах из жизни исполнителей и рок-музыкантов, альянсах, браках и разводах, участии в политике, кино и т.д. Приводится полная дискография.

# Фестываль, круглы стол і чатырохтомнік

**Шмат каго, бадай, здзівіла маштабнасць праекта "Чэслаў Мілаш у Беларусі", шматлікія мерапрыемствы якога адбыліся 2—9 верасня. У 1980 г. Чэслаў Мілаш стаў другім польскім нобелеўскім лаўрэатам у галіне літаратуры пасля Генрыка Сянкевіча (1905 г.). У выніку прысуджэння прэстыжнай прэміі Віславе Шымборскай у 1996 г. польская літаратура мае трох пісьменнікаў-лаўрэатаў — згадаем, што ніводная краіна Цэнтральна-Усходняй Еўропы дагэтуль не мае сваіх нобелеўскіх лаўрэатаў па літаратуры.**

Алеся ЛАПІЦКАЯ




Амаль кожны, хто публічна разважаў пра Чэслава Мілаша падчас прысвечаных яму мерапрыемстваў, зазначыў, што пісьменнік адчуваў сябе грамадзянінам не столькі Польшчы, колькі — шырэй — самога Вялікага Княства Літоўскага. Таму цалкам натуральна, што ў межах праекта адбыўся двухдзённы фестываль "Вялікае Княства Паэзіі", у якім удзельнічалі вядомыя аўтары з зямель былога гістарычнага Княства. Хтосьці нават пажадаміў, што Чэслава Мілаша можна лічыць "грамадзянінам духоўнай Беларусі", хаця казаць пра гэта можна толькі з пэўнай нацяжкай: прыкладам, у кнізе "Родная Еўропа" (1953 г.) пісьменнік вельмі рэдка вылучае Беларусь ці Украіну, а мовай Статутаў ВКЛ называе "ўсходнеславянскі дыялект", а ніякую не старабеларускую.




З іншага боку, уражанні пісьменніка ад знамянальных падзей першай паловы ХХ ст. тоесныя ўражанням большасці беларусаў, літоўцаў ці палякаў, якім раней ці пазней выпадала стаць насельнікамі сацыялістычных краін. І менавіта Чэслаў Мілаш даў магчымасць Еўропе адчуць складанае светаўспрыманне чалавека Цэнтральна-Усходняга рэгіёна — чалавека, якому спрабавалі навязваць самыя розныя ідэалогіі, чалавека, сябры якога гінулі па розных баках фронту, чалавека, палітычна незацікаўленага ў тых разбуральных войнах, якія прайшлі праз яго нае жыццё.

Пратэст супраць гвалту, супраць абмежавання чалавечай свабоды стаў вызначальным у творчасці Чэслава Мілаша. Першай яго кнігай, перакладзенай на беларускую мову (1996 г.), стаў эсэістычны раман "Скуты розум". "Гэтае выданне было важным для нас, каб усвядоміць сябе менавіта еўрапейцамі, — зазначыў перакладчык твора Юры Лаўрык на адкрыцці праекта "Чэслаў Мілаш у Беларусі". — Кніжка вельмі цікавая з навуковага пункту гледжання — для літаратараў, для даследчыкаў найноўшай гісторыі. Але перадусім гэты тэкст значны для нас як для людзей, бо ён паказвае, як хутка чалавек можа сам сабе здрадзіць. На той час гэтая кніга была штандарам вызваленага духу. "Скуты розум" быў своеасаблівым мікраскопам, праз які можна паглядзець на сваю душу і ўбачыць яе".

На думку літаратара Кшыштафа Чыжэўскага, аднаго з польскіх удзельнікаў круглага стала "Мілаш шматпавярховы", пратэст Мілаша супраць усялякага абмежавання чалавечай свабоды быў вынікам сталага бунту юнака супраць свету дарослых, бунту, які заўсёды насіў у сабе пісьменнік. Не толькі ў прозе, але і ў сваёй выдатнай паэзіі Чэслаў Мілаш "з бясстрашнай празорлівасцю выявіў безабароннасць чалавека ў свеце, які раздзіраецца канфліктамі" (менавіта за гэта яму была прысуджана Нобелеўская прэмія). Паводле Іосіфа Бродскага, Чэслаў Мілаш, магчыма, быў адным з самых вялікіх паэтаў свайго часу.




І, бадай, галоўнае, што адбылося ў межах праекта "Чэслаў Мілаш у Беларусі", які быў рэалізаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча і Польскага Інстытута, — гэта прэзентацыя чатырохтомнага выдання твораў Чэслава Мілаша, перакладзеных на беларускую мову. Пабачылі свет эсэ "Родная Еўропа" і "Зямля Ульра", аўтабіяграфічны раман "Даліна Ісы", зборнік паэзіі "Выратаванне" і, асобна, яшчэ адзін паэтычны зборнік "Іншага канца свету не будзе"— у выдавецтве "Логвінаў". Прэзентацыі кніг — у тым ліку і аўдыёкнігі "Чалавек шматпавярховы" — адбыліся і ў абласных цэнтрах.



*На здымку: Чэслаў Мілаш.*

***Чэслаў Мілаш нарадзіўся 30 чэрвеня 1911 г. у літоўскай вёсцы Шацейняй. У Вільні — былой сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — ён вучыўся спачатку ў гімназіі імя Жыгімонта Аўгуста, потым ва Універсітэце Стэфана Баторыя, дзе пачаў сваю літаратурную дзейнасць. А таму Віленшчына моцна паўплывала на яго творчасць і светапогляд.***

***Нямецкую акупацыю Чэслаў Мілаш перажыў у Варшаве, працаваў ва ўніверсітэцкай бібліятэцы і ўдзельнічаў у падпольным літаратурным руху. Пасля вайны ён працаваў у Міністэрстве замежных спраў Польскай Народнай Рэспублікі ў якасці аташэ па культуры ў ЗША і ў Францыі да 1951 года, калі папрасіў у Парыжы палітычнага прытулку. У 1960-м Ч. Мілаш пераехаў у ЗША, там выкладаў славянскія мовы і літаратуры ў Каліфарнійскім універсітэце. У 1993 годзе вярнуўся ў Польшчу. Памёр Чэслаў Мілаш 14 жніўня 2004 г. у Кракаве, пражыўшы 93 гады.***

***Яму выпала доўгае жыццё і надта цікавы лёс. Трагічныя падзеі ХХ ст. — Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, Першая і Другая сусветныя войны, а потым "халодная вайна" — закранулі асабістае жыццё пісьменніка і адлюстраваліся ў яго творчасці.***

# Грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага

Алена ЦІТАВЕЦ, Іна МУРАШОВА,
супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі

**З нагоды 100-гадовага юбілею з дня нараджэння выдатнага польскага паэта, эсэіста, перакладчыка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі сумесна з Польскім Інстытутам у Мінску падрыхтавана выстаўка "Сведка ХХ стагоддзя".**

Кнігі Чэслава Мілаша доўга былі пад забаронай. Але пасля атрымання ім Нобелеўскай прэміі стаўленне да паэта змянілася, у Польшчы і іншых краінах пачалі выходзіць яго кнігі. Папулярнасць нобелеўскага лаўрэата расце па меры таго, як выдаюцца пераклады яго твораў.

На выстаўцы ў бібліятэцы імя Якуба Коласа экспануюцца творы пісьменніка на польскай і ў перакладах на рускую і беларускую, выдадзеныя ў 1981—2011 гг. Прадстаўленыя вершы, проза, эсэ і публіцыстыка, літаратурныя даследаванні, інтэрв'ю і размовы з Чэславам Мілашам, а таксама літаратура, прысвечаная яго жыццю і творчасці. У асноўным гэта публікацыі ў часопісах "Иностранная литература", "Звезда", "Новый мир", "Дружба народов", "Спадчына" і інш.

Сярод кніг — "Родная Еўропа" ("Rodzinna Europa". Warszawa, 2001) — адна з найлепшых кніг пра "цэнтральнаеўрапейскую" ментальнасць, "Скуты розум" (Мінск, Вільня, 2000) — твор пра лёс інтэлектуалаў у ХХ ст., які прынёс аўтару шырокую вядомасць у краінах Захаду, зборнікі "Апошнія вершы" ("Wiersze ostatnie". Kraków, 2006), "Іншага канца свету ня будзе" (Wrocław, 2006) і інш. Частка кніг перададзена з фондаў бібліятэкі Польскага Інстытута ў Мінску.

У кнізе "Нобелеўская прэмія па літаратуры" (Санкт-Пецярбург, 2003), прадстаўленай на выстаўцы, змешчана прамова Чэслава Мілаша падчас уручэння яму ўзнагароды, у якой ён ярка і дакладна характарызаваў сваё творчае крэда: "Жывыя атрымліваюць мандат ад назаўжды замаўчаўшых. Яны здолеюць выканаць свой абавязак толькі ў тым выпадку, калі паспрабуюць дакладна рэканструяваць мінулае, ачысціўшы яго ад вымыслаў і легенд".

# Дзве сустрэчы з Чэславам Мілашам

Адам МАЛЬДЗІС

**Сёлета ўся сусветная літаратурная грамадскасць адзначае стагоддзе з дня нараджэння паэта Чэслава Мілаша, які пэўным чынам быў звязаны і з нашай краінай. Ён нарадзіўся ў Літве, недалёка ад Беларусі, і з сантыментам расказваў мне, як у 1918 годзе ён згубіўся, адстаў ад бацькоў на Аршанскім вакзале. Гэтай падзеі Мілаш прысвяціў верш, які на беларускую мову пераклаў Рыгор Барадулін.**

Упершыню мы сустрэліся з Чэславам Мілашам у Італіі, у Рыме вясной 1990 года. У той час праходзіла канферэнцыя жыхароў краін, чые продкі былі насельнікамі Рэчы Паспалітай. Сучасныя дзяржавы былі прадстаўлены незвычным чынам: тры чалавекі ад самой краіны і тры чалавекі ад эміграцыі. Я разам з прафесарам Анатолем Грыцкевічам і Вячаславам Вярэнічам — мовазнаўцам, якога ўжо даўно няма ў жывых, — уваходзіў у мінідэлегацыю беларускіх грамадзян. Паколькі мерапрыемства было арганізавана польскім інстытутам, палякаў было нашмат болей.

Мы думалі, што галоўныя канфлікты адбудуцца ў нас з палякамі, але яны ставіліся да нас вельмі лаяльна, і асноўныя спрэчкі ішлі з літоўцамі. Так, прафесар Юозас Тумяліс увесь час здзіўляўся: што за Беларусь? Мінск-Літоўскі, Брэст-Літоўскі, Палессе-Літоўскае… Адным з першых, хто падтрымаў беларусаў, быў Чэслаў Мілаш з польскай дэлегацыі. Ён тады прадстаўляў дыяспару, бо жыў у ЗША. Мілаш сказаў, што сёння беларусы і літоўцы — гэта, безумоўна, два асобныя народы, і пасля яго выступлення ў перапынку мы пазнаёміліся.

Падчас нашай размовы быў зроблены памятны для мяне фотаздымак: Чэслаў Мілаш, як звычайна, трохі насуплены, я крыху пасміхаюся, побач — Вітаўт Кіпель, які быў і ёсць дырэктарам Беларускага інстытута навукі і мастацтваў у Нью-Ёрку. Зноў ідзе спрэчка, але ўжо не пра Рэч Паспалітую: я кажу Чэславу Мілашу, што варта падтрымаць Быкава і таксама вылучыць яго на Нобелеўскую прэмію. Але, трэба прызнаць, Мілаш даволі мала ведаў на той момант творчасць Васіля Быкава: нашага пісьменіка перакладалі пераважна на нямецкую мову ў ГДР, і выданні далёка не ішлі. Вітаўт Кіпель таксама пераконвае Мілаша, што Быкаў — гэта вялікі пісьменнік, а Мілаш глядзіць на яго, як і на ўсіх, крыху падазрона.

Тады ж мы паразмаўлялі пра беларускую вёску Чарэю (сёння гэта Віцебская вобласць, Чашніцкі раён), дзе варта ўвекавечыць памяць Оскара Мілаша — французскага паэта-сімваліста, сваяка Чэслава Мілаша. Оскар-Уладзіслаў Любіч-Мілаш нарадзіўся на Беларусі і правёў тут сваё дзяцінства, з 1889 г. жыў у Парыжы, дзе сцвердзіўся як паэт, выдаў некалькі зборнікаў вершаў, а да таго ж — песні і два зборнікі аповесцей і казак даўняй Літвы. Аднак як Оскар мог ведаць літоўскія паданні, калі нарадзіўся і вырас у Чарэі? Хутчэй за ўсё, асновай былі беларускі фальклорны матэрыял — але калі пра беларускія матывы ў творчасці Гіёма Апалінэра мы ведаем досыць добра, то паэзія Оскара Мілаша ў Беларусі пакуль застаецца нявывучанай.

З польскім пісьменнікам Чэславам Мілашам наступны раз мы пабачыліся ў Вільнюсе падчас сустрэчы — на вышэйшым узроўні — прэзідэнтаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы, куды я быў запрошаны ў якасці дакладчыка. Падчас размовы Чэслаў Мілаш спытаўся, ці знаёмы я з Ежы Гедройцам, які выдаваў у Парыжы штомесячнік літаратурны часопіс "Культура". Я адказаў, што часам чытаю штомесячнік, але асабіста яго выдаўца не ведаю. Праз пэўны час я раптам атрымаў запрашэнне з Парыжа на навуковую канферэнцыю, якая праводзілася як бы ў гонар Ежы Гедройца (яму тады было 93 ці 95 гадоў). Так, хутчэй за ўсё дзякуючы Чэславу Мілашу, я ўпершыню наведаў Парыж, пазнаёміўся з бацькам польскай эміграцыі.

Беларуская тэматыка была блізкая Чэславу Мілашу, ён з вялікай сімпатыяй ставіўся да беларусаў, у свой час вельмі сябраваў з віленскімі беларусамі, быў знаёмы з Рыгорам Шырмам. У адрозненне ад тых, хто цяпер чыста этнічна глядзіць на панятак Літва, Чэслаў Мілаш глядзеў на яго гістарычна і разумеў, што гэта супольная дзяржава некалькіх народаў. Хаця Мілаш і нарадзіўся на тэрыторыі Літвы, ён заўсёды трымаўся больш з палякамі і беларусамі.

Унікальны праект

Мікола МІРШЧЫНА

# Як нараджалася гісторыя...

**У Мінску пабачыў свет фотаальбом “Слуцк. Падарожжа ў часе”.**

Слуцк — з асаблівых гарадоў Міншчыны. І не толькі таму, што мае за плячыма сваю адметную, насычаную вялікімі падзеямі, гісторыю. Справа яшчэ і ў тым, што гараджане, мясцовая інтэлігенцыя, мясцовыя ўлады, проста случане ўмеюць шанаваць памяць пра родны край. І ў цэнтры такой асветніцкай працы — калектыў Слуцкага краязнаўчага музея, які ўзначальвае Наталля Серык. Літаральна днямі ў рэдакцыйна-выдавецкай установе “Літаратура і Мастацтва” пабачыў свет фотаальбом “Слуцк. Падарожжа ў часе”. Больш як 200 старых паштовак, фотаздымкаў прадстаўлены пад адной вокладкай маляўнічага выдання. Падрыхтоўку ілюстрацый да друку ажыццявіў вядомы фотамайстра У. Суцягін. У стварэнні кнігі прыняў удзел вялікі калектыў даследчыкаў знаўцаў Слуцкай даўніны на чале з дырэктарам краязнаўчага музея Наталляй Серык, якая з’яўляецца складальнікам, аўтарам грунтоўнага ўступнага артыкула.

Нельга не зазначыць, з якіх калекцый, збораў склаўся альбом. У выданні выкарыстаны гістарычныя фатаграфіі і паштоўкі з архіваў Слуцкага краязнаўчага музея, Капыльскага краязнаўчага музея, Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, Цэнтра па рэгенерацыі гісторыка-культурных ландшафтаў і тэрыторый, БелТА, Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў, бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, Расійскага этнаграфічнага музея (г. Санкт-Пецярбург), Інстытута мастацтваў Польскай акадэміі навук, Казловіцкага народнага хору, а таксама з шэрагу прыватных архіваў. Ужо сам пералік сведчыць пра тую велізарную працу, што праведзена пры падрыхтоўцы ўнікальнага расповеду пра Слуцк і Случчыну. З прадмовай да выдання выступае дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства “Слуцкі цукровафінадны камбінат” Мікалай Пруднік (і гэта зусім не выпадкова: прадпрыемства — фундатар праекта): “Галоўная мэта стварэння фотаальбома, які вы трымаеце ў руках, — выклікаць у людзей цікавасць да гісторыі нашага горада. Убачыўшы фотаздымак старога Слуцка, на якім вельмі знаёмае месца выглядае зусім па-другому, пачынаеш задавацца пытаннямі: а чаму яно выглядала менавіта так, якая яго гісторыя, адкуль узяліся ці куды зніклі ўсім знаёмыя прадметы, якія людзі жылі ў той час? Некалі ж відарыс, адлюстраваны на фотаздымку, таксама быў для ўсіх звыклым, людзі таго часу і не меркавалі, як гэтае месца будзе выглядаць сёння. Вось тут і пачынае прачынацца цікаўнасць да гісторыі свайго горада, сваёй роднай зямлі”. Нельга




не пагадзіцца з Мікалаем Паўлавічам. Сапраўды, перагортваеш старонкі кнігі “Слуцк. Падарожжа ў часе” — і насычаешся ўнікальнай вобразнай інфармацыяй, крочыш па вуліцах Слуцка, наноў спасцігаеш яго далёкае і блізкае мінулае. Старыя паштоўкі дапаўняюць старыя фотаздымкі. Чытач, угледзеўшыся ў многія выявы, не толькі атрымае інфармацыю пра Слуцк, але і ўзбагаціцца эмацыянальна, духоўна, разварушыць сваё сэрца.

Многія ілюстрацыі — пра царкоўнае жыццё горада. У ранейшых выданнях пра Слуцкі край большасць з гэтых выяў вы не знойдзеце. Цікава адлюстравана сацыяльная гісторыя краю. Здымкі, прысвечаныя сядзібам багатых сялян, дапаўняюць партрэты случан пачатку ХХ стагоддзя. Выканаўца песень з вёскі Серагі, жанчына, якая пляце лапці, беларуска-маладуха з вёскі Лучнікі, сям’я Барысавец-Зайкевічаў з вёскі Бранава — гэта ж нашы прашчуры! Здымкі настолькі выразныя, што, несумненна, хтосьці ў абліччах іх герояў пазнае сваіх прашчураў. Многія ілюстрацыі нагадваюць пра тое, што Слуцк заўжды знаходзіўся ў эпіцэнтры культурнага, асветніцкага жыцця Міншчыны, усяе Беларусі, што адсюль родам шмат хто са славутых сыноў і дачок Айчыны. Ёсць у альбоме фотаздымак Якуба Коласа з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці ў Слуцку (1923 год). Здымак з 1932 года прадстаўляе Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Ленінскай прэміі С. А. Косберга ў коле сваёй сям’і. А вось і картка з асабістай справы слуцкага фатографа Саміра Юхніна (1927 год). Якраз ён з’яўляецца аўтарам істотнай калекцыі фотаздымкаў, чые рэпрадукцыі ўпрыгожваюць альбом. Імя Саміра Юхніна было добра вядома ў Слуцку пачатку ХХ стагоддзя. Гэты майстар прыехаў у горад з Віцебска ў 1896 годзе. Тады



ж і адчыніў дзверы яго фотасалон. Слуцкі фатограф выпусціў серыю паштовак, прысвечаных гораду. У 1907 годзе ўдзельнічаў у выстаўцы ў бельгійскім Антверпене. Здымкі нашага земляка былі адзначаны залатым медалём. У 1927-м С. Юхніна арыштавалі і выслалі ва Уладзімірскую вобласць.

Дастойнае месца ў фотаальбоме займае грунтоўны артыкул Наталлі Серык “Падарожжа ў часе”. Аўтар звяртаецца да гісторыі фатаграфічнай справы ў Беларусі, лаканічна і ёміста паказвае гісторыю Слуцка праз дакументальныя ілюстрацыі, якія дайшлі да нашага часу. Дзякуючы менавіта такому артыкулу, напісанаму з выкарыстаннем многіх крыніц, пабудаванаму ў суадносінах з разважаннем у кнізе паштовак і фотаздымкаў, “Слуцк. Падарожжа ў часе” ўспрымаецца як выдатны падручнік па краязнаўстве, унікальны дапаможнік на ўроках гісторыі Беларусі, ды і беларускай літаратуры таксама. Напрыканцы размовы з чытачом Наталля Георгіеўна заўважае: “Дадзены альбом — сумесная работа двух калектываў, у якую больш дзесяці чалавек уклалі часцінку сваёй душы і цеплыні. Адметна, што ў калектыве цукрорафінаднага камбіната мы знайшлі аднадумцаў, якія актыўна падтрымліваюць нашу дзейнасць, уносячы новыя прапановы і ідэі. Так, напрыклад, у час прагляду музейнай калекцыі фотадакументаў у кіраўніцтва камбіната і нарадзілася ідэя выпусціць да 895-годдзя горада гэтую кнігу. Супрацоўнікі краязнаўчага музея з энтузіязмам падтрымалі гэтую ідэю. У выніку, дзякуючы цеснаму супрацоўніцтву, гісторыя роднай Случчыны, гісторыя нашага з вамі жыцця — фотаальбом “Слуцк. Падарожжа ў часе” пабачыў свет”.

Сапраўды, такія стасункі ўражваюць, а яшчэ лішні раз нагадваюць: выхаваўчая, асветніцкая праца — усеагульны грамадскі клопат.



*Ілюстрацыі з альбома “Слуцк. Падарожжа ў часе”: разбураная вежа кальвінісцкага храма, 1950-я гады; селянін з вёскі Лучнікі, 1908 год.*

Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК




**Марук, У. А. Кудмень / Уладзімір Марук. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 160 с.**

Гэтая паэтычная кніга напісана Уладзімірам Маруком у 1996 годзе, ён тады ўжо быў аўтарам трох паэтычных зборнікаў. Рукапіс “Кудменя” не толькі ўхвалілі, але і падрыхтавалі да друку, уключылі ў план. Аднак тады кніга так і не пабачыла свет. Сёння зборнік вершаў выходзіць ужо без паэта, аднак мае той выгляд, у якім ён мог бы выйсці пры жыцці аўтара. Ёсць надзея, што даўнейшае, амаль забытае слова “Кудмень”, якое стала назвай кнігі, будзе сапраўдным амулетам для захавання памяці пра таленавітага паэта Уладзіміра Марука.



**Міждысцыплінарныя даследаванні актуальных праблем тэорыі літаратуры / М. А. Тычына і інш.; навук. рэд. М. А. Тычына; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 396 с.**

Свет ускладняецца. На змену прырода- і богацэнтрызму прыходзіць эра антрапацэнтрызму. Так, узмацняецца пошук новых жыццёвых ведаў і новых светапоглядных сэнсаў. Міждысцыплінарнае даследаванне актуальных праблем тэорыі і гісторыі літаратуры і літаратурнай крытыкі дазваляе больш дакладна і пэўна вызначыць грамадскі статус беларускага літаратуразнаўства ў сістэме сацыяльных і гуманітарных навук, глыбей асэнсаваць сувязь тэорыі літаратуры з іншымі навукамі. Гэтая кніга — вынік навуковага пошуку супрацоўнікаў аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры акадэмічнага Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы ў плане вывучэння нашага краснага пісьменства ў міждысцыплінарным аспекце.




**Янсан, Тувэ. Капялюш чарадзея / Тувэ Янсан; пер. з швед. Алесі Башарымавай; ілюстрацыі Тувэ Янсан. — Мінск: Зміцер Колас, 2011. — 148 с.**

Прыгоды маленькага Мумітроля працягваюцца. У трэцяй кнізе серыі сімпатычны герой знаходзіць капялюш Чарадзея, які ператвараецца ў пачвару, Андатар аддаляецца ад свету і перажывае нешта невыказнае… Ужо знаёмыя і, упэўненая, многімі любімыя героі трапляюць у новыя прыгоды, але, як заўсёды ў казцы, усё заканчваецца добра, і сам Чарадзей завітае ў Мумідол, дзе здзяйсняе жаданні ўсіх насельнікаў краіны. Карацей, “Такога свята ў Мумідоле яшчэ не было!”




**Вильмонт, Е. Н. Танцы с Варежкой / Екатерина Вильмонт. — Москва: Астрель: АСТ, 2011. — 318 с.**

Новы раман Кацярыны Вільмонт — працяг нашумелага “Артыстка, блін!” На чытацкіх форумах можна заўважыць досыць супярэчлівыя меркаванні пра яго. Камусьці ён падаецца надта традыцыйным і надуманым, камусьці героі не падабаюцца, а нехта прызнаецца, што ўсё ж з задавальненнем прачытаў (нават мужчыны чыталі пасля жонак!) Яркая вокладка, дынамічны сюжэт, героі станоўчыя, і ўсё добра… Чаго яшчэ чакаць ад кнігі, калі хочацца прыемнага вячэрняга чытання за кубкам гарбаты?

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**


Святлана Саўко

# Рудзік

## Апавяданне

**Проза маладой пісьменніцы Святланы Саўко адметная ўвагай да духоўнага свету чалавека, дакладнымі моўнымі сродкамі, заўсёды арыгінальным і цікавым сюжэтам. Яшчэ школьніцай, а потым і студэнткай журфака БДУ надрукавала свае першыя апавяданні ў часопісе “Маладосць”, газеце “Літаратура і мастацтва”.**

Шэрае неба нізка павісла над горадам. Нудны восеньскі дожджык усё гаманіў і гаманіў з гонтавымі дахамі дамоў, навяваючы на Рудзіка дрымоту.

Сабака ўзняў ускудлачаную галаву і прыслухаўся, потым глянуў на падвальнае акенца, што ледзь свяцілася ранішнім паўзмрокам.

— Трэба ўставаць, — ён пацягнуўся. — Хутка прыйдзе дворнік і, пэўна, зноў выганіць на вуліцу, а ў дадатак стукне брудным ботам.

Рудзік усхапіўся з належанай пасцілкі і, пачухаўшы свой аблезлы бок, праз адтуліну ў дзвярах выслізнуў на двор.

“Дождж, — паныла ўздыхнуў ён, — трасцы б яму. Нюх, і без таго ўжо нікуды не годны, напрэч адбівае”.

Сыра і непрытульна навокал. Лужыны “кіпяць” ад бурбалак. Рудзік падышоў да адной, нахіліўся... Як і заўсёды, адтуль на яго глянулі разумныя, але самотныя вочы нейкага віславухага сабакі з пасівелымі ад старасці вусамі.

Пасёрбаўшы трошкі халоднай вады, ён патэпаў па знаёмым завулку. Сёння шмат спраў. Перш-наперш трэба зазірнуць за гастраном. Там на пяньках, што засталіся ад спілаваных таполяў, заўсёды ладкуюцца надзвычай добрыя людзі. Ніколі не пашкадуюць кавалачка хлеба, бывае, што і каўбасы трошкі перападзе. Толькі вочы ў дабрадзеяў чамусьці мутныя, вадзяністыя. Неяк адзін з іх нават падсоўваў яму пад нос шклянку з чырванавата-бурай вадкасцю. Але Рудзік яе не ўпадабаў: гаркавая занадта.

На пяньках нікога не відаць. “Пэўна, ад дажджу ўсе пахаваліся”, — падумаў Рудзік, патаптаўся тут трошкі і, абнюхаўшы пустыя паперкі, пабег далей.

Над горадам шумеў дождж, збіраўся на зямлі ў ручаіны і плыў з вясёлым булькатаннем да першай каналізацыйнай рашоткі. Людзей на вуліцах паболела. Ён бег, не ўзнімаючы галавы, заўважаючы хіба што толькі абутак: вастраносыя чаравікі, цяжкія боты, красоўкі, набрынялыя вільгаццю.

Вада сцякала з яго рыжых бакоў, аднак Рудзік амаль не адчуваў холаду, бо ўсё мацней і мацней буркатала ў жываце. І раптам...

— Ай-яй-яй, як жа цудоўна пахне! — сабака глядзеў на хлопца, які жаваў вялізную булку з сасіскай.

Рудзік затанцаваў вакол, адчайна матляючы хвастом:

— Дай, — прасілі сабачыя вочы, — дай хоць крышачку гэтай булачкі. А лепш за ўсё і сасіску. Калі б ты даведаўся, з чаго іх падчас робяць, то адразу б страціў апетыт.

— Адыдзіся! — гыркнуў хлопец і замахнуўся парасонам...

— Ну і не трэба. Еш сам, карачун табе ў бок, — пакрыўдзіўся Рудзік і ўжо збіраўся накіравацца ў бліжэйшы двор, калі заўважыў побач з сабою дзяўчынку ў кароценькай куртачцы і малінавых боціках, з вялізным цёмна-зялёным парасонам у кволых ручках. Яна ўсміхнулася яму шчарбатым ротам, у якім не хапала трох пярэдніх зубоў.

— Зусім як у мяне, — усміхнуўся і Рудзік, паказваючы сточаныя з часам іклы.

Дзяўчынка выцягнула з кішэнькі нешта блiскучае, разгарнула і працягнула яму. Сабака варухнуў хвастом і асцярожна ўзяў з дзіцячай далонькі пачастунак.

— Цукерка... — у жываце расчаравана забурчэла, — да таго ж, здаецца, ірыска. Зноў зубы будуць балець. Але ж і не выплюнеш — малая пакрыўдзіцца.

Дзяўчынка тым часам наважылася пагладзіць яго па спіне, потым пачухала за пакусаным у бойцы вухам.

— Ганначка! Што ты робіш! Хіба можна чапаць шалудзівага сабаку! А потым ручкі не захочаш мыць, — жанчына трэсла малую за плячук.

Тым часам падышоў тралейбус. Маці пацягнула дзяўчынку за сабой. Рудзік праводзіў іх самотным позіркам і... выплюнуў-такі цукерку.

— Я не шалудзівы, — пакрыўдзіўся ён, — пажыла б з маё, я паглядзеў, што б сталася з тваёю фарбаванай поўсцю.

Але тралейбус ужо знікаў за паваротам. На прыпынку нікога не засталося, і Рудзік пацюху патрусіў далей, кіруючы на мясцовы рынак. Там, як заўсёды, было шматлюдна. Ужо некалькі разоў няўважлівыя пакупнікі наступалі яму на лапу, на хвост. Сабака хадзіў ад прылаўка да прылаўка і, глытаючы сліну, зазіраў у твары гандляракр.

— На, трымай, — нехта кінуў яму курыную костку. Доўга прымерваўся Рудзік да пачастунка, але дзе там! Хіба разгрызеш старэчымі зубамі такі цвёрды храшчык?

— Глядзі-тка, заеўся! — смяяліся гандляркі. — Пэўна, не галодны.

— Ён у нас “дваранін”. Абы-што не есць, — адна з жанчын, вырашыўшы пазабаўляць сяброваk, выцягнула з вітрыны ладны кавалак паляндвіцы і, дражнячы, ткнула сабаку пад нос.

— Вось дык пашчасціла! — Рудзік, не раздумваючы, хапіў з рук разгубленай гандляркі мяса і кінуўся ўцякаць.

За спінай усчаўся страшэнны вэрхал і крык:

— Ратуйце!

— Трымайце злодзея!!!

— Які ж я злодзей! — хацеў было абурыцца ён. — Сама аддала...

Але хіба растлумачыш гэта двум бамбізам-мяснікам, што, схапіўшы свае вялізныя секачы, беглі за ім. Рудзік, як ашалелы, мітусіўся па гандлёвай зале.

— Што рабіць? — віравала ў сабачай галаве. — Калі толькі кінуць... Але ж шкада!

На бягу паспрабаваў адкусіць хаця б кавалачак — ледзь не падавіўся. Да таго ж мяса чаплялася за людскія сумкі, паліто, парасоны... Цяжкія крокі за спінай бліжэй і бліжэй, усе навокал свішчуць, смяюцца, а яму б адшукаць дзе якую шчылінку. Нарэшце Рудзік заўважыў дзірку паміж прылаўкамі і ўціснуўся туды. Сіл бегчы далей ужо не было, лапы як адняліся, паляндвіца ў зубах перашкаджала дыхаць.

— Папаўся! — радасна загрымелі над ім галасы, і адразу загрукацеў дах яго схованкі, заварушыліся жалезныя сцены.

— Бадай, спрах бы такі пачастунак, — з адчаем падумаў сабака, — тут бы галаву ўратаваць.

Ён выплюнуў кавалак з рота і, заплюшчыўшы вочы, затуліўся абедзвюма лапамі, прыцiснуў шчыльней вушы. Прылаўкі расхінуліся. На імгненне ў паветры павісла цішыня. А потым — па ўсім рынку, адбіваючыся рэхам пад столлю, пакаціўся рогат. Смяяліся ўсе: і гандляры, і пакупнікі, і хлопцы-мяснікі.

— Ці не падурнелі яны часам? — Рудзік, не разважаючы доўга, кінуўся на вуліцу, на дождж, што ўсё шапацеў і шапацеў над горадам. Ён барабаніў па даху і ўвечары, калі сабака, знясілены і галодны, нарэшце, вярнуўся ў свой падвал і выцягнуўся на настылай пасцілцы.

— Добра, — соладка прыжмурыўшыся, думаў Рудзік, — Зрэшты, дзень прайшоў няблага. З дворнікам не сустрэўся і з такой бяды выбавіўся...

У жываце зноў забурчэла...

— Эх, шкада толькі, цукерку выплюнуў. Можа, не падабралі яшчэ. Заўтра трэба схадзіць, пашукаць...

Сабака, скалануўшыся некалькі разоў у сне, соладка задрамаў. А па гонтавых дахах дамоў шапацеў усё той жа нудны восеньскі дождж.

Святлана Васілінка

# Вечны бег

## Эцюд

*Прысвячаю чалавеку, з якім у суладдзі душа, — Зяньковічу Івану.*

Раз-пораз выглядаеш у акно, бачыш гурбы бруднага снегу, шэрае неба, панурых гараджан, затурканых урбаністычным жыццём, а душа не-не ды й нагадвае: хутка, хутка сонейка, упартыя ручаінкі, першае цяпло — неад'емныя прыкметы нашай улюбёнай вясны.

Вясна... Жывеш чаканнем яе, марыш пра цёплыя, ясныя дні, а ў думках увесь час вяртаешся да аднаго восеньскага выпадку. Здаецца, нічога “такога” не здарылася ў той дзень, але чаму, чаму баліць сэрца, калі я згадваю яго?..

Няма на гэтым свеце нашых бацькоў. Колькі разоў мы, сёння і самі немаладыя, праклiналі сябе за тое, што не ўсё для іх зрабілі як след, колькі разоў шкадавалі, што не сказалі лішні раз, як мы іх любім, не абагрэлі сваім цяплом... Усё мы беглі, спяшаліся кудысьці... Няма каму сказаць, няма каго абагрэць... Засталіся адны пакінутыя хаты, якім сорамна глядзець у вочы, засталіся маўклівыя помнікі...

*Чужэюць родныя мясціны*
*з году ў год,*
*І мы штодня сабе чужэем самі,*
*І нашай памяці лугі хмызамі*
*Аглухла зарастаюць.*

Як ніколі раней, разумееш усхваляваныя радкі паэта.

Усё гэта так.

Адно ў памяці не зарастаюць сцежкі да бацькоў, да родных хат, якія ўсё яшчэ нас чакаюць. І пры жыцці нашых матуль і бацькоў мы, занятыя важнымі сваімі справамі, не так часта іх наведвалі, а цяпер... а цяпер у родныя вёскі ездзім больш па неабходнасці, па нейкіх жыццёвых турботах ды ў памінальныя дні.

Такая неабходнасць выпала і ў той восеньскі дзень — трэба было ехаць у вёску. Насуперак пушкінскаму ўяўленню пра восень, я яе не вельмі люблю, бо ўсё паслухмяна ідзе да забыцця, сну, цемры, пакорлівасці, а я люблю рух, цячэнне вады нават пад лёдам.

Прыехалі ў вёску мы з мужам, убачылі замецены вінаградным лісцем надворак, сіратлівую, пакінутую гаспадарамі хату і адчулі незвычайную цішыню і бязлюддзе. Зрабілася неяк не па сабе. Спахапіўшыся, пачалі ліхаманкава прыбіраць у хаце, выграбаць лісце з надворка — дапамагаць пакінутаму жытлу прыйсці ў сябе.

Дзень за справамі мінуў хутка. Пачынала вечарэць. З'ездзілі на могілкі да бацькоў, пастаялі ў маркоце над роднымі “сугрэвамі”, пасумавалі каля хаты, якая яшчэ больш здалася пакінутай, няшчаснай, і, агледзеўшы ў апошні раз бацькоўскі двор, выправіліся назад у дарогу па ціхай, маўклівай вуліцы.

Неяк нечакана рэзка сцямнела. У машыне гаварылі пра тое, пра гэта, успаміналі мінулае. Дарога ў святле фар мякка, падатліва клалася пад колы аўтамабіля.

Праехалі Клецк, паказаліся абрысы велічнага радзівілаўскага палаца, і дарога вывела на Пясочнае, Чарнічнае — на Уздзеншчыну.

Я з маленства, калі ехала ў машыне ноччу, чамусьці заўсёды з трымценнем у душы думала пра адно: як там у лесе ўсё жывое, як яму пачуваецца ў гэтай цемры і холадзе? А што б я рабіла, каб засталася ноччу ў лесе адна? Ад такіх думак даражэй рабілася цяпло і прысутнасць роднага, блізкага чалавека. Калі сваімі трывогамі дзялілася з мужам, ён смяяўся: “Заставайся. Потым раскажаш, як было”.

Дарога, спачатку роўная, прамая, раптам пачала даваць “кругялі” — паварот за паваротам, то ўніз, то ўверх. Мясцовасць нават упрыцемку ўражвала і хвалявала: велічны лес, узгоркі, там-сям рачулка, азярцо. Дарога была пустая, бо час быў вячэрні, дзень будзённы. Усю існасць апанавала нейкая ціхая лянота.

І тут!.. У мяне і цяпер, калі я ўспомню гэтае “і тут”, калоціцца і абрываецца сэрца!

З-пад горкі, на якую мы падняліся, проста на нас, на машыну, пасярод дарогі, па раздзяляльнай паласе, бег... воўк: я імгненна ўбачыла два блакітныя халодныя агеньчыкі, а толькі потым зрок ліхаманкава выхапіў настаўленыя вушы і зусім сівую ў святле фары спіну. Не, гэта быў не сабака, гэта быў воўк!!! Але чаму адзін, чаму пасярод дарогі?..

Узношу вялікае маленне і падзяку міласэрнаму Богу, які пашкадаваў у той вечар і нас, і гэтую бедную істоту! Нейкім неймаверным высілкам муж ірвануў машыну ўлева, я, заплюшчыўшы вочы, учапілася ў яго пляча. Мы засталіся на дарозе, спыніўшыся на самым краі яе. Азірнуцца назад не было сілы. Адно ведалі дакладна: звер хоць і перапалохаўся, але застаўся жывы. Я ўзмалілася Усявышняму і свайму вернаму спадарожніку і абаронцу-мужу за наша, і не толькі наша, выратаванне.

...Рэштку дарогі ехалі моўчкі. Шчымела сэрца. Было ўсіх і ўсяго шкада: сябе, дзяцей, бацькоў, якіх ужо ніколі не вернеш, гэтага беднага, маўклівага ваўка, які мерна, роўна бег насустрач свайму Лёсу... Думалася пра каштоўнасці жыцця, імклівасць і непрадказальнасць яго для чалавека. Вось ты ёсць, а праз імгненне...

Яшчэ больш выразна паўсталі пытанні, на якія я і ў свае ўжо сталыя гады не магу знайсці адказ.

Жыццё — імгненне. Пражыць бы яго як мае быць. Але што ж перашкаджае нам жыць у суладдзі з усім жывым, любіць адно аднаго? Чаму зло рабіць лягчэй, чым дабро? Чаму крыўднае слова апярэджвае пяшчотнае? Чаму мы баімся ласкавых слоў, добрых высакародных учынкаў? Хто з нас можа пасмяяцца?!.

Усё ў душы ўзрушылася, узнялося...

Ціха, неўпрыкметку пагладала на кіроўцу, які па-ранейшаму ўпэўнена ўглядаўся ў зноў роўную стужку шашы. Цёплае-цёплае пачуццё разлілося па сэрцы, і ў каторы раз я ўсцешылася: так, так, гэта самы дарагі, родны, святы, адданы мне чалавек... Скептык пасмяецца: ну, воўк дык воўк, столькі бяды! Але толькі я разумею, што па-іншаму мой муж павесці сябе не мог. Гэта быў учынак чалавека, высакароднага, добрага да любога праяўлення жыцця. Гонар і шчасце перапаўнялі душу.

...Дадому вярнуліся, калі паказаўся ўжо ражок месяца і замільгацелі першыя зоркі. Хуценька запалілі грубку, цяпло ад якой роўна пайшло па хаце. Стала ўтульна. Перад тым як легчы спаць, я доўга стаяла каля акна, глядзела на зубчаты край таямнічага ў начы лесу і ўяўляла сабе ваўка са срэбнай поўсцю і блакітнымі халоднымі вачыма. Я бачыла ягоны бег. Вечны бег...

Мяне і цяпер, калі ўспамінаю той восеньскі вечар, ахоплівае нейкае невыносна шчымлівае пачуццё, ад якога я не магу спаць ночку і ад якога ўсё часцей баліць сэрца. Не дае яму супакою сваім вечным бегам воўк з блакітнымі халоднымі вачыма.

Memento mori…

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара

**Высокі статус у еўрапейскай супольнасці стаўся для Рэспублікі Польшча нагодай для падрыхтоўкі вялікага амбіцыйнага праекта, здатнага паказаць свету багатую культуру і адметны творчы патэнцыял краіны. Дэвіз праекта “I, CULTURE” (“Я, КУЛЬТУРА”) аб'ядноўвае больш як 400 падзей, што да канца 2011 года маюць адбыцца ў 10 сталіцах: Берліне, Брусэлі, Кіеве, Лондане, Мадрыдзе, Маскве, Мінску, Парыжы, Пекіне, Токіа. Прычым асноўныя мерапрыемствы гэтай міжнароднай акцыі абвешчаныя ў найбліжэйшым для палякаў асяроддзі — у сталіцы Беларусі.**



# «I, CULTURE» ад Польшчы

## Грандыёзнай міжнароднай культурнай праграмай адзначае Польшча сваё сёлетняе старшынства ў Еўрасаюзе.

Мінская праграма, неверагодна маштабная і разнастайная, стартавала ў верасні, працягнецца па снежань. Пра яе змест распавялі польскія арганізатары разам са сваімі беларускімі партнёрамі падчас прэс-брыфінгу, праведзенага ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. З прамовамі да прысутных звярнуліся Пасол Рэспублікі Польшча ў нашай краіне Лешак Шарэпка і намеснік міністра культуры Беларусі Тадэўш Стружэцкі. З анонсамі, каментарыямі да мерапрыемстваў выступілі менеджар праекта “Польскае старшынства ў Еўрасаюзе” Вольга Высоцка (Інстытут Адама Міцкевіча), дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Пётр Казакевіч, дырэктар Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў Анжаліка Крашэўская, вядомыя дзеячы мастацкай культуры Кшыштаф Занусі, Юрый Гільдзюк, Уладзімір Пракапцоў, Надзея Усава, Ігар Сукманаў... З нагоды брыфінгу артысты Беларускай дзяржаўнай філармоніі піяністка Ірына Аўдзеева, флейтыст Сяргей Махаў ды фагатыст Аляксей Фралоў — ансамбль салістаў “Вытокі” — наладзілі ў Нацыянальным мастацкім музеі канцэрт “Блізкае ў адзінстве: беларуска-польскія музычныя сувязі”. Бліскуча і вытанчана гучалі творы Міхала Клеафаса Агінскага, Міхала Ельскага, Станіслава Манюшкі, Яна Тарасевіча, Фрыдэрыка Шапэна. Вызначыць “самае-самае” сярод імпрэз, што прайшлі ўжо ці маюць адбыцца, нават не спрабую. Бо “Я, КУЛЬТУРА” ўяўляе сабою ўнікальны жанрава-стылёвы сінтэз артпраектаў, якія ўтвараюць непарыўную чараду падзей. Упершыню польская культура прэзентуецца на беларускім абсягу ў такім аб'ёме. Але, як той казаў, культуры зашмат не бывае. Асабліва калі гэта культура блізкая па духу, з роднаснымі каранямі, агульнымі традыцыямі, чулая да запатрабаванняў сучаснасці, адкрытая для дыялогу. У такім сяброўскім дыялогу ўзаемнай цікавасці і паразумення ўжо не адно дзесяцігоддзе ладзяцца многія супольныя імпрэзы, творчыя акцыі беларусаў і палякаў, да арганізацыі якіх усё больш актыўна прычыняецца Польскі інстытут у Мінску (IP). Гэтая ўстанова разам з беларускімі партнёрамі падтрымлівае і мінскую частку міжнароднай праграмы “Я, КУЛЬТУРА”, падрыхтаваную Інстытутам Адама Міцкевіча.



За першы ж месяц “польскай прысутнасці” столькі ўсяго адбылося! Літаратурны форум “Вялікае Княства Паэзіі”, прысвечаны лаўрэату Нобелеўскай прэміі Чэславу Мілашу. Адкрыццё Міжнароднага фестывалю графічнага дызайну “Dialogue design”, які працягнецца па 9 кастрычніка. Канцэрт у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі “Караль Шыманоўскі. Музыка без межаў” (у шэрагу іншых запланаваных імпрэз таксама будзе прадстаўлена творчасць выбітнага кампазітара, якога палякі называюць зоркай другой велічыні пасля Шапэна). Заняткі творчай майстэрні па сучасным рамястве, кульмінацыяй якіх сталася стварэнне мінскай часткі вялізнага пазла-палатна “I, CULTURE” (кожная з 10 сталіц рыхтуе свой, вызначаны арганізатарамі, фрагмент. Як будзе сшывацца палатно з дэвізам, пакажуць у Інтэрнэце). Прэм'ера містэрыі “Stabat Mater” у мінскім Кафедральным Касцёле Найсвяцейшай Марыі Панны, выкананая знакамітым варшаўскім піяністам-віртуозам, джазменам, кампазітарам Влодакам Паўлікам разам з грыгарыянскім хорам — калектывам Падляскай філармоніі ды оперы...

Наперадзе — паказ сямі сусветна прызнаных сучасных польскіх спектакляў падчас міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва “Тэарт”. Выстаўка твораў Фердынанда Рушчыца. Авангардны перформанс “Планета Лем” у сталічным Палацы спорту, прысвечаны знанаму пісьменніку-фантасту і вешчуну. Прэзентацыя Польшчы праз паказ пяці дакументальных фільмаў і дэманстрацыя лепшых узораў польскага ігравога кіно падчас “Лістапада”... Словам, у нас будзе яшчэ не адна нагода для размовы пра міжнародны праект “Я, КУЛЬТУРА”.

> *“Жыццё нацый, культур, цывілізацый развіваецца ў безупынным саперніцтве. Сёння еўрапейская цывілізацыя змагаецца за тое, каб застацца на першым месцы ў свеце. Таму мы хочам не толькі паказаць свае дасягненні ў культуры, а каб выйшлі насустрач і вы, паказалі свае. Каб мы падтрымалі адно аднаго — у высакародным духу алімпійцаў. Спадзяюся на ўзаемна плённы абмен падчас увасаблення праграмы “Я, КУЛЬТУРА”.*
>
> ***З выступлення кінарэжысёра Кшыштафа Занусі падчас прэс-брыфінгу.***

***На здымках: удзельнік міжнароднай праграмы “Я, КУЛЬТУРА”, дзеяч польскага кіно Кшыштаф Занусі; мастацкі кіраўнік трыа “Вытокі” Беларускай дзяржаўнай філармоніі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Аляксей Фралоў.***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Афіша Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра прываблівае меламанаў чарговым сюрпрызам: 28 верасня тут адбудзецца канцэрт Маладзёжнага сімфанічнага аркестра СНД пад кіраўніцтвам маэстра Уладзіміра Співакова. У праграме творы П. Чайкоўскага і Н. Паганіні.

Свет адзначае сёлета 200-годдзе з дня нараджэння выдатнага прадстаўніка музычнага рамантызму, венгерскага піяніста-віртуоза і кампазітара, дырыжора, педагога і публіцыста Ферэнца Ліста. Знамянальнай даце прысвячаюць свае выступленні і нашы музыканты. 29 верасня ў Малой зале імя Р. Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі музыку Ф. Ліста будзе граць лаўрэат міжнароднага конкурсу Аляксандр Паляκоў. Гэты малады піяніст — адзін з яркіх прадстаўнікоў беларускай школы фартэпіяннага выканальніцтва. У мінулым канцэртным сезоне ён парадаваў сваіх прыхільнікаў праектамі, прымеркаванымі да 200-годдзя з дня нараджэння Фрыдэрыка Шапэна. Новая праграма А. Палякова, складзеная з шэдэўраў яшчэ аднаго вялікага кампазітара-рамантыка, называецца “Прысвячэнне”. Музыкант уключыў у яе, напрыклад, папулярны лістаўскі накцюрн “Мроі кахання”, “Венгерскую рапсодыю” № 2, “Мефіста-вальс”, знакаміты эцюд “Кампанэла”.

Старажытны Навагрудак адсвяткаваў нядаўна юбілей слаўнай гістарычнай падзеі: 500-годдзе атрымання магдэбургскага права. Свята горада сабрала шмат гасцей. Тыя з іх, хто наведаў Дом-музей Адама Міцкевіча, маглі падзівіцца на даволі незвычайны, каб не сказаць — фантасмагарычны партрэт паэта. Ён з'явіўся тут мінулым летам, калі ў Навагрудку праходзіла святкаванне 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. Тады мастак Уладзімір Пракапцоў і падараваў Дому-музею гэты свой твор — “Адам Міцкевіч. Боль паэта” — у знак пашаны да славутага земляка.



Крэатыўным праектам “Тры ў адным” мастацкая галерэя “Універсітэт культуры” аднойчы здзівіла сталічную публіку, спалучыўшы ў агульнай прасторы жывапісныя творы Дзяніса Барсукова, фотаработы вядомага мастака, дызайнера Сяргея Ждановіча ды яго маладзейшай калегі Алены Таборкі. І вось — новае ўвасабленне ідэі “Тры ў адным”. Гэты праект, у якім з'явіўся міжнародны складнік, паяднаў тры фотавыстаўкі. “Партрэт Сусвету” прадставіў заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Польшча, кандыдат тэхнічных навук Эдвард Гжэгаж Функе, “Старонкі з дзённіка” сабраў мінскі майстар Сяргей Ждановіч, “Адлюстраваннямі” падзялілася вядомая гродзенская фотамастачка Людміла Войда (знаёмства “ЛіМа” з яе работамі адбылося калісьці дзякуючы вернісажу народнага фотаклуба “Гродна” ў Міры, прымеркаванаму да музычнага свята “Мірскі замак”).

***На здымку: Уладзімір Пракапцоў “Адам Міцкевіч. Боль паэта” (палатно, алей). 1998 год.***

# Чаканы перформанс

Алена ДРАПКО

**Мастацтва бязмежнае ў сваіх праявах. Што агульнага ў яго прыхільнікаў? Безумоўна, жаданне здзейсніць новыя адкрыцці, зірнуць на актуальныя праблемы без рамак. Менавіта такіх людзей аб'яднаў XIII міжнародны фестываль артперформансу «Navinki-2011», які праходзіў у Мінску.**

Гэтая падзея сабрала мастакоў з Беларусі, Польшчы, Швейцарыі, Японіі, Ісландыі. Сярод удзельнікаў — Аляксандр Сарна, Наталля Высоцкая, Сяргей Ждановіч, Адам Шостак, Сільвестр Пясецкі, Марта Басоўская, Януш Балдыга ды іншыя. На фестывалі “Navinki” ў атмасферы таямнічасці, непрадказальнасці мастакі зачароўваюць гледача зместам сваіх дзеянняў. Яны могуць быць дасканала выверанымі і пралічанымі, часам здаюцца імправізацыяй, але гледачы ў кожным разе маюць магчымасць не толькі адкрыта абмяркоўваць з мастакамі значэнне ўбачанага, але і непасрэдна ўдзельнічаць у перформансе, калі гэта патрабуецца.

“Сучаснае мастацтва зрабілася больш дынамічным. Кожны мастак — гэта свой свет. Час па-рознаму ўздзейнічае на творчую натуру. Калі традыцыйныя віды мастацтва вымагаюць ад мастака нейкіх тэхнічных навыкаў, то здараецца, што гэта перашкаджае самавыяўленню. Адметнымі ж рысамі перформансу я лічу менавіта свабоду творчасці, здольнасць пераадолець час”, — зазначае арганізатар фестывалю Віктар Пятроў.

Кожны год “Navinki” збіраюць у Мінску мастакоў, якія займаюцца перформансамі, маюць дачыненне да арганізацыі такіх фэстаў у сваіх краінах. Гэта добрая магчымасць сустрэцца і пазнаёміцца з майстрамі інтэлектуальнага мастацтва, даведацца пра вопыт і погляды на гэтую з'яву сучаснасці ў іншых краінах. Як прыклад, лекцыя Януша Балдыгі пра польскі перформанс.

Багацце форм, эмоцый, уражанняў — так можна ахарактарызаваць гэты фестываль. Сімвалічным сярод убачанага падаецца перформанс Юрася Барысевіча “Археалагічныя закопкі…”, падчас якога гледачы з мастаком сабралі скарб з манет і іншых прадметаў — быццам сведчанне таго, што ўсё яшчэ паўторыцца і фестываль зноў збярэ ўсіх разам.

# Вераснёўскія візіты да сяброў

**Канцэртам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава 26 верасня ўрачыста адкрыюцца Дні культуры нашай краіны ў Літве. У праграме Дзён, якая працягнецца да 29 кастрычніка, будуць прадстаўленыя розныя віды і жанры мастацкай творчасці.**



Лана ІВАНОВА

Газета "Обзор", якая выдаецца ў Вільні, загадзя праінфармавала чытачоў пра тыя падзеі, што чакаюцца падчас восеньскай культурнай акцыі беларусаў. Таму віленскія прыхільнікі Мельпамены ўжо даўно настроіліся на сустрэчу з трупай нашага Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, які 27 і 28 верасня пакажа ў Рускім драматычным тэатры Літвы пастаноўку п'есы "Пане Каханку" А. Курэйчыка і спектакль "Праўда добра, а шчасце лепш" паводле А. Астроўскага. Падчас Дзён культуры Беларусі знойдуць для сябе нешта цікавае і заўсёднікі вернісажаў. Запланаваная таксама кінапраграма: у Вільнюсе будуць дэманстравацца стужкі "Брэсцкая крэпасць", "Снайпер. Зброя помсты", "Ваўкі", "Масакра", "Рыжык у Залюстрэччы". Прычым на пачатку такіх сеансаў, якія стартуюць 25 верасня, іх наведвальнікі ўбачаць лепшыя мультыплікацыйныя фільмы Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм".

А вось у Міжнародны дзень музыкі, які штогод адзначаецца 1 кастрычніка, мае адбыцца традыцыйнае для культурнага жыцця Літвы Свята беларускай песні. Гэты каларытны фальклорны фэст пройдзе ў прыморскай Клайпедзе ўжо 16-ы раз і ўлучыць у сваю атмасферу прафесійныя і самадзейныя творчыя калектывы.

Для аматараў і знаўцаў высокага мастацтва, бадай, найбольш значнай падзеяй стане візіт Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Ён завітае ў Вільнюс толькі на адзін вечар, але пакажа спектакль, з якім беларускія артысты ўжо на працягу многіх гадоў паспяхова гастралююць за мяжой: балет А. Хачатурана "Спартак" у пастаноўцы нашага выдатнага харэографа В. Елізар'ева. Гэтая імпрэза адбудзецца 29 кастрычніка ў Літоўскім нацыянальным тэатры оперы і балета і з'явіцца, мабыць, не толькі яскравым апафеозам Дзён культуры Беларусі, але і гучнай уверцюрай да новых супольных праектаў, пра якія сёння мараць найбуйнейшыя музычна-сцэнічныя калектывы дзвюх нашых братэрскіх краін.

З гэтай нагоды можна было б доўга распавядаць пра спрадвечныя і глыбінныя літоўска-беларускія повязі. Але я проста нагадаю некалькі нядаўніх фактаў. Сёлета ў лютым, да Дня аднаўлення дзяржаўнасці Літвы, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ладзілася экспазіцыя аднаго твора — жывапісная палатна літоўскага мастака Адомаса Варнаса "Каранацыя Міндоўга". На выстаўку карціны, якую даставілі ў Мінск з калекцыі Мастацкага музея Літвы, прыехаў яго дырэктар Рамуальдас Будрыс, які разам са сваім беларускім калегам Уладзімірам Пракапцовым падпісаў афіцыйнае пагадненне пра далейшае супрацоўніцтва дзвюх мастацкіх скарбніц. 8 верасня ў НММ Беларусі адкрылася выстаўка, прысвечаная 100-годдзю з дня смерці выдатнага літоўскага творцы Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса. Праз два дні адкрыўся новы сезон Беларускай дзяржаўнай філармоніі, і ўдзел у тым ўрачыстым канцэрце ўзяў даўні ўлюбёнец мінскай публікі — Каўнаскі дзяржаўны хор пад мастацкім кіраўніцтвам лаўрэата Нацыянальнай прэміі Літвы маэстра Петраса Бінгеліса. Разам з добра знаёмым у Літве нашым Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам на чале з Аляксандрам Анісімавым ды з выдатнымі расійскімі салісткамі літоўскі калектыў прадставіў узрушальную Другую сімфонію Г. Малера. Адкрыццё новага філарманічнага сезона супала са святам нашай сталіцы, а ў межах гэтага свята ўпершыню ў Мінску ладзіўся Дзень вулічнай музыкі, госцем якога быў Андрус Мамантавас, літоўскі музыкант, аўтар такой сапраўды творчай і дэмакратычнай ідэі, чыннік і ўдзельнік Дзён вулічнай музыкі ў Вільні. У адным са сваіх інтэрв'ю ён падкрэсліў, што музыка мае інтэрнацыянальную мову і яна здатная паспрыяць шчырэйшаму сяброўству Вільнюса ды Мінска.

Узаемнай папулярызацыі нашых культур, падтрыманню культурна-гістарычных сувязей беларускага і літоўскага народаў, безумоўна, паспрыяюць і бліжэйшыя восеньскія праекты. Напрыклад, такія, як міжнародны форум тэатральнага мастацтва "Тэарт", дзе ў выбітнай кампаніі будуць прадстаўленыя работы сусветна вядомых літоўскіх рэжысёраў. А яшчэ — "Купанне ў гуках гонга": канцэрт-медытацыю пад такой назвай арганізуюць 29 верасня ўпраўленне культуры Мінскага гарвыканкама і Мемарыяльны музей-майстэрня З. І. Азгура. Гэтую містычную і напоўненую жыццесцвярджальнай, радаснай энергіяй імпрэзу прадставіць наш госць з Літвы Андрэй Сутугінас: гонг-майстар, гукатэрапеўт, член Міжнароднай асацыяцыі гукатэрапеўтаў, заснавальнік і кіраўнік "Тэатра Гуку". У канцэрце-медытацыі будуць гучаць архаічныя інструменты: планетарныя і сімфанічныя гонгі, тыбецкія чашы, якія пяюць, крышталёвыя сасуды, акарыны, шруці... І гэта яшчэ не ўвесь пералік экзатычных спадарожнікаў Андрэя Сутугінаса, перакананага ў тым, што пасля завяршэння працэсу стварэння гонга гэты інструмент набывае ўнікальны "голас", здатны рэзаніраваць з прыродай, з чалавекам, гарманізаваць душу і цела, выклікаючы пачуццё яднання са светам.



***На здымках: фасад Літоўскай нацыянальнай філармоніі; музыканты Нацыянальнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі.***

## Пра надзённае і вечнае

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм "Magnificat" сёмы раз прайшоў у Беларусі. Асноўная яго мэта — падтрымка агульначалавечых духоўных каштоўнасцей праз работы майстроў кіно і тэлебачання.**

Асаблівасцю гэтага кінафоруму, які праходзіць пад патранатам Канферэнцыі каталіцкіх епіскапаў Беларусі, з'яўляецца тое, што ён па сутнасці сваёй — міжканфесійны. Каталіцкія, праваслаўныя і пратэстанцкія аўтары з трынаццаці краін прадставілі на суд журы свае лепшыя работы.

Фестываль распачаўся ў Мінску, на наступны дзень форум перамясціўся ў Глыбокае — традыцыйнае месца правядзення "Magnificat". Паводле ўмоў фестывалю, на конкурсе не разглядаюцца мастацкія кінастужкі. Гэткім рашэннем фестываль узнімае імідж дакументалістыкі, спрыяе развіццю і далучае публіку да ўсведамлення значнасці менавіта дакументальных стужак. І вынікі — відавочныя. Конкурсныя работы становяцца ўсё больш цікавымі.

Гран-пры атрымаў дакументальны фільм "Лабірынт" (ЗША — Польшча). Аўтары сцэнарыя — Джэйсан А. Шміт і Рон Шміт. Стужка распавядае пра лёс католіка-паляка Мар'яна Каладзея, які правёў у фашысцкім канцлагеры Аўшвіц пяць гадоў. Лепшай тэлепраграмай журы прызнала польскую — "Смерць дзіцяці". Прыз за лепшы дакументальны фільм атрымала італьянская стужка "Таямніцы Міжгор'я". Спецыяльным прызам кангрэгацыі айцоў францысканцаў "За высокапрафесійнае кінематаграфічнае даследаванне складанага чалавечага шляху да Бога і веры" адзначаны беларускі дакументальны фільм "Вялікдзень на Лысай Гары" (вытворчасць праваслаўнай "Студыі імя Св. Іаана Воіна"). Прыз і дыплом за вывучэнне і раскрыццё хрысціянска-каталіцкай тэматыкі ў фільме "Знакі святасці" і тэлеперадачы "Подзвіг святога Максімільяна Кольбе" атрымала супрацоўніца тэлепраграмы "Існасць" (Першы нацыянальны тэлеканал) Іна Сабалеўская. Прыз Глыбоцкага райвыканкама "За паслядоўны і арыгінальны паказ пошукаў шляхоў да Бога" дастаўся фільму "Інакіня" "Студыі імя Св. Іаана Воіна". Адзначаны быў таксама дакументальны фільм студыі "Чырвоны касцёл" "Малітва за Беларусь" — "За захаванне памяці ўнікальнай асобы — Эдварда Вайніловіча — заснавальніка многіх святынь ў Беларусі".

Кацярына СТАСЁНАК

# «Лялька»: 25 сезонаў!

**Беларускі тэатр "Лялька" нарадзіўся ў 1985 годзе — як лялечная трупа пры славутай Коласаўскай сцэне, але сёння гэта самастойны тэатр, улюбёнец дарослых і маленькіх віцебскіх гледачоў.**

Віцебскай "Ляльцы" крыху больш як чвэрць стагоддзя. І гэта нямала, бо за сваё творчае жыццё калектыў заваяваў сэрцы мільёнаў гледачоў і стаў шырока вядомы і ў роднай краіне, і за мяжой. А яшчэ заваяваў шмат узнагарод, у тым ліку Гран-пры прэстыжных міжнародных фестываляў...

Сучасны лялечны тэатр для віцяблян — ледзь не культавае месца, дзе можна не проста глядзець спектаклі, а і атрымліваць асалоду ад прапанаванага відовішча, бо "Лялька" заўсёды ў пошуках чагосьці новага. Цяпер ён амаль зусім развітаўся з "марыянетачным этапам" свайго існавання. На змену прыйшлі маскі, вялікія двухметровыя лялькі і шмат чаго яшчэ. Калектыў нездарма адзначаны ўзнагародай ад Чырвонага Крыжа "За прапаганду гуманізму і міласэрнасці": тут не забываюцца пра людзей з абмежаванымі магчымасцямі, дзяцей-сірот, часта прыязджаюць да іх, ладзяць спектаклі і канцэрты.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, кіраўнік "Лялькі" Віктар Клімчук кажа: "Наш тэатр жыве добра. Гледачоў заўсёды хапае і ёсць дзеля каго працаваць. Але ж сярод людзей існуе меркаванне, што ў "Ляльку" немагчыма дастаць білеты, хоць гэта не так. Мы пачынаем продаж білетаў за месяц да спектакля, а гледачы раскупляюць іх у першыя ж дні. На вялікі жаль, у нас ёсць і маленькія ўнутраныя праблемы, не хапае фінансаў на рамонт, на новыя лялькі і г.д. Але трупа не маркоціцца, наадварот, імкнецца працаваць усё больш і цікавей, каб зноў здзіўляць гледачоў сваім мастацтвам".

22 кастрычніка тэатр будзе святкаваць свой юбілей — 25 тэатральных сезонаў. Прыедзе шмат гасцей з Польшчы, Балгарыі, Расіі і іншых краін. Плануецца выстаўка тэатральных лялек, мастацкая частка... А на наступны дзень гледачоў парадуе спектакль "Прынцэса і свінапас".

Дзверы лялечнага тэатра адчыненыя штодня, акрамя панядзелка. У невялікай зале на 130 месцаў гасне святло — і ажываюць лялькі, і пачынаюць размаўляць з гледачамі на роднай, лагоднай беларускай мове.



***На здымку: заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, кіраўнік "Лялькі" Віктар Клімчук.***

Алесь СУХАДОЛАЎ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

# Дарасці да Радзівілаў

**Летась Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага прадставіў новы спектакль "Пане Каханку" паводле п'есы А. Курэйчыка, якім, дарэчы, нядаўна адкрыў свой чарговы сезон. Прэм'ера атрымалася гучная, яркая, відовішчная. Як карціна ў мудрагелістай, дарагой аправе. Але як толькі бляск аправы пачынае цьмянець, глядач узіраецца ў палатно. І разумее, што работа не скончана: зроблены якасны, дыхтоўны эскіз, ды прамалёўка відавочна халтурная (хаця мастак карыстаўся самымі дарагімі фарбамі). Жывапісны матэрыял і палатно счэпленыя настолькі слаба, што карціна ўвачавідкі абсыпаецца, "зыркаючы" пустымі незафарбаванымі лапікамі, а то і дзіркамі…**

Стваральнікі спектакля — драматург Андрэй Курэйчык і рэжысёр Сяргей Кавальчык — кіраваліся першакласнай ідэяй: даць сцэнічнае жыццё легендарнаму персанажу беларускай гісторыі Каралю Радзівілу Пане Каханку. Народ стагоддзямі захоўваў памяць пра авантуры гэтай экстравагантнай асобы — так, што яна нават трапіла ў нацыянальны фальклор. Яскравы вобраз эксцэнтрычнага князя-дзівака цалкам здатны стаць нацыянальным брэндам, такім, як румынскі граф Дракула, нямецкі барон Мюнхгаўзен або рускі князь Пацёмкін. (І як гэта айчынныя вытворцы алкагольных напояў усё яшчэ не ўзялі такі брэнд на ўзбраенне? Ці, можа, з'явіцца раптам на прылаўках які-небудзь моцны лікёр "Пане Каханку"?) Так што задума ў тэатральнага праекта цудоўная. Андрэй Курэйчык увасобіў інтрыгуючу завязку: у аснове сюжэта — візіт караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага да Караля Радзівіла ў яго рэзідэнцыю ў Нясвіжы. Кароль едзе ў госці да падданага па надзвычайнай справе (!): пазычыць грошай для парожняй дзяржаўнай казны. Але замест дзелавых перамоў яму даводзіцца ўдзельнічаць у авантурах апантанага князя, што выглядаюць проста недарэчнымі. А Пане Каханку аказваецца зусім не такім дурнем, якім падаецца. Ён хутка ўпэўніваецца, што павучаць і прысаромліваць каранаваную асобу бессэнсоўна, і… пакідае караля з носам.

Завязка цікавая, і першы акт імпрэзы глядзіш з захапленнем. Але ў другім акце ўсе слабасці драматургіі робяцца відавочнымі. Рэжысёр ідзе на хітрыкі, уводзіць эфектную сцэну марской баталіі пры Гібралтары, што разыгрывае Пане Каханку. Калі героі зноў з'яўляюцца на сцэне, кожны кажа прамову пра гістарычнае значэнне асобы "апошняга з вялікіх Радзівілаў". Дзеянне неверагодна замаруджваецца, падзеі прыцягваюцца за вушы, а фінала — паўнавартаснага, драматургічнага — проста няма. Асабліва недарэчна выглядае ў фінале Тэафілія, сястра князя Караля, якая гаворыць пра тое, што яе брат быў вялікім навукоўцам і вынаходнікам, але ўсе яго працы яна… спаліла. Сітуацыя камічная да непрыстойнасці.

А. Курэйчык напраўду "адкрыў" для гісторыкаў невядомы бок асобы Пане Каханку: звар'яцелага генія, які хацеў навучыць беларусаў лётаць. Па сутнасці, гэтая акалічнасць спалучаецца з вобразам, створаным драматургам, а ў выкананні Расціслава Янкоўскага здаецца нават праўдападобнай.



Князь Радзівіл у Курэйчыка яшчэ і мысляр, дабрадушны дзівакаваты філосаф. Роўна… Гендальф нейкі (чарадзей з трылогіі Дж. Толкіна "Уладар пярсцёнкаў"). Але ці той гэта Пане Каханку, якога мы ведаем з гісторыі? Ці адно толькі мянушка яднае персанаж п'есы з яго рэальным прататыпам?

Караль Радзівіл — фігура гістарычна неадназначная. З аднаго боку, гуляка-баламут, з іншага — палымяны барацьбіт і патрыёт Літвы і Кароны. Курэйчык з Кавальчыкам недвухсэнсоўна зрабілі з яго… нацыянальнага героя. Спрасцілі гісторыю да смешнага, ператварыўшы князя ў "свядомага" беларуса (хаця гаворка ідзе пра той час, калі этнонім "беларусы" яшчэ не ўжываўся). З гістою рыяй жарты кароткія, а ў некатоРых месцах драматург дапускае скажэнні, што могуць канчаткова заблытаць гледача, не абазнанага ў таямніцах мінуўшчыны. Напрыклад, гэта датычыць вобраза Мацея Радзівіла — зводнага брата Пане Каханку, кампазітара, паэта, драматурга, удзельніка паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Стваральнікі імпрэзы робяць з пана Мацея пераапранутага клоўна і недалетка. Дарэчы, такі Мацей куды больш асацыіруецца з рэальным Пане Каханку, чым аднайменны персанаж спектакля.

Відавочна, што дарэшты не прадуманае і развіццё сюжэта, адсутнічае развязка. Пастаноўшчыкі паспрабавалі схаваць гэта за нагрувашчваннем нейкіх ускосных калізій. У спектаклі перамяшана ўсё: і нацыянальная ідэя, і нейкая кволая палюбоўная лінія паміж Пане Каханку і простанароднай актрысай яго тэатра Алесяй, і няўцямныя алюзіі на творчасць Фанвізіна — а польскі кароль Панятоўскі чамусьці выказвае пазіцыю расійскай вялікадзяржаўнай ідэалогіі сярэдзіны XIX стагоддзя, называючы беларускую мову гаворкай. Да ўсяго, выкарыстана песня "Пане Каханку" гурта "Крамбамбуля", зусім не адпаведная выяўленаму вобразу магната.

Атрымаўся гэткі мікс з алюзій, цытат і разнастайных гістарычных фактаў. З вельмі малой доляй арыгінальнага зместу.

У акцёрскую ігру на сцэне можна паверыць, але ў драматычныя вобразы верыцца з цяжкасцю. Пане Каханку цалкам мог бы прэтэндаваць на статус універсальнага мастацкага вобраза магната-авантурыста, у якім штосьці ёсць нават ад трыкстара. Але ці ўдалося стваральнікам спектакля ўвасобіць такі шырокі вобраз?

Пане Каханку Расціслава Янкоўскага — валявы князь, гэткі чалавек-глыба, з лёгкай доляй дзівацтва — у прынцыпе, чалавек эпохі барока. Але мне асабіста Пане Каханку ўяўляецца больш пластычным і манерным, як кажуць, "гжэчным кавалерам", а ў спектаклі дзейнічае больш патрыярхальны характар, сярэднявечны. Спадабаўся Аляксандр Суцкавер у ролі Панятоўскага: акцёр стварыў шляхетны, можна сказаць, еўрапейскі тыпаж, хаця звязаныя з ім камічныя калізіі здаюцца несапраўднымі. Магчыма, персанаж вымагае выразнага гучання трагічнай ноты: кароль не можа павадзіцца сябе як клоўн, нават калі слабы палітычна.

Зраблю невялічкую агаворку: усё ж такі ў творы мастацтва гістарычнае праўдападабенства другаснае — на першым месцы стаіць яго мастацкая каштоўнасць. Шэкспір, ствараючы свае шэдэўры, не кіраваўся мэтай узнавіць рэальныя гістарычныя падзеі. Эпоха і нацыянальны каларыт для яго былі фонам. Ва ўмовах нашай беларускай рэчаіснасці, калі ідзе працэс фарміравання гістарычнай свядомасці нацыі, прытрымлівацца гістарычнага праўдападабенства проста неабходна, хаця падзеі мінулага часта ідэалізуюцца і нават міфалагізуюцца. Трэба вытрымліваць залатую сярэдзіну паміж гістарычным праўдападабенствам і мастацкай выдумкай. Для таго, каб пісаць пра Пане Каханку, трэба добра ведаць тую літаратурную традыцыю, якая ідзе ад Адама Міцкевіча праз Уладзіміра Караткевіча да нашых дзён — традыцыю рамантызацыі гісторыі, трэба існаваць ці хаця б арыентавацца ў яе межах. З ходу, наскокам, штурмам ні ў кога не атрымаецца ўзяць гэтую вышыню.



Аўтары спектакля ўзяліся за слушную справу… і прадэманстравалі тыповую беларускую саманадзейнасць: маўляў, мы сваё мінулае ствараем самі. Але ж да Радзівілаў, да свайго мінулага яшчэ трэба дарасці. Магчыма, ім не хапіла пасіянарнасці, а мо яны проста паспяшаліся. Да такой справы трэба падыходзіць з большай адказнасцю. Вунь якая каласальная праца была зладжана ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі: рыхтуючы "Чужое багацце..." Яна Голанда, запрасілі лепшых спецыялістаў у сваёй галіне — ад музыказнаўцаў да філолагаў. Альбо прыгадаем "Палачанку" Аляксея Дударава: каля дзесяці гадоў яна ішла на сцэне Беларускага рэспубліканскага ТЮГа, і не страчвалася глядацкая ўвага да яе. А пастаноўка "Пане Каханку" глядзіцца фальшыва: сармацкая культура ўзноўленая толькі знешне (уразіла пампезная сцэнаграфія Алы Сарокінай, вытрыманая ў стылі барока), а дух сармацкі не перададзены. З іншага боку, у гэтым спектаклі акрэслілася адна цікавая тэндэнцыя. Калі са сцэны рускамоўнага тэатра гавораць пра мілагучнасць беларускай мовы — гэта можа насцярожыць "свядомую" публіку. Але як быць з гледачом, далёкім ад нацыянальнай стыхіі? З публікай, якая на дадзены момант пераважае сярод насельніцтва краіны? Можа быць, такім чынам і варта прыцягваць яе ўвагу да роднай культуры і гісторыі?

***На здымках: сцэны са спектакля "Пане Каханку".***

Ірына ВАРНІНА

# Саня, Ваня, Рымас...

**Гэты спектакль, своеасаблівым эпіграфам да якога могуць паслужыць вядомыя радкі А. Твардоўскага: "Я знаю, никакой моей вины…", — бясспрэчная ўдача мінулага творчага сезона ў Мазырскім драматычным тэатры імя І. Мележа. Яго пастаноўку паводле п'есы В. Гуркіна "Саня, Ваня, з імі Рымас" ажыццявіў галоўны рэжысёр Р. Цыркін (які, дарэчы, цудоўна сыграў ролю міліцыянера Рымаса Паціса). Поспех мазыран пацвердзіла і годнае іх выступленне на Маскоўскім міжнародным фестывалі камерных тэатраў і спектакляў малых формаў "Славянский венец".**

З першых жа хвілін спектакля гледачы паглыбляюцца ў атмасферу жыцця, побыту ўральскай вёскі, сочаць, сціснуўшы дыханне, за перыпетыямі гарапашнай сялянскай долі (у селяніна сам па сабе "воз" нялёгкі, а тут вайна, "губаравы" са сваімі паклёпамі, даносамі). У цэнтры сцэнічнай дзеі лёсы — амаль паводле А. Чэхава — трох сёстраў. Старэйшая Ганна (арт. А. Пракопава) пасля смерці маці, якая сканала, што называецца, на вачах, замяніла бацькоў для малодшых. Можна толькі здагадвацца, колькі ім тром давялося пераадолець нягод, каб трывала стаць на ногі. Характэрна прытым, што цяжкія жыццёвыя выпрабаванні не знішчылі ў Ганне жаноцкасць. Так, збіраючыся на сямейную ўрачыстасць, яна просіць пляменніцу, каб тая і ёй падмалявала вусны "сардэчкам". Актрысе А. Пракопавай усё гэта ўдалося данесці да гледача праз увасоблены вобраз.

Больш ладзіцца асабістае жыццё Соф'і (арт. Н. Бакавец): муж Пётр, які яе кахае (арт. Ю. Шмак), дачка Жэня (арт. А. Драгамірэцкая), маленькі сын. Аднак лёс не пашкадаваў і яе. Гіне на вайне муж. Яна ж, сялянкай атрымаўшы "пахаронку", памірае, паўтарыўшы заўчасны зыход маці. Актрыса знаходзіць такія псіхалагічныя фарбы, што яе гераіня выклікае спагаду ў гледача, запамінаецца.

Воляю драматурга ў цэнтры п'есы — лёс трэцяй сястры, Аляксандры (Сані). Менавіта яна, адпаведна жыццёвым акалічнасцям, мусіць зрабіць нялёгкі выбар паміж мужам Іванам (арт. М. Кліменка) і закаханым у яе Рымасам. Гледачы робяцца сведкамі шчаслівага сямейнага жыцця Аляксандры ды Івана. Толькі адна акалічнасць азмрочвае гэты шлюб: у іх няма дзяцей. У душах шчаслівых сужэнцаў жыве надзея, што лёс урэшце будзе спагадны да іх самага запаветнага жадання, але пачынаецца вайна, Іван ідзе на фронт (змушаны як мага хутчэй пакінуць родную вёску, пазбягаючы арышту па хлуслівым даносе). Аляксандра абяцае чакаць. Яна не можа прадбачыць, якія маральныя выпрабаванні рыхтуе для яе жыццё.

У выкананні актрысы Н. Скамарохавай Саня паўстае ў самым росквіце жаночай абаяльнасці. Сваёй нерастрачанай матчынай любоўю адорвае сёстраў, іх дзяцей. Ёй уласцівыя пачуццё гумару, нават нейкая дзёрзкасць, уменне пастаяць за сябе. Аляксандра чакае Івана доўгія восем гадоў. З аднаго боку, гераіня захоўвае вернасць мужу, з другога, яна перажывае пачуццё ўдзячнасці, што пазней перарастае ў каханне, да міліцыянера Рымаса Паціса, без чыёй дапамогі ўся іх сям'я не змагла б выжыць і ў гады вайны, і пасля яе.

Сані наканаваны нялёгкі выбар паміж Іванам і Рымасам. Так ужо склалася, што абодва для яе дарагія. І рашэнне Аляксандры — каб мужчыны самі вызначылі яе лёс. Адна з найматнейшых сцэн спектакля — калі Іван (М. Кліменка) і Рымас (Р. Цыркін) намагаюцца знайсці выйсце са складанай сітуацыі. Майстэрства акцёраў, глыбокі псіхалагізм іх ігры дазваляюць узрушыць залу тымі душэўнымі пакутамі, якія перажываюць героі. Ніхто з іх не вінаваты ў тым, што адбылося. Вінаватая толькі вайна…

Калі падчас прагляду спектакля "Саня, Ваня, з імі Рымас" у вас на вачах з'явіліся слёзы, дык гэта праўдзівая прыкмета таго, што душа ваша жывая. Значыць, вы здатныя спагадаць, а ў сучасным свеце гэта робіцца вялікай рэдкасцю.

**Сваёй энергіяй Міхал Бараноўскі проста ўражвае. Ён займаецца творчасцю (піша вершы, празаічныя абразкі і музыку), арганізоўвае імпрэзы ў межах праекта "Вежа міру", з'яўляецца лідарам гурта "Нельга забыць" — карацей, згуртоўвае вакол сябе людзей творчых, якія безумоўна падпадаюць пад уплыў яго энергетыкі. Ды што казаць пра людзей, калі нават тэхніка не вытрымлівае: на пачатку інтэрв'ю мой дыктафон адмовіўся працаваць. На што Міхал аджартаваўся: маўляў, не ўпершыню такое здараецца…**



# Патраенне асобы

Анастасія ГРЫШЧУК

## Неабавязкова вычварацца

**— У вас ужываюцца тры асобы: Міхал-літаратар, Міхал-арганізатар і Міхал-музыка…**

— Такое "распыленне" асобы перашкаджае дасягнуць сваіх максімумаў у канкрэтнай галіне дзейнасці. Толькі што ты бегаў і глядзеў, як падключаныя правады і ці ўсе выступоўцы сабраліся, а ўжо праз 30 хвілін нешта спяваеш ці чытаеш. І не заўсёды атрымліваецца правільна настроіцца. Аднак хочацца, каб перамог творца. Хаця… Хай яны жывуць усе і паралельна развіваюцца. Яны нават падштурхоўваюць адзін аднаго да самаўдасканалення. Арганізатар ходзіць па ўсіх гэтых мерапрыемствах і глядзіць, што цікавіць публіку, чым можна прыцягнуць увагу — і пакрысе пачынае разумець, што ніжэй нейкай планкі літаратар і музыка пісаць не будуць.

**— А што цікава публіцы цяпер: элементы шоу ці якасць тэксту?**

*"Вежа міру" з'явілася на свет у 2008 годзе. Суполка аб'ядноўвае самых розных творцаў: музыкаў, пісьменнікаў, мастакоў... Займаецца арганізацыяй канцэртаў, фестываляў, чытанняў. Усяго на рахунку "Вежы міру" больш як 40 праведзеных імпрэз. Усе вечарыны ў рамках праекта праходзяць пад дахам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Самыя яркія з іх — "Усмешка ў падарунак" (прагляд аўтарскіх беларускіх мультфільмаў),"10.10.10 і гэтак далей…" (спалучэнне музычнай вечарыны і фестывалю хэнд-мэйду).*

— Ёсць пэўныя складнікі. У першую чаргу гэта павінна быць нешта жывое і незвычайнае, адрознае ад мерапрыемстваў у школах і ВНУ. Бо ўсе яны адбываюцца, мякка кажучы, сумна. Павінен прысутнічаць элемент разняволенасці, каб людзі не адчувалі, што прыйшлі на мерапрыемства, дзе трэба трымаць рукі на каленях. Часам так здараецца, што літаратар стварае цікавыя тэксты, але не можа іх прэзентаваць. Аўтар павінен быць крышачку артыстам. Шмат што залежыць ад вядучага, менавіта ён стварае атмасферу на мерапрыемстве. Калі людзям не сумна, можна лічыць, што на 50 працэнтаў усё ўдалося. Неабавязкова вельмі ўжо вычварацца, каб правесці нешта цікавае.

**— Якім праектам "Вежы міру" вы найбольш ганарыцеся?**

— Найбольш цікавы праект "Вежы міру" яшчэ наперадзе. Бо калі ён усё быў, то чаго на гэтую "Вежу" ісці? А найбольш удалымі лічу вечарыны "Усмешка ў падарунак" і "10.10.10 і гэтак далей…" Толькі таму, што яны былі цяжкія ў арганізацыі.

**— Вы некалі сказалі: «Пакуль будуць думаць, "ну что я там буду делать… там все разговаривают на белорусском, и мне будет неловко", — праекты не будуць мець вялікага поспеху». Як жа пераадолець моўную ізаляванасць беларускай інтэлігенцыі?**

— Рабіць двухмоўныя праекты. Каб зразумелі, што праяўляць сябе можна і на беларускай мове, а не толькі на рускай. Трэба паказваць прыкладам, што беларуская літаратурная і музычная творчасць можа быць цікавай, крэатыўнай, вясёлай, інтэлектуальнай, глыбокай, жывой…

## Міша. А далей самі разбірайцеся

**— А як з'явіўся гурт?**

— Людзей я пачынаў шукаць менавіта пад гэты праект, але з перспектывай, што потым будзем выконваць і іншую музыку. Знаёміліся мы па-рознаму. Напрыклад, з гітарыстам Віталікам Мурзічам — на вуліцы. Сядзелі ў адной кампаніі ў скверыку каля Чырвонага касцёла і спявалі. Надзейцы (*Надзея Працька*. — **аўт.**) падказалі сябры, што мы шукаем скрыпку…

*Гурт "Нельга забыць" быў створаны напрыканцы 2009-га, адмыслова пад праграму "Леаніды не вернуцца да зямлі…", якая ў рэшце рэшт выйшла пад назвай "Нельга забыць". Такая ж назва замацавалася і за гуртом.*

**— Прапаную такую гульню: ахарактарызаваць пяцію словамі кожнага з музыкаў.**

— Пяць слоў замнога… Два словы, якія першымі прыходзяць у галаву, калі казаць пра Надзею, — гэта імправізацыя і натхненне. Вова Пыльчанка — імпульсіўнасць і прафесіяналізм. Віталь — тактоўнасць і лірыка. Калі пра Волю Куваеву казаць, то гэтыя словы — пошук і барацьба з супярэчнасцямі…

**— А Міхал Бараноўскі?**

— Міша. А далей самі разбірайцеся.

## Няма ў Беларусі майго аўтара

**— У прозе вы даволі брутальна абыходзіцеся з мовай і не саромеецеся ўжываць моцныя слоўцы. У паэзіі ж бачны тонкі лірык…**

— Назваць дадзеныя рэчы літаратурай у мяне не паварочваецца язык. Гэта спробы, своеасаблівы дзённік, вучнёўскі нататнік, дзе я вучуся афармляць думкі і рабіць нейкія замалёўкі.

А тое, што там нейкія брутальныя словы ўжываюцца… Магчыма, праз нейкі час мне хопіць таленту перадаць тыя ж эмоцыі іншымі мастацкімі сродкамі. Я не лічу, што варта ўжываць ненарматыўную лексіку. Пры пэўных здольнасцях гэта можна абысці. Пакуль у мяне не атрымліваецца.

**— Ці можаце вы абмаляваць вобраз сучаснага літаратара?**

— Літаратар — гэта жывы чалавек, ён рэфлексуе па пытаннях, якія яго турбуюць. Не жадаю нікога абразіць, але… Няма ў Беларусі майго аўтара.

**— А хто ёсць?**

— Ёсць людзі, якія перажываюць і спрабуюць гэтым падзяліцца. Але майго літаратара, якога б мне хацелася чытаць, у Беларусі няма. Шмат у каго атрымліваюцца вельмі ўдалыя рэчы. Я з вялікай цікаўнасцю чытаю прозу Паўла Касцюкевіча, паэзію Рыжкова.

Цалкам мая паэзія — паэзія з рамана "Нельга забыць". Вось гэта абсалютна маё. Проста ў нас паэзія атрымліваецца ці то занадта інтэлектуальная, ці то занадта лірычная. А ў Караткевіча — нешта сярэдняе. Да таго ж, у ёй ёсць нерв — а многім не стае нерву.

Праекты

Алена ШАНДРАК

# Уваходзьце, «Дзверы» адчыненыя!

**Яны хочуць даказаць, што "аматарскі" — не сінонім "непрафесійнага". Яны арганізоўваюць розныя тэатральныя праекты і даюць удзельнікам магчымасць расці і атрымліваць вопыт. Навошта? Таму што ім гэта падабаецца! Цяпер у іх шмат сяброў і памагатых, але пачыналася ўсё з двух аматараў, якія не пабаяліся зрабіць нешта новае. Разам яны — "Сігаль" і разам арганізавалі тэатральны рух "Дзверы". Для чытачоў "ЛіМа" пра яго распавядае адзін з "бацькоў" — Мікіта Сідарэнка.**



## Думкі пра дзіця

Пазнаёміліся мы з Вовам (*Уладзімір Галак, другі "бацька"*. — **А. Ш.**) яшчэ ў школе, але сябраваць пачалі толькі пасля таго, як высветлілася, што абодва паступаем на філфак БДУ. Якраз у гэты час там працавала Галіна Праснова, і мы сталі хадзіць у франкафонны тэатр, які пазней самі назвалі "Touchons-ka" (тушонка). Чатыры гады адыгралі, а потым нам стала цесна ў гэтым тэатры, і мы вырашылі выступаць самі. Магчымасць з'явілася на адным з філалагічных канцэртаў. Мы тады яшчэ не ведалі, што мы — "Сігаль", проста выступілі дуэтам. Далей — пяты курс, дыпломы, а потым Вову забралі ў войска. Мяне запрасілі ў франкафонны тэатр, і я з ім паехаў у Руан. Праз год вярнуўся Вова, і да нас прыйшло азарэнне, што маё прозвішча пачынаецца на "сі", яго на "гал" і мы разам — "Сігаль".

## Нараджэнне

Мы хацелі выступаць, нам было сумна. Прыйшла ідэя: давай зробім спектакль. Давай. Які? Давай па Рабле? Давай. О, у Маскве будзе фестываль, давай туды? Давай. За месяц падрыхтавалі чарнавік, знялі рэпетыцыю і адправілі на фестываль. На жаль, нас не ўзялі. Мы тады падумалі: трэба зрабіць свой фестываль. Так і з'явілася думка пра "Дзверы".

Спачатку гэта быў "Рух аматарскіх тэатраў". З месцам для выступленняў дапамаглі родны факультэт і БДУІР. Мы знайшлі такіх жа зацікаўленых (тэатр "7 паверх" з БДУКіМа, тэатр-студыю "Ронд" і інш.), напісалі заяву, пайшлі ў дэканат на філфаку, падпісалі яшчэ кучу афіцыйных папер — і вось фестываль аматарскіх тэатраў "Дзверы" гатовы. Усё прайшло вельмі ўдала, на адкрыцці прысутнічала каля чатырохсот чалавек, і на кожным спектаклі прыкладна па трыста. Мы правялі першы фэст, былі вельмі ўзрадаваныя.

## Першыя крокі

Галоўнае цяпер было не страціць гледачоў. І пад Новы год мы правялі першы тэатральны капуснік. А потым прыйшла ў галаву думка: чаму б не рабіць сваё выданне, якое б пісала пра нас, пра тэатры, пра акцёраў? Так узнік альманах, які мы цяпер выдаём (пакуль што ў электроннай версіі). Аднак адным тэкстам сыты не будзеш — патрэбны сустрэчы з гледачом. Тады з'явіўся некалькі праектаў: "На сцэну!" (для тых, хто заўсёды марыў выступаць, але не меў магчымасці), пленэр (выезды на прыроду аматараў тэатра), "За зачыненымі дзвярыма" (закрытыя відэапаказы спектакляў) і інш. Да нас далучылася шмат актыўных людзей, але ініцыятыва ідзе пакуль ад мяне і Вовы. У "Дзвярэй" ёсць нават "хросны" — Аляксей Ждановіч (акцёр і фатограф), які, можна сказаць, з'яўляецца нашай трэцяй рукой. Другога фестывалю без яго магло б і не быць. Сёння ўявіць наша жыццё без "Дзвярэй" можна, але яно было б сумным і шэрым. Бо кожны дзень ты нешта робіш не таму, што трэба, а таму, што хочацца.

## Нам год!

У чэрвені 2011 года "Рух аматарскіх тэатраў" адсвяткаваў першы дзень нараджэння. Ацаніўшы ўжо зробленае, зразумелі, што наша дзейнасць выходзіць за рамкі творчасці толькі аматарскіх тэатраў. І мы перараслі ў «Тэатральны рух "Дзверы"». Нам вельмі прыемна, што ў Беларусі на аматарскія тэатры звярнулі больш увагі. У планах — працягваць праводзіць тэатральныя фестывалі два разы на год, бо тэатраў вельмі шмат. Магчыма, пазней мы зробім які-небудзь асобны праект, дзе будуць удзельнікі з іншых краін. Адкрыю сакрэт: цяпер у нас запускаецца міжнародны тэатральны праект. Не скажу з кім, але калі ўсё будзе гатова — мы пра гэта аб'явім. Выдатна, калі мы зможам дапамагаць нашым тэатрам выязджаць і паказваць сябе на іншых фестывалях. Рыхтуем яшчэ адзін праект для гледачоў, але гэта ў планах, а цяпер мы робім усё, каб заставацца цікавымі для гледачоў і чытачоў.

*На здымку: дуэт "Сігаль"*

# Нам патрэбны помнік працы

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара



**Знакаміты айчынны скульптар, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны Анатоль АРЦІМОВІЧ — аўтар помнікаў Рагнедзе і Ізяславу ў Заслаўі, князю Барысу ў Барысаве, помніка ў гонар перамогі рускіх салдат на Бярэзіне ў 1812 годзе, манумента Францыску Скарыне ў Калінінградзе, комплексу Славы ў Алма-Аце… Таксама Анатоль Яфімавіч — адзін з суаўтараў манумента "Курган Славы" пад Мінскам і мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой".**

**— Сёлета першай выстаўкай, якая ладзілася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, была групавая выстаўка скульптуры "Узбагачаючыся адно ад аднаго". Наведвальнікі мелі рэдкасную магчымасць бачыць не толькі вашы работы, але і вашых вучняў і калег. Аднак вашы творы былі адлюстраваныя на фотаздымках. Як скульптар-манументаліст не шкадуеце часам, што проста немагчыма зрабіць персанальную выстаўку з асноўных работ?**

— Самае вялікае шчасце для мастака-манументаліста — і гэта асноўны мой тэзіс, — калі яго твор застаецца ў прасторы, на месцы, калі ён гістарычны, належыць гісторыі народа, запатрабаваны не толькі сёння, а будзе запатрабаваны яшчэ доўга-доўга: пакуль жыве нацыя, народ. А што датычыць выстаўкі і немагчымасці паказаць усе манументальныя работы акрамя як на здымках, я пра гэта ніколі не шкадаваў і ніколі не думаў.

У мяне заўсёды было жаданне ўдзельнічаць у выстаўках з творамі, і ўсе яны насілі характар манументальнага гучання. Гэта, мусіць, ужо залежала ад складу майго розуму, ад майго разумення, што такое мастацтва і яго будучая місія. Выстаўка "Узбагачаючыся адно ад аднаго" адбылася крыху са спазненнем, бо прымяркоўвалася да майго 70-годдзя. Я вельмі ўдзячны сваім вучням і калегам, усім, хто браў удзел у экспазіцыі. Было крыху нечакана: сабраць столькі маіх вучняў і калег пад адно крыло. Існуе такое меркаванне, што дрэнны той вучань, які не пераўзыходзіць свайго настаўніка. Так што ўсё адбылося вельмі добра. Гэту выстаўку я не думаў рабіць: яе наладзіў мой сын са сваімі сябрамі-творцамі. Выставіць манументальныя работы проста фізічна немагчыма, таму яны былі адлюстраваныя на фотаздымках.

Наконт самой ідэі ўзбагачацца адно ад аднаго — гэта асноўная думка і задума выстаўкі: таму што і вучні, і педагогі — усе адно ад аднаго ўзбагачаюцца. Мы ўсе пастаянна вучымся. Часам мастаку дастаткова аднаго погляду, каб убачыць работу і нешта для сябе зразумець: адчуць або роднасць душ, або адчужэнне, непрыняцце.

**— Анатоль Яфімавіч, на Рэспубліканскай выстаўцы "Зямля пад белымі крыламі" ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі была прадстаўлена ваша новая работа "Прысвячэнне Курапатам". Гэта таксама, мабыць, не станковая работа, а макет будучага помніка ці мемарыяла?**

— Будучы помнік Курапатам — было б добра. Таму што гэта такое месца, дзе павінныя збірацца людзі і ўшаноўваць не толькі светлыя часіны свайго жыцця, а і сумныя ды трагічныя перыяды нашай гісторыі. Лічу, што гэта помнік будучага.

Гісторыя маёй работы такая: пры канцы мінулага стагоддзя пачалі шмат гаварыць пра Курапаты, рэпрэсіі. Нават было абвешчана некалькі конкурсаў. Вось тады з'явілася ідэя. Дадзеная работа экспанавалася на выстаўцы, але яе імкнулісе не заўважаць. Мінуў час, я перавёў яе ў матэрыял і быў задаволены, што на выстаўцы "Зямля пад белымі крыламі" яна прагучала як найбольш праўдзівая і шчырая.

**— Многія дзеці малююць не таму, што хочуць займацца мастацтвам, — для некаторых гэта патрэба. Ці адметнае прызванне чалавека з мастакоўскім талентам займацца менавіта манументальнай скульптурай?**

— У маім жыцці быў такі выпадак: больш сталы чалавек з пецярбургскай школы неяк падняў мяне на смех у тым плане, што калі, маўляў, можаш ляпіць, то і вялікае выляпіш. Але гэта няпраўда. Па-першае, у манументаліста свой вобраз мыслення. Па-другое, сваё "зрокавае" бачанне. Бо, прыкладам, глядзіш на левую нагу работы, і яна падаецца велізарнай у адрозненне ад правай. Бяжыш папраўляць правую і заўважаеш, што левая таксама маленькая. Вось гэта разуменне прасторы і ўменне працаваць з вялікім прадметам — асноўнае адрозненне ад мастака, які трымае рэч у сваіх руках і робіць яе як бы ўсю адразу.

Каб ахапіць манументальную работу, патрэбен асаблівы зрок. Гэта як пісаць вялікі літаратурны твор: пішацца план, распрацоўваецца сюжэт, бачацца пачатак і заканчэнне, сама ж праца часам займае гады. А маленькі, кампактны твор можна напісаць і за адзін дзень. Манументальны твор распрацоўваецца вельмі доўга, пачынаючы з праекта. Лічу, што мы недаацэньваем самае галоўнае на сённяшні дзень: у нас згубіўся кошт ідэі. Каштоўнасць ідэі — асноўнае. Калі ёсць каштоўная ідэя, тады і можна ствараць манументальную работу. Вось, як прыклад, нелюбоў часткі народа да твораў Зураба Цэрэтэлі — з-за не вельмі вялікай каштоўнасці яго ідэй. Так што гэта не толькі прызванне, а адна з галін мастацтва. Як у літаратуры ёсць раманісты, якія пішуць аб'ёмныя кнігі, так і аўтары, здольныя на эсэ, невялікія творы.

**— Вы разважалі калі-небудзь, што паўплывала на ваш выбар прафесіі?**

— Я вучыўся працаваць адзінаццаць гадоў: пяць — у мастацкім вучылішчы і шэсць — у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Адзінаццаць гадоў камусьці хапае, а для кагосьці недастаткова. Адзін праходзіць за год навучання гады два, другі — за тры адзін. Гэта вельмі нераўназначна. І тое, што ў нас паточны метад выхавання, — вельмі дрэнна для мастакоў. Мастака на паток не паставіш, гэта індывідуальны метад выхавання, індывідуальныя размовы, разуменне яго ўзроўню, магчымасцей і г.д. З паточнага метаду вынікае, што ўсе людзі разумеюць аднолькава. У мастацтве ўсе не павінныя разумець аднолькава, трэба захоўваць асобу. Калі выхоўваецца менавіта асоба, якая праз сябе прапускае гісторыю, нацыянальную культуру, пазнанні ў розных сферах, тады яна зробіць нешта значнае. Сутыкаўся з адной цікавай з'явай — нацыянальнае ёсць у кожнага: у армяніна — армянскае, у грузіна — грузінскае, у беларуса — беларускае. Гэта, як кажуць, невынішчальна, яно складвалася стагоддзямі і існуе з пакалення ў пакаленне.

**— Спецыялізацыя ёсць спецыялізацыя, але гэта не замкнёная прастора мастацтва. Падчас навучання, магчыма, у вас была спакуса перайсці ў нейкую іншую сферу, прыкладам, у жывапіс або займацца выключна станковай скульптурай, дробнай пластыкай?**

— Я пра гэта ніколі не разважаў. Увогуле, што прыцягвае чалавека нешта зрабіць? Ёсць вельмі шмат мастакоў, якія і музыцыравалі, і складалі вершы, займаліся псіхалогіяй, філасофіяй. І настолькі глыбока ў гэта ўваходзілі, што магло падацца, яны ўжо забыліся на сваю спецыяльнасць. Але ж не: гэта ўсё спрыяла ім, узбагачала, рабіла іх больш значнымі ў асноўнай прафесіі, спецыялізацыі.

**— Манументалісты залежаць ад вялікага дзяржзаказу, а цяпер, мабыць, такія заказы вельмі рэдкія. Раней, за савецкім часам, тыражаваліся помнікі вядомым дзеячам і г.д. Манументалісты, магчыма, былі тады больш запатрабаваныя. А на сённяшні час як?**

— Дваццатае стагоддзе нарадзіла вялікіх мастакоў. Лічу, што Вера Мухіна пакуль што яшчэ недаацэненая. Яе маштаб асэнсуюць нашы нашчадкі. Але партыйныя дзеячы яе прымусілі працаваць так, як ім трэба. Яны бачылі развіццё манументальнага мастацтва ў такіх вобразах, да прыкладу, як Ленін. Пры канцы мінулага стагоддзя скульптары абураліся, што ў іх была патрэба рабіць нейкія гістарычныя кампазіцыі, а не толькі на тэму вайны і Леніна. Але не знаходзілася агульнай мовы з кіраўніцтвам, з дзяржавай. Бо дзяржава трымала мастакоў толькі для таго, каб зрабіць тое, што яна лічыла важным. І вось надарылася тое, што павінна было здарыцца: дзяржава забылася пра мастакоў, скінула іх са свайго воза. Перабудова некаторых творцаў загубіла, а некаторых — акрыліла. Яны зразумелі, што існуе іншае мастацтва, а не толькі палітычна-партыйнае, маю на ўвазе манументальнае. За той час паспеў зрабіць некалькі рэчаў: помнікі Рагнедзе ў Заслаўі, на Бярэзіне ў памяць 1812 года, князю Барысу, Скарыне ў Калінінградзе… Лічу, што ўжо даўным-даўно ў нашай незалежнай дзяржаве трэба было паставіць помнік нашым прадзедам з нагоды паўстання 1863 года, можа, Кастусю Каліноўскаму.

Наконт XXI стагоддзя магу свядома сказаць, што наша дзяржава за гэты час зрабіла шмат рэчаў, у тым ліку за кошт мясцовых бюджэтаў. Усе святы "Дажынак" і многія іншыя заканчваліся тым, што рабіліся нейкія помнікі, дэкаратыўныя рэчы, адзначаліся юбілеі гарадоў. Прыкладам, сённяшнія "Дажынкі" ў Маладзечне, для якіх Уладзімір Жбанаў стварыў адмысловую кампазіцыю.

**— Анатоль Яфімавіч, вы шмат год выкладаеце ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У вас было багата выпускаў. Адрозніваюцца сучасныя студэнты ад былых і ці ўсе застаюцца ў прафесіі?**

— Не думаю, што калі пасля заканчэння я застаўся ў акадэміі, то быў выдатным педагогам. Цяпер я з іроніяй гляджу на той далёкі час і лічу, што мне, мусіць, спатрэбілася пяць — дзесяць гадоў, каб стаць сапраўдным выкладчыкам. З погляду дня сённяшняга — проста ўзрушаны тым, што Беларусь мае бясконца таленавітую моладзь. Сістэма нашага мастацкага выхавання складзена вельмі добра: творчыя каледжы, мастацкія вучылішчы, акадэмія. А пра тое, што не заўсёды чалавек бывае таленавіты, ніколі не шкадаваў. З аднаго боку, гэта залежыць ад самага вучня, які або шчыры, або не адкрыты выхаванню. З другога боку, ці паспявае ён усё "ўзяць" за час навучання. Ілья Рэпін, калі займаўся педагагічнай справай, сказаў, што яму хопіць аднаго Фёдара Васільева, якога ён выхаваў. Тут ёсць над чым задумацца.

**— У розных сферах жыцця існуе пераемнасць пакаленняў. Мастацтва не выключэнне, прыкладам, ваш сын Іван. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Пытанне дзяцей і бацькоў — значнае ў гісторыі. Мяне Бог, мусіць, шанаваў. Мае бацькі, дзяды, прадзеды былі праўдзівыя, сумленныя людзі. Ніколі не сумняваўся ў тым, што яны ўсё рабілі шчыра і праўдзіва. А ўжо як іх дурыў час, як іх ашуквалі, знявольвалі, збівалі са шляху — гэта ўжо іншая размова. Праўда розная ў кожнага, а ісціна адна.

Пераемнасць пакаленняў — надта цікавая з'ява. Вельмі істотна тое, што мы пераймаем і працягваем рабіць. Мне задавалі пытанне, як я буду вучыць свайго сына. Ён, дарэчы, вучыўся ў мяне. Як усіх буду вучыць, так і яго. Буду ўсім казаць, а ён, калі не дурны, зразумее як і іншыя і будзе рабіць як усе. Іван падае вельмі добрыя надзеі: інтэлектуальна, творча. Ён стане цікавай асобай. Але ж будзе не як бацька, а як новае пакаленне — будзе рабіць і бачыць крыху далей, чым я.

**— Ваша мастацтва самадастатковае. А ці адчуваеце вы духоўную падтрымку, падсілкаванне ад іншых відаў мастацтва: літаратуры, музыкі, тэатра…**

— Што такое самадастатковасць. Самадастатковым я быў у 1960-я, 80-я гады, пры канцы стагоддзя і на пачатку новага, цяпер… Але кожны раз, на кожным этапе мне было недастаткова магчымасцей рэалізаваць сваю мару, зрабіць яе больш майстэрскай, было недастаткова ўмоў, у якіх я працаваў і г.д. Сёння, калі я ўжо сталы чалавек, таксама нечага не стае, не хапае галоўнага — рэалізаваць манументальны твор, зрабіць яго, паставіць, убачыць яго жыцці.

Усе віды мастацтва ўзаемазвязаныя, падсілкоўваюць, узбагачаюць і ўзбагачаюцца адзін ад аднаго.

**— Ведаем пра ваш сённяшні праект у Смаргоні. Можа, ёсць новыя праекты або задумкі?**

— Дадзеная задума вельмі цікавая, аб'ёмная. Праект у Смаргоні ўжо напалову рэалізаваны, адліты ў памеры ў бронзе. З заміраннем сэрца чакаю таго часу, калі пачнецца ўладкаванне тэрыторыі, узвядзенне помніка і знойдуцца грошы закончыць праект. Прыкладам, калі ўся наша дзяржава працавала над Хатынню і зрабіла твор сусветнага кшталту, значасці. У Смаргоні, можа, такіх дзяржаўных намаганняў не будзе, але трэба фінансавыя ўліванні, каб тая тэрыторыя ўпрыгожвалася, прыняла комплекс. Гэта вялікая справа, але гады два стаіць на месцы. Чакаю, калі скранецца з мёртвай кропкі.

Наконт сёння. Гадоў трыццаць пяць займаўся тэмай працы, помнікам працы для горада Наваполацка. На нашай зямлі паўсталі пасля вайны не толькі адбудаваныя зруйнаваныя гарады, але і з'явіліся новыя, маладыя, якія набіраюць моцы, сілы. Адкуль жа гэта ўсё ўзялося? Усё ляжала на плячах людзей. Ці гэта не з'яўляецца геройствам, якое мы павінны ўвекавечыць? У 1930-я гады Вера Мухіна паставіла манумент "Рабочы і калгасніца", які дзесяцігоддзямі падтрымліваў ідэалогію. Адны ўжо будавалі светлую будучыню, іншыя паспелі яе раскрасці, а помнік працаваў на народ, і народ верыў гэтаму помніку. А сёння мы насы задралі, глядзім на манумент як на лапатнікаў. Каб не гэтыя лапатнікі, не было б і такой моцнай дзяржавы.

Усе гэтыя трыццаць пяць гадоў мяне адпіхвалі з маім помнікам, адсоўвалі на потым. Толькі нядаўна мае вучні папрасілі мяне вярнуцца да гэтай ідэі. Мы ў Наваполацку паказвалі праект. Дай бог, каб ён знайшоў адабрэнне і каб знайшліся ў гэты нялёгкі час сродкі для яго рэалізацыі. Гучыць ён вельмі проста — рабочая назва "Помнік будаўнікам". Неабавязкова рабіць усё адразу, а па чарзе: праект, рабочую мадэль, потым у памеры скульптуры, узвядзенне. Гэта, зразумела, зойме пэўны час, але помнік працы ў Беларусі патрэбен.

Мікалай ГУРШЧАНКОЎ,
старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў

# Замацаванне традыцыі

**Правядзенне мастацкіх пленэраў на Берасцейшчыне становіцца добрай традыцыяй. У чэрвені адбыўся пленэр у Спораве Бярозаўскага раёна, а з 24 жніўня па 2 верасня — абласны мастацкі пленэр "Краявіды Берасцейшчыны", які арганізавалі ўпраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама, абласная арганізацыя Беларускага саюза мастакоў, аддзел культуры Ляхавіцкага райвыканкама. Адным мастакам правесці такую культурную акцыю было б не пад сілу.**

У пленэры бралі ўдзел мастакі не толькі нашай арганізацыі, але і творцы з іншых рэгіёнаў. Ад Віцебскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў удзельнічаў Мікола Таранда, які, дарэчы, родам з ляхавіцкіх мясцін, і для яго гэты пленэр быў вельмі хвалюючы і жаданы. А мастакі Гомельшчыны Анатоль Отчык, Віктар Баранаў адкрылі для сябе Берасцейшчыну, яе вельмі цікавую гісторыю. Натхнёна працавалі Дот Абдусаматаў, Настасся Фяцісава і нашы маладыя мастакі Галіна Рабава, Ігар Скавародка. Цікавыя графічныя лісты зрабіў вядомы мастак з Пінска Яўген Шатохін. Сяргей Місюн ды Вячаслаў Рыбакоў, як самыя маладыя з нашай творчай каманды мелі магчымасць працаваць побач са сваімі старэйшымі калегамі і добра заявілі пра сябе. Мясцовы мастак і дызайнер Сяргей Чарановіч праводзіў экскурсіі па гістарычных мясцінах у Савейках, Грушаўцы, Фляр'янаве. Былі арганізаваныя паездкі ў Нясвіж і Мірскі замак.

Цудоўная творчая атмасфера дала свой вынік: з'явілася шмат цікавых работ. Значная частка іх застанецца ў Ляхавічах і ўвойдзе ў экспазіцыю будучага краязнаўчага музея. Пленэр стаў адметнай падзеяй у культурным жыцці Ляхавіцкага раёна. Мастакі таксама дзякавалі за добразычлівасць і цеплыню. Яны адчулі сябе запатрабаванымі, і гэта дае надзею, што ў будучым з'явяцца новыя выдатныя творы. Праз некаторы час выстаўка будзе экспанавацца ў абласным цэнтры.



***На здымку: мастак Мікола Таранда на пленэры.***

# Святло дабра Таццяны Яфанавай

Кіра ШУМСКАЯ

**Сонечным вераснёўскім днём у галерэі "Вільнюс" адкрылася персанальная выстаўка пінскай мастачкі Таццяны Яфанавай "Размова пра светлае". Сама прырода ў гэты дзень быццам пацвярджала кожны мастацкі штрых карцін: сонечныя праменьчыкі яшчэ больш асвятлялі і так светлыя работы. Восеньскае надвор'е з яго яркімі фарбамі панавала на палатне і за акном.**

На выстаўцы было прадстаўлена каля 30 работ мастачкі, выкананых у тэхніцы халоднага батыку.

Таццяна Яфанава — творчая асоба, якая цікавіцца рознымі мастацкімі тэхнікамі: піраграфія (выпальванне па дрэве), роспіс па дрэве, батык, гільяшыраванне (выпальванне па тканіне). Нават адзенне на Таццяне ў гэты важны для яе дзень было зроблена сваімі рукамі — понча яна ўпрыгожыла якраз гільяшыраваннем. Таццяна Яфанава — наватар у мастацтве. Менавіта ёй належыць ідэя стварэння выявы на двух планах у батыку.

— Мая мэта — несці дабро, цеплыню, настрой, — кажа пра сваё работы аўтар. — У жыцці я часта назірала за тым, як людзям было дрэнна… І калі яны бачаць на карцінах сум, нягоды — ім становіцца яшчэ горш. А я хачу, каб кожны, хто пазнаёміцца з маімі работамі, адчуў радасць, цеплыню і святло.

Таццяна прызналася, што яна ніколі не піша карціны ў дрэнным настроі, што карціны — гэта не яе сум, а яе радасць, шчасце, якое яна перадае гледачу...

І сапраўды, толькі зірнуўшы на работы мастачкі, адразу адчуваеш добры настрой, палотны нібы саграваюць чалавечыя душы…

Персанальныя выстаўкі Таццяны Яфанавай праходзілі ў Брэсце, Пінску і іншых гарадах нашай краіны, Польшчы (Торунь, Грудзенс), ва Украіне (Севастопаль). Але ў сталіцы Беларусі Таццяна ўпершыню прадстаўляе сваю персанальную выстаўку.

Восеньскія фарбы — гэта заўсёды прыгажосць не толькі для вачэй паэтаў, мастакоў, але і для людзей, якія здольны адчуваць тонкасць прыроднай прыгажосці. У работах Таццяны Яфанавай гэта адлюстравана яскрава.

Мастачка ўпэўнена, што ў яе творчасці ўсё толькі пачынаецца… Яна пастаянна шукае новыя тэхнікі, новыя ракурсы, таму яшчэ не раз мы ўбачым яе творы і адчуем святло, дабро і цеплыню жывапіснага свету Таццяны Яфанавай.



*Работа Таццяны Яфанавай*

# Вачыма мастака

Яўген СІНІЧЭНКА

**У сталічнай мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" з вялікім ажыятажам прайшоў вернісаж маладога мастака Аляксандра Даманава "Вочы ў вочы".**

Як заўважыў сам аўтар, работы падбіраліся не адной тэматычнай накіраванасці. Гэта было заўважана пры ўваходзе ў выставачную залу: тут і біблейскі сюжэт укрыжавання Хрыста, і футурыстычныя нацюрморты, і пераасэнсаваная аўтарская рэпрадукцыя "Чорнага квадрата". Але асаблівую, знакавую каштоўнасць уяўляў сабой партрэт Міхаіла Савіцкага, славутага беларускага мастака і настаўніка самога Аляксандра. І хаця ў экспазіцыю ўвайшлі не толькі новыя работы А. Даманава, але і яго карціны мінулых гадоў, гэта не пазбавіла агульную атмасферу свежасці і нейкай ідэйнай навізны, што асабліва ярка выявілася ў творы "Hi-Tech".

— Не лічу, што ўвасабляю ідэі смерці, разбурэння або стварэння. Гэта проста маё бачанне навакольнага свету на дадзены момант, — кажа мастак. — І я хачу, каб глядач убачыў свет маімі вачамі, каб ён паглядзеў на мяне такога, які я ёсць. У гэтым і заключаецца сутнасць назвы выстаўкі.

На вернісажы выступіў народны мастак Беларусі, графік і жывапісец Георгій Паплаўскі. Ён адзначыў, што Аляксандр Даманаў — вельмі таленавіты малады мастак, яго работы ў змяшанай тэхніцы прымушаюць задумацца пра навакольны свет. Асабліва такі роздум будзе карысны для падрастаючага пакалення.

Між іншым, гэта першая персанальная выстаўка Аляксандра ў Мінску. Раней ён прадстаўляў свае работы за мяжой (Японія, Германія). Мастак з'яўляецца стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі і ўваходзіць у маладзёжную секцыю Беларускага саюза мастакоў.

Выстаўка працягнецца да 30 верасня.

Кацярына СТАСЁНАК,
фота аўтара

# Восень з Феліксам Гуменам

**Мастацкі музей горада Віцебска прэзентуе выстаўку, якая будзе працаваць усю восень, выдатнага і ўнікальнага мастака Фелікса Гумена пад назвай "Праваслаўныя святыні".**



У камернай зале экспануецца 20 акварэляў з выявамі розных цэркваў, сабораў, якія ва ўсёй шматпланавай творчасці аўтара вартыя асобнага слова. Тут такая сімфонія колеру і святла, такое багацце выразных сродкаў, што аж дух займае! Мастак стварае вобраз таго, што бачыць, што запала ў памяць, узрадавала, зачаравала, усхвалявала... Кожная работа — своеасаблівы "партрэт" царквы і мясціны, у якой тая знаходзіцца. Адзін з самых цудоўных твораў мастака (са мной, упэўнена, пагодзяцца многія наведвальнікі) — гэта "Новадзявочы манастыр", але гэта не значыць, што астатнія карціны не вартыя ўвагі. Адмысловыя работы напісаны ў рознай тэхніцы, яны захапляюць і дапамагаюць даведацца пра штосьці новае, перажыць тыя эмоцыі, якія перажыў сам мастак. Кожны твор — нешта асобнае, сумнае ці вясёлае, але ёсць і абагульняючая рыса, і гэта — пейзаж.

У час размовы Фелікс Фёдаравіч прызнаўся, што ў творчасці найперш аддае перавагу нацюрморту, а найменш — партрэту. На пытанне, чаму ён не піша партрэты, мастак зазначыў, што цяпер цяжка знайсці мадэль для партрэтнай работы, а кветкі і пейзаж хоць і зменлівыя, але ёсць паўсюль.

Фелікс Гумен нарадзіўся 28 сакавіка 1941 года ў вёсцы Кальцова Кумарскага раёна Амурскай вобласці ў сям'і пагранічніка. Вучобу ў школе пачынаў у Маскве, а атэстат атрымаў у горадзе Ваўкавыску Гродзенскай вобласці. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава (сёння — Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. М. Машэрава). Вучыўся ў І. Сталярова, В. Дзежыца, Д. Генеральніцкага. У жыцці мастак шмат у чым быў і застаецца першым: напрыклад, за ўсю гісторыю існавання мастацкай адукацыі ў Савецкім Саюзе ён на сваю рызыку напісаў і абараніў дыплом па жывапісе ў тэхніцы акварэлі. З таго года дазволілі абараняць дыплом у тым матэрыяле, у якім студэнт больш спрактыкаваны.

Фелікс Фёдаравіч — удзельнік многіх усесаюзных, рэспубліканскіх, міжрэспубліканскіх, абласных мастацкіх выставак. Яго творы экспанаваліся ў Парыжы, Марселі, Берліне, Варшаве, Празе, Дэлі, Хельсінкі, Будапешце, Сафіі. Работы Ф. Гумена знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Віцебскім абласным краязнаўчым музеі, Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава і па-за межамі краіны.

***На здымку: Фелікс Гумен.***

# Кацярына Ваданосава:
# «Пакажыце мне мецэнатаў — і я да іх прыйду!»

**Анастасія ГРЫШЧУК, фота аўтара**

**Кацярына Ваданосава вядомая ў мінскіх музычных колах як лідар гурта "Alta mente". Але некалькі месяцаў таму яна пачала выяўляць сваю шырокую і энергічную натуру ў іншай галіне мастацтва — модным цяпер "хэнд-мэйдзе".**

**— Кацярына, адкуль узялося гэтае захапленне?**

— Нешта рабіць рукамі я пачала даўным-даўно, можа, гадоў з пяці. Вязала, вышывала... Адночы бацькоўскі пінжак перашыла. Зрабіла сабе шмат-шмат маленькіх торбачак... Памятаю, як на ўроках працы ўсе толькі вучыліся нешта рабіць, а я была ўся такая з сябе дзелавая, усё ўмела і атрымлівала выдатныя адзнакі. Тым, што называецца цяпер гучным словам "хэнд-мэйд", пачала займацца прыкладна паўгода таму, ужо калі выйшла ў дэкрэт і нарадзіла *(Кацярына гадуе дачку Стэфанію, якой цяпер 9 месяцаў і якая актыўна ўдзельнічала ў інтэрв'ю. — **А. Г.**)*. А пачалося з таго, што сядзела з цяжарная і не ведала, чым заняцца. Знайшла нейкі слоік, распісала яго і падумала: "Ой, прыгожа атрымалася!" І пайшло...

**— Ці рэальна ў сучаснай Беларусі пражыць, займаючыся толькі гэтай справай?**

— Шчыра кажучы, гэта занятак для душы, а грошы тут не адыгрываюць вызначальнай ролі.

**— Дзе могуць рэалізаваць сябе майстры хэнд-мэйду?**

— Ёсць форум *Ремесла.by*. Калі нехта лічыць сябе хэнд-мэйдшчыкам, можа там зарэгістравацца. Дастаткова часта гэты форум ладзіць выставы ў музеях — у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Праўда, не кожны можа туды трапіць. Але калі б не было Інтэрнэта — то я б сядзела са сваім хэнд-мэйдам і ніхто пра мяне нічога б не ведаў *(каталог прац Кацярыны змяшчаецца ў сацыяльнай сетцы "ВКонтакте". — **А. Г.**)*.

**— А ці ёсць вашыя працы ў "сталых" кропках — "Падземцы", напрыклад, ці ў галерэі "Ў"?**

— Ведаеце, увесь час збіраюся нешта туды аднесці... Але біжутэрыя — гэта толькі маленькая частка таго, што я раблю. Часцей займаюся вялікімі рэчамі: шафы рэстаўрырую, секцыі... Не пайду ж з гэтым: я вам секцыю прынесла, наце! Для мяне гэта не настолькі значна, насамрэч... Хаця слова "рэстаўрацыя" занадта гучнае. Правільней сказаць — стварэнне прадметаў інтэр'ера з таго, што не шкада выкінуць. Такім чынам я аздобіла сваю кватэру. У мяне, як у нармальных савецкіх людзей, ёсць нармальная савецкая мэбля, якая мяне не задавальняе ні ў якім разе. Я нешта там адшкурыла, адчысціла, пафарбавала, зрабіла недзе роспіс, дэкупаж — і атрымалася новая мэбля. Гэта падабаецца тым, хто да мяне ходзіць.

**— Пэўна, як у музей...**

— Не зусім як у музей. Гэта стылізацыя, сінтэз старога і сучаснага. Я не імкнуся да суаднясення з антыкварнымі рэчамі.

**— Хто збольшага вашыя заказчыкі?**

— Моладзь, канечне. Але цяпер і бацькі моладзі заказваюць. Пачалося ўсё са знаёмых, пасля далучыліся людзі, якія ведаюць мяне як музыканта, а потым і незнаёмыя...

**— А ці былі арыгінальныя, можа нават "вычварэнскія", замовы?**

— Ёсць адна дастаткова прышпільная замова, але яна пакуль канчаткова не матэрыялізавалася. Знаёмы бубнач замовіў настольную лямпу з барабанасольніка, якая б заканчвалася талеркай, і гадзіннік са стрэлкамі з барабанных палачак. Да гэтага часу натхняюся.

**— Дарэчы, чым натхняецеся? Дзе бераце ідэі?**

— Частку з галавы, частку з сеціва: праглядаю экспазіцыі мэблі з розных музеяў ці проста набіраю ў пошук "мэбля вінтаж", "мэбля праванс".

**— Якімі "творамі" вы найбольш ганарыцеся?**

— Дома ў мяне стаіць шафа. Хаця я не магу сказаць, што гэта найбольш удалы мой твор, але яго можна назваць знакавым, бо шафа гэтая стаяла раней на лецішчы, а лецішча — з 50-х гадоў, мэбля на ім — яшчэ з пачатку XX стагоддзя. Усё гэта збіралі мае бабуля з дзядулем. Ну вось і стаяла такая даваенная шафа, з дубу. Я прывезла яе дадому, адмыла-пачысціла, расфарбавала, распісала — і сёння яна стаіць і радуе мяне сваім пяшчотна-салатавым колерам.

**— Калі прыкінуць, колькі вашымі рукамі ўсяго зроблена "цікавостак"?**

— Як казаў Казьма Пруткоў: "Дзе пачатак таго канца, якім заканчваецца пачатак?" Гледзячы што лічыць адлікам. Калі прадметы інтэр'еру — то дзясяткі. Калі браць разам з вышыўкамі, ткацтвам і ўсім на свеце — некалькі соцень набярэцца.

**— Ёсць у вас улюбёная тэхніка?**

— Асноўная тэхніка, якой я займаюся — і яна мне больш за ўсё падабаецца — гэта дэкупаж. Сам тэрмін запазычаны з французскай мовы: "decouper" значыць "выразаць". То бок гэта калі з дапамогай розных малюнкаў аздабляеш прадметы інтэр'ера — скрыначкі, скарбоначкі... Можна ствараць састараную паверхню, з патрэсканым лакам. Я набліжаю рэчы да старажытнасці.

**— Што ў такім творчым працэсе самае складанае?**

— Самае складанае — дачакацца, пакуль высахне лак. Таму што трэба накласці — у найгоршым выпадку — шэсць слаёў. А калі фен зламаўся, а выстаўка праз тры дні, ты ходзіш вакол свайго "твора" і думаеш: "Ну калі, калі высахне гэты лак?!"

**— Ёсць у вас праект-мара?**

— Праектаў шмат, і не толькі звязаных з хэнд-мэйдам. Канечне, хацелася б, каб любімы занятак прыносіў не толькі маральнае, але і матэрыяльнае задавальненне. Наогул, каб людзям, захопленым пэўнай справай, не даводзілася зарабляць сабе на жыццё нечым іншым.

**— Для гэтага патрэбны мецэнат.**

— Ніводнага не бачыла. Пакажыце мне мецэнатаў — і я да іх прыйду! Тое ж і з музыкай, дарэчы. Часта людзі кажуць: "Кацька! Знайдзі сабе прадзюсара!" А дзе тыя прадзюсары?..

**— Вы пішаце тэкст і музыку для гурта "Alta mente", дзе яшчэ і спяваеце, і граеце на шматлікіх інструментах. Да таго ж, гадуеце маленькую дачку** *("І мужа!" — дадае Кацярына. — **А. Г.**)*. **Адсюль лагічнае пытанне: як атрымліваецца ўсё спалучаць?**

— Уласна кажучы, калі я працавала ў музеі *(Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. — **А. Г.**)*, было цяжэй. Мне працей цяпер гадаваць дачку і займацца любімымі справамі, чым хадзіць на працу і рабіць тое ж. Для людзей, якія хочуць дзейнічаць, а не проста ляжаць на канапе і пяліцца ў тэлевізар, усё рэальна. Гэта па-першае. А па-другое — не трэба баяцца. Я, калі цяжарная хадзіла, думала: усё, жыццё скончана, ніякай музыкі — буду дома сядзець і кашу варыць... Атрымалася ж зусім інакш.

***На здымку: даваенная шафа можа выглядаць сучасна.***

## З глыбінкі

## На рэстаўрацыю фрэсак

Не першы год у старэйшай на Беларусі Спаса-Праабражэнскай царкве, што ў Полацку, вядуцца работы па рэстаўрацыі фрэсак, якія тут амаль поўнасцю захаваліся. З вельмі пачэснай місіяй — перадаць сабраныя сродкі на рэстаўрацыю ўнікальных фрэсак — у Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр прыехалі госці з Мінска: галоўны дырэктар галоўнай дырэкцыі замежнага вяшчання Беларускага радыё, старшыня Полацкага зямляцтва Навум Гальпяровіч; намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага Савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч; старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі фонд культуры" Уладзімір Гілеп.

Сустрэча адбылася ў адной з залаў нядзельнай школы, што працуе пры манастыры. "У Полацкім зямляцтве, — казаў Навум Гальпяровіч, — з'явілася думка сабраць сродкі на рэстаўрацыю фрэсак святой Еўфрасінні. І мы адчулі дапамогу з боку Беларускага фонду культуры, спецыялісты якога выдзелілі спецыяльны рахунак, куды людзі маглі пералічваць ахвяраванні".

У мерапрыемстве прымаў удзел старшыня Полацкага гарвыканкама Аляксандр Пазняк, які зазначыў: "Ніхто з нас не сумняваецца, што такія святыя месцы заўсёды знойдуць водгук у душах людзей. Ад імя Полацкага гарвыканкама, Полацкага гарсавета дэпутатаў, ад імя ўсіх палачан вітаю людзей, якія сапраўды ўшаноўваюць Полацк, прападобную Еўфрасінню Полацкую і гэтае святое месца". На рэстаўрацыю фрэсак Беларускім фондам культуры сабрана чатыры мільёны рублёў. З рэспубліканскага бюджэту на гэтыя ж мэты сёлета выдаткаваны адзін мільярд рублёў.

**Вольга ГАВЯЙНОВІЧ, г. Полацк**

## Маладосць, грацыя, талент...

Упершыню жыхары Сянно пазнаёміліся з вакальнай групай "Три нити" падчас правядзення ўлетку арыгінальнага шоу "Краса Сенненшчыны". На працягу ўсяго конкурсу група ў складзе трох сімпатычных дзяўчат радавала гледачоў вясёлымі, яркімі кампазіцыямі.

"Три нити" спадабаліся і запомніліся. Іх пачалі запрашаць для выступлення на розных мерапрыемствах. Прадказваюць, што ў далейшым дзяўчаты маюць усе шанцы паказаць сябе і на абласной, і на рэспубліканскай сцэне. А пакуль яны надта юныя. Вольга Шыбека і Марына Грыцаева — вучаніцы 11 класа сеннеск͏ай сярэдняй школы № 1 імя Заіра Азгура. Ініцыятарам стварэння музычнага калектыву была іх сяброўка Юлія Крыўчанка. Дзяўчаты кажуць, што назва групы павінна асацыявацца з самімі ўдзельніцамі — Вольгай, Юліяй і Марынай. Праўда, іншы раз склад крыху змяняецца. Студэнткі, якія прыязджаюць у Сянно, жадаюць унесці сваю лепту ў развіццё калектыву. Для такіх зменаў у заснавальнікаў групы ёсць у запасе невялічкае дапаўненне да назвы ў выглядзе знака плюс — "Три нити+".

Юным спявачкам іншы раз не хапае вольнага часу. Бо акрамя музыкі і сцэны ў іх жыцці прысутнічае школа. Але прызнанне землякоў дае стымул для доўгіх рэпетыцый і прыгожых выступленняў.

**Вікторыя ДЗЕМЧАНКА, г. Сянно**

## Афарызм

*— Што значыць любіць? — Шкадаваць больш, чым сябе.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас: 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-84-61; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04, 284-66-71; аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71; бухгалтэрыя — 284-66-72; Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2848
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 22.09.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4574
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12